

# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

26 КАСТРЫЧНІКА 2001г. № 43/4125 КОШТ 134 РУБ.











# Праспект Скарыны, плошча Незалежнасці, Універсітэт...

Можна агарадзіць парканам кавалак лесу ці поля, паставіць на агароджанай тэрыторыі слуп са сцягам і, назваўшы ўсё гэта дзяржаваю, абвясціць суверэнітэт. Пасля сесці пад слуп і чакаць амбасадараў з блізкага і далёкага замежжа. Чакаць будзеш да скону... Бо агароджаная тэрыторыя, слуп са сцягам і картуз з цэшкай яшчэ не дзяржава. У геаграфічным сэнсе дзяржава — гэта месца, дзе нарадзілася і жыве, працуе і бавіць час Нацыя, інакш кажучы — грамадзянская супольнасць. А ў сэнсе духоўным Дзяржава і ёсць форма існавання Нацыі. Суверэнітэт жа складаецца з мноства чыннікаў, але ці не галоўны з іх — інтэлект... Таму юбілей Беларускага дзяржаўнага універсітэта — гэта нацыянальнае свята. Па маштабе, па змесце, па сэнсе. З часоў Францішка Скарыны ў нашай мове існуе словаспалучэнне alma mater. Апошнія восемдзесят год беларускія студэнты называюць свой сталічны універсітэт — спадкаемцам універсітэта Віленскага і славутага Полацкага калегіума. Праўда, само разуменне “паважанага ўзросту” не надта стасуецца з установаю, дзе людзі сталага ўзросту складаюць абсалютную меншасць. Студэнцтва і маладосць — сінонімы.

**П. В.**



*Фота М. ПРУПАСА*



# КОЛА ДЗЁН

***Сёлетняя восень не спяшалася прад'яўляць лету свае правы, не падганяла яго саступаць месца слаце, холаду і панылнасці. Наадварот, яна падаравала ўсім нам нязвычна шмат сонечных дзён так званага "бабінага лета". Але ўсяму ўрэшце прыходзіць канец. Прырода бярэ сваё. На двары ўжо — канец кастрычніка. Усё часцей начамі пракідваецца калючы — ад нязвыкласці — марозік, аздабляе раптоўна зжухлую траву, апалую лістоту, платы-штыкетнікі густой і шорсткай шэраннню, пакрывае звонкім і празрыстым лядком лужыны на дарогах і пакінуты на двары посуд з вадою. Няўмольна насоўваецца перадзім'е, а там, вядома ж, прыйдзе і сама пані-зіма. Якой яна будзе? Мяккай, маласнежнай, туманова-адліжнай, як многія гады запар апошнім часам, ці снежнай, завірушнай, траскуча-марознай? Пытанне гэтае — не пустаслоўнае. Зіма — пара трывогі, нялёгкіх клопатаў і выпрабаванняў. Для ўсяго жывога. Нездарма паэт пісаў: "Павінна ж быць і ў зайца радасць перад халоднаю зімой". Тым больш — у чалавека. А дзе яна, нашая радасць? На жаль, для весялосці і радасці асаблівых падстаў няма.***

***А зіма, між тым, сапраўды не чакае. Вось ужо і гадзіннікі свае паслязаўтра мы перавядзём на зімовы час…***

### ДАЎЖНІКІ ТЫДНЯ

Канцэрн "Белэнерга" гатовы да асенне-зімовага сезона. Такую заяву зрабіў журналістам прэзідэнт канцэрна спадар Мішук. Ён запэўніў, што ніхто з нас зімою мерзнуць і сядзець у цемнаце не будзе. Што ж, дай Бог, каб гэтак было. Але на чым грунтуецца такая ўпэўненасць? Каб было ўдосталь газу і электраэнергіі, патрэбны грошы. А дзе іх узяць? Канцэрну спажыўцы энергіі вінаваты (на пачатак кастрычніка) 534 мільярды рублёў. 65 працэнтаў гэтага доўгу — на рахунку сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Ці вялікая надзея, што яны калі-небудзь расплацяцца? На жаль, вельмі малая. Не надта дапаможа і тое, што 250 спажыўцоў-прадпрыемстваў адключаны (у знак пакарання за неплацяжы) ад сістэмы энергазабеспячэння, а яшчэ 5 тысяч (!) маюць абмежаваны доступ.

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

БДУ спаўняецца 80 гадоў. Сама дата прыпадае на наступны аўторак — першы ў Беларусі універсітэт нарадзіўся 30 кастрычніка 1921 года, аднак урачыстасці пачаліся ўжо на гэтым тыдні юбілейнымі навуковымі чытаннямі, што прайшлі 23—24 кастрычніка. Праграма свята — вялікая і насычаная, у юбілейных мерапрыемствах прымуць удзел шматлікія госці — блізкія і далёкія. Адбудуцца ўрачыстае пасяджэнне, адкрыццё ва універсітэцкім скверыку помніка Кірылу Тураўскаму, юбілейная выстава, студэнцкі кірмаш, тэатралізаваны рыцарскі турнір, канцэрты студэнцкай мастацкай самадзейнасці, дыскатэка з назваю "Энергія новага стагоддзя" і нават футбольны матч на стадыёне "Дынама" (ён пройдзе, дарэчы, заўтра) з удзелам зорак беларускай і расійскай эстрады. Свята БДУ — гэта свята не толькі сённяшніх студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта, але і многіх тысяч ягоных выпускнікоў, свята, не будзе гучна сказана, усяго нашага народа.

### КРАДЗЯЖЫ ТЫДНЯ

У газеце "Белорусская нива" за 20 кастрычніка змешчана сціплая інфармацыя аб тым, што "на Брэстчыне пачасціліся крадзяжы жывёлы". Каб жа толькі на Брэстчыне! З'ява гэтая, на жаль, паўсюдная. Крадуць бязбожна. З фермаў, з запозненых сёлетніх пашаў, з агароджаных загонаў. Найперш цялят і свіней, але не грэбуюць і больш буйной здабычай — бычкамі, каровамі і коньмі. Рогі і капыты пакідаюцца на месцы ці ў бліжэйшым ляску, а ўсё астатняе ідзе проста на базар. Самае дзіўнае ва ўсім гэтым — бязладнасць гаспадароў і суцэльная беспакаранасць злодзеяў.

### ТРЫВОГА ТЫДНЯ

І яшчэ адна інфармацыя з Брэстчыны, гэтым разам — на старонках "Рэспублікі" за 23 кастрычніка: "На зямлі Берасцейскай жыве 2400 дзяцей-сіротаў, каля чатырох тысяч дзяцей-інвалідаў і 11 тысяч дзяўчынак і хлопчыкаў з асаблівасцямі псіхічнага развіцця". Лічбы гэтыя зноў наводзяць на сумныя высновы. Брэсцкая ж вобласць у гэтым плане — не горшая з абласцей. На Гомельшчыне, скажам, ці на Магілёўшчыне сітуацыя са здароўем дзяцей куды горшая. Усё гэта вельмі трывожна. Кароткачасовымі выездамі за мяжу на аздараўленне і летнімі шэрановымі кампаніямі справа наўрад ці будзе выпраўлена. Меры патрэбны кардынальныя. Калі і якім чынам дойдуць у нас рукі да гэтага? Мы любім гаварыць: "Дзеці — наша будучыня!", але мала робім для таго, каб гэтая будучыня была здаровай…

### ЗАРОБКІ ТЫДНЯ

Як паведаміла Міністэрства статыстыкі і аналізу, сярэдняя налічаная зарплата рабочых, служачых і калгаснікаў у верасні склала 141 тысячу 295 рублёў, што на 3,1 працэнта менш, чым у жніўні, рэальнае ж падзенне зарплаты (з улікам росту цэн на тавары і паслугі) склала 5,1 працэнта. Заробкі скарацiліся практычна паўсюль, а найбольш — у калгаснікаў (на 15,2 працэнта) і ў рабочых саўгасаў (на 13,2 працэнта). Вось такая адна з нашых "радасцяў" — "перад халоднаю зімой"…

### ПАШТОЎКІ ТЫДНЯ

Паштоўкі, прысвечаныя адметным і гістарычным мясцінам Брэста, выпусціла абласная пошта. На першы погляд, нічога асаблівага. Аднак жа ў нашых — беларускіх — акалічнасцях факт гэты не такі ўжо і малаважны. Гэта добры прыклад для ўсіх астатніх абласных поштаў і найперш — для сталічнай. Ненармальна, што гэтая ніша ў пераліку друкаванай прадукцыі дасюль запаўняецца не мясцовай, а расійскай прадукцыяй, прытым не самага добрага зместу і якасці. Так што ў Брэсце зроблены правільны і разумны крок.

### ШТАБ ТЫДНЯ

"Сёння намеснік прэм'ер-міністра Аляксандр Папкоў правядзе чарговае пасяджэнне рэспубліканскага штаба. Будуць разгледжаны пытанні завяршэння неадкладных работ і сельскагаспадарчага года ўвогуле. У прыватнасці, выклікае заклапочанасць арганізацыя на месцах пад'ёму зябліва, выкананне прагнозных гадавых паказчыкаў у раслінаводстве і жывёлагадоўлі, стан спраў у аграрнай эканоміцы, стварэнне падмурка для работы ў 2002 годзе, закупкі мяса і малака ў насельніцтва і разлікі за іх, практычная рэалізацыя праграмы ўдасканалення аграпрамысловага комплексу". Дзіўна чытаць такія паведамленні на старонках нашага друку. Пара 6 ужо і вызваліцца ад грузу мінулага. Ці ж незразумела, што ўсе гэтыя пытанні вырашаюцца не на пасяджэннях штабоў ці селектарных нарадах, а там, на месцах, дзе людзі сеюць, жнуць, дояць?

ФЕСТЫВАЛІ

# Майстры мастацтваў на Гродзеншчыне

Днямі ў Гродзенскай вобласці адбыўся арганізаваны Міністэрствам культуры сумесна з Белканцэртам фестываль "Майстры мастацтваў — працаўнікам сяла", у якім узялі ўдзел пісьменнікі, мастакі, амаль 100 спевакоў, музыкантаў, танцораў, у тым ліку знакамітыя "Харошкі", "Церніца", "Купалінка", "Чараўніцы", мастацтва якіх вядома далёка за межамі Беларусі. Як адзначыў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Валерый Гедройц, да якога мы звярнуліся з гэтай нагоды, у савецкі час існавала шмат розных мерапрыемстваў: фестываляў, святаў мастацтва, у тым ліку і фестываль "Майстры мастацтваў — працаўнікам сяла", які праводзіўся на Беларусі шмат гадоў. Тады фестываль доўжыўся на працягу аднаго тыдня. Удзельнікі — прафесійныя і аматарскія калектывы — імкнуліся пабываць у калгасах і саўгасах з канцэртнымі праграмамі. Але пасля, на жаль, часы змяніліся, гэты фестываль пацiху знік і перастаў існаваць: у апошнія дзесяць гадоў яго практычна не было. У пачатку гэтага года ў Палацы Рэспублікі адбылася нарада работнікаў культуры з удзелам вышэйшага кіраўніцтва нашай краіны, на якім разгледзаліся шматлікія праблемы развіцця нацыянальнай культуры, мастацтва, у тым ліку звярталася ўвага і на тое, што неабходна значна палепшыць арганізацыю культурнага абслугоўвання сельскага насельніцтва. Было прапанавана ўзнавіць вышэйпамянёны фестываль. Яго аднавілі, нават захавалася былая назва. Зараз мерапрыемствы расцягнуты амаль на ўвесь год. Сёлета фестываль ужо адбыўся ў Віцебскай, Гомельскай, Брэсцкай, зараз у Гродзенскай вобласці. Плануецца правесці такі самы фестываль у Мінскай вобласці, у Валожынскім і Барысаўскім раёнах, а Магілёўская вобласць вырашыла развіць ідэю і правесці фестываль адразу ва ўсіх раёнах сваёй вобласці. Паўсюды фестываль вельмі цёпла прымаецца жыхарамі раённых цэнтраў, вёсак, гаспадарак. Акрамя таго, Міністэрства культуры вырашыла такія творчыя паездкі падмацаваць матэрыяльна, бо ўстановы культуры зараз дрэнна абсталяваны, мала спецыяльнай тэхнікі, музычныя інструменты і сцэнічныя касцюмы пазносіліся і аднаўляюцца вельмі слаба. Міністэрства культуры паступова набывае ўсё неабходнае: гукаўзмацняльную і капіравальную тэхніку, інструменты на агульную суму 15-16 мільёнаў рублёў. Пасля таго, як закончыцца гэты год, мы прааналізуем вынікі, хаця ўжо сёння магу сказаць, што яны станоўчыя і ідэю трэба захаваць. Мне ўяўляецца, што на наступны год геаграфія фестывалю пашырыцца ў два разы, бо вельмі неабходна, каб нашы працаўнікі вёскі, тыя, хто прыносіць багата карысці сваёй працай, не засталіся ўбаку ад тых працэсаў, што адбываюцца ў культуры нашай краіны.

Усё, слушна зазначае і падкрэсленае намеснікам міністра культуры, атрымала яскравае і відавочнае ўвасабленне ў Лідскім і Воранаўскім раёнах, дзе, нягледзячы на фінансавыя складанасці, вельмі шануюць і любяць мастацтва. Тут, на старажытнай зямлі, дзе шмат дзесяцігоддзяў запар нараджаецца, жыве, крынічыць незвычайны цуд крышталёвага мастацтва, захоўваюцца адмысловыя ўзоры ўмельства мясцовых майстроў, пераконваешся, што без беларускай культуры жыццё сапраўды немагчыма, што яна — важная частка нашага духоўнага існавання, і мы павінны прыкладаць усе намаганні, каб яно ўзбагачалася.

Цёпла прымалі жыхары Воранаўшчыны і Лідчыны спевакоў, танцораў са сталіцы, зацікаўлена слухалі намесніка старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навума Гальпяровіча, які выступаў з вершамі ў бібліятэках, музычных школах, дамах культуры. Ансамбль "Церніца", які кіруюць Галіна і Іосіф Несцяровічы, пабываў у вёсцы Пагародня, дзе гледачы авацыямі сустракалі "Паляну", "Палескія гульні", "Сена маладое" ў выкананні ўдзельнікаў ансамбля, а калі дайшло да знакамітых "Ручнікоў", таньчыць і падпяваць узяліся нават сівыя бабулі. Як заўважыла пасля Наталля Валер'еўна Вашкевіч, дырэктар Воранаўскага дома культуры, таленты на Беларусі не горшыя за іншыя краіны, варта толькі ўсвядоміць гэта.

Былі выказаны пажаданні, каб фестываль культуры зрабіўся на Гродзеншчыне традыцыйным, бо ён збліжае людзей, робіць іх дабрэйшымі і мудрэйшымі, лепшымі.

**Марыя РУДОВІЧ**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

## Збіраліся драматургі

На чарговым пасяджэнні секцыі драматургіі былі разгледжаны важныя пытанні.

Члены бюро секцыі новага складу абмеркавалі творчасць Міколы Захаранкі. Гэты аўтар жыве і настаўнічае на Лагойшчыне і вядомы як аўтар п'есы "Паехалі", якая ставілася ў Купалаўскім тэатры. Паспяхова працуе ён і ў жанры дзіцячай драматургіі. Вырашана рэкамендаваць М. Захаранку да прыёму ў СБП.

Старшыня секцыі Галіна Каржанеўская расказала пра ход рэспубліканскага конкурсу на лепшую п'есу пра дзяцей, у якім прынялі ўдзел як маладыя, так і сталыя аўтары з розных абласцей і раёнаў рэспублікі. Вынікі конкурсу будуць абвешчаны на вечарыне, якая затрымалася з-за адсутнасці сродкаў.

На пасяджэнні адбыліся выбары старшыні секцыі. Адзначана актыўная грамадская праца Г. Каржанеўскай, і яна зноў пакінута ўзначальваць секцыю драматургіі.

**Я. ІВАНОЎ**



ДАТЫ

# Дом з музамі на фасадзе

15 кастрычніка 1981 года Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі Беларусі справіў доўгачаканыя ўлазіны. Патуляўшыся колькі сезонаў па сцэнах сталічных палацаў культуры ды клубаў, малады і папулярны калектыў дачакаўся свайго ўласнага дома: можна сказаць, на падмурку невялічкага фабрычнага клуба быў узведзены новы сучасны будынак. Акустычныя вартасці яго залы адразу ж выклікалі, скажам так, скептычнае стаўленне па абодва бакі рампы. А вось аздабленне інтэр'ера і вонкавае аблічча захапляюць і дагэтуль.

Калісьці "ЛіМ" падрабязна распавядаў пра новы тэатр і яго стваральнікаў. Прамінула роўна 20 гадоў; многае змянілася і ў ім, і вакол яго. Нават назва: цяпер гэта Дзяржаўны музычны тэатр Беларусі. Ды па-ранейшаму сустракаюць публіку грацыёзныя музы, што пасяліліся на галоўным фасадзе. Іх постаці няўгледна лунаюць і ў атмасферы тэатра, калі яна поўніцца творчасцю, натхненнем артыстаў.

Настрой жа і ў артыстаў, і ў іх саслужбоўцаў, якія забяспечваюць вытворча-мастацкае жыццё ў доме муз, мае быць радасны. Як мы паведамлялі, сёлета, упершыню за два дзесяцігоддзі існавання гэтага будынка, быў зроблены рамонт закулісных часткі — памяшканняў, дзе ў асноўным адбываюцца складаныя працэсы нараджэння роляў, вобразаў, спектакляў, дзе артысты, музыканты адпачываюць або рыхтуюцца да сустрэчы з публікай.

Мінчукі любяць гэты тэатр, а тэатр любіць сваю публіку. Дзеля яе, самай дэмакратычнай і самай удзячнай, "стрымліваецца" і рост кошту білетаў. Як паведамілі нам у Дзяржаўным музычным тэатры, з пачатку сезона самы дарагі білет на вячэрні спектакль каштаваў 2,5 тысячы рублёў, самы танны — 265 рублёў (25 працэнтаў глядацкіх месцаў прадаецца па т. зв. сацыяльных цэнах, каб у тэатр маглі патрапіць студэнты, пенсіянеры, маламаёмныя). На раніішніх (маркуецца, дзіцячых) імпрэзах свае цэны: самы дарагі білет — 1800 рублёў, самы танны — 95. А цяпер параўнайце гэтыя цэны на "спажыву духоўную" з коштам іншых "нехарчовых прадуктаў", правіянту, паслуг і… камерцыйных масавых відовішчаў, музычна-забаўляльных шоу!

Улічваючы рэаліі жыцця, тэатр мяркуе ўзняць верхнюю мяжу кошту білета на прэм'ерны спектакль да 5 тысяч рублёў. Дарэчы, бліжэйшая прэм'ера — "Лятучая мыш" Я. Штрауса — плануецца на 10 лістапада.

**С. ВЕТКА**

## *І скрозь пякучыя агні ляціць да нас душа паэта...*

**17 кастрычніка ў памяшканні тэатра "Зьніч", што ў Чырвоным касцёле, адбылася прэзентацыя новых паэтычных зборнікаў Людмілы Рублеўскай і Віктара Шніпа. Імпрэза мела назву "Рыцарскія хронікі".**

**Сама зала, прыглушанае святло, запаленая на сцэне свечка стваралі атмасферу хатняй утульнасці і адначасова рамантычнасці. Было ўражанне, што ў гэты вечар тут сабраліся сябры, каб правесці час за шчырай размовай. Вечарыну адкрываў сваімі чароўнымі матывамі гурт старажытнай музыкі знанага ансамбля "Харошкі". Здавалася, што зараз на сцэну выплывуць ва ўсёй сваёй раскошы сярэднявечныя дамы і іх рамантычныя рыцары. Зачаравана слухалі прысутныя вершы Людмілы Рублеўскай і Віктара Шніпа, якія чыталі пад музыку "Харошак" заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Ларыса Горцава і супрацоўнік музея гісторыі Беларусі Ірына Зварыка. Словы вершаў і гукі інструментаў так арганічна зліваліся ў адно цэлае, што міжвольна складалася ўражанне, быццам ты апынуўся ў зачараваным царстве.**

**І вось, нарэшце,на сцэне з'явіліся і самі віноўнікі святочнай вечарыны. Людміла Рублеўская — аўтар паэтычнага зборніка "Рыцарскія хронікі", і Віктар Шніп, чый зборнік называецца "Воўчы вецер". І не дзіўна, што яны выдадзены пад адной вокладкай. Імёны Віктара і Людмілы добра знаёмыя чытачу, паэты стварылі цудоўную мастацкую сям'ю, абое працуюць у газеце "Літаратура і мастацтва".**

**Народу на вечарыне, якая абяцала быць насычанай і цікавай, сабралася шмат. Але разлічана ўсё ж яна на сапраўднага аматара паэзіі. Гледачам спадабаліся выступленні бардаў Пятра Русава, Кастуся Герашчанкі, Аляксея Галіча, якія паклалі вершы паэтаў на музыку. Вядома, не абышлося і без выканання ўласных твораў самімі аўтарамі, бо ніхто не зможа перадаць усю паўнату думкі, укладзеныя ў твор пачуцці так, як той, хто напісаў яго.**

**Але, як мне падалося, праз святочнасць мерапрыемства ўсё ж праглядваліся нейкі смутак, самота. Як высветлілася потым, не я адна так меркавала. Напрыканцы героі вечара пачалі зачытваць запіскі, якія клаліся на іхні стол падчас асноўнай дзеі, і ў адной з іх нехта спытаў, чаму вершы аддаюць такой самотай. На што Віктар Шніп адказаў: "Я не ведаю, як пісаць вясёлыя вершы".**

**Безумоўна, адным з найцікавейшых пытанняў, якое можна задаць паэту, —пра пачатак яго творчасці. Вось як прагучаў адказ Віктара Шніпа: "Першы верш з'явіўся ў 5 гадоў, запісаў у 9, у 12 даслаў у "Звязду", на што паштальёнка сказала маёй маме: "Ваш хлопец нешта там у газеты піша. Глядзіце, каб міліцыя не забрала". Пасля два гады нікуды нічога не пасылаў".**

**Прыведзенае мной словазлучэнне "мастацкая сям'я" ўжыта не для прыгожага слоўца. Не толькі бацькі-паэты маюць прамое дачыненне да мастацтва, але і іх дзеці, Максім і Вераніка, што вучацца ў гімназіі-каледжы мастацтваў і, магчыма, будуць працягваць справу бацькоў, узбагачаючы айчынную культуру.**

**Наколькі праўдзівым будзе сцвярджэнне, што ўсе рэкі ўпадаюць у мора, настолькі лагічнай з'яўляецца раздача аўтографаў і пажаданняў напрыканцы любой вечарыны. Прыхільнікі паэзіі шчыльна абступілі паэтаў, так што запытацца ў іх што-небудзь было немагчыма. Ну што ж... застаецца толькі пераканацца ў тым, што "Рыцарскія хронікі" і "Воўчы вецер" хутка абляцяць Беларусь і знойдуць чаканыя водгукі сярод прыхільнікаў творчасці Віктара Шніпа і Людмілы Рублеўскай.**

**Алена ШУМІЛАВА,**
**навучэнка МДПК № 1**

*Сам-насам з Радзімай і часам*

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Святое прычасце

Мне ўжо даводзілася гаварыць у друку пра апантаную патрыятычную працу пісьменніка-краязнаўцы, гісторыка, культуролага і выдаўца Міхася Казлоўскага. "І выдаўца..." — бо менавіта ён ёсць выдаўцом і рэдактарам часопіса "Куфэрак Віленшчыны", апошні нумар якога (№ 2 за 2001 год) я асабіста чытаў (як і ўсе папярэднія нумары) так: прачытаю старонку ці дзве, а то і паўстаронкі, прыкладу "Куфэрак" да сэрца, звёўшы павекі, пахітаю галавой, пасяджу нерухома, вытру замглёныя вочы, і тады ўжо чытаю далей. Каб праз нейкую хвіліну-другую зноў адарвацца ад тэксту, зноў знерухомець і — ці заслязіцца, ці застагнаць ад гневу... Не, спяшаюся сказаць, гэта не сентыментальнасць чалавека, якога сам узрост правакуе на няпрошаную слязу. Гэта — той момант святога прычасця, калі чалавек, раптам ці нарэшце, пачуецца ў стане глыбокага эмацыянальна-душэўнага ўзрушэння, можна сказаць — катарсісу, калі чалавеку пашчасціла не справіцца з гэтым узрушэннем без спазмаў у горле. Ці гэта сляза ад шчасця, ці ад болю — не ведаю, мабыць, і ад таго і ад другога разам. І ад болю — ад маланкава-пранізлівага ўсведамлення, **што** з намі, беларусамі, рабілі і зрабілі, як нас бэсцілі і знішчалі! І ад шчасця — што насуперак усяму мы ёсць, нас не знішчылі, не загубілі даастатку, і мы будзем, будзем, будзем! —нікому загубіць нас і не ўдасца! Мы будзем — пакуль у нашых сэрцах не гасне памяць пра такіх беларусаў, як Адольф Клімовіч, пакуль мы будзем трымаць такія імёны высока-высока на нашых святых харугвах.

А што за імя, што за постаць Адольф Клімовіч? — спытае нехта з чытачоў "ЛіМа". Вось у гэтым і рэч — мы нават не ведаем, хто гэта. А гэта...

Дамо слова Міхасю Казлоўскаму. "На вялікі жаль, як у нас часта бывае, на сённяшні дзень гэтае імя амаль забытае, як, дарэчы, імёны і іншых верных сыноў і дачок беларускага народа. У ягоным жыцці яшчэ шмат загадак, невядомы лёс некаторых ягоных прац, але і тое, што нам даступна, ставіць яго ў шэраг найвярнейшых і найвыдатнейшых сыноў Маці-Беларусі."

Так, бясспрэчна — адзін з найвярнейшых і найвыдатнейшых. Адзін — скажам яшчэ і так — з тых нашых беларускіх святамучанікаў, без чыёй самаахвярнай працы мы былі б сёння яшчэ ў горшым, яшчэ ў больш цяжкім становішчы. Можа быць, у такім, што нават не маглі б вось так, прылюдна, і думкамі падзяліцца. А мы ўсё-такі гэтую магчымасць яшчэ маем, яшчэ дзелімся, спавядаемся, гутарым... І спадзяёмся, што будзем спавядацца і гутарыць яшчэ смялей, яшчэ больш шчыра. І не толькі гутарыць, але і працаваць, і дзейнічаць, — рабіць тое, што павінны. Тым болей, што маем такія ўзоры грамадзянскай руплівасці, патрыятычнай самаадданасці, як Ён — Адольф Клімовіч.

Вядома, каб адкрыць для сябе гэту постаць ва ўсёй яе велічы і вабнасці, трэба дэталёва пазнаёміцца з яго біяграфіяй і з ягонымі навуковымі, педагагічнымі, публіцыстычнымі і іншымі працамі. Гэтакае знаёмства ўва ўсіх нас наперадзе, — будзем спадзявацца — у недалёкай будучыні. А для пачатку — прачытайма хоць тое, што змешчана ў "Куфэрку": артыкул Міхася Казлоўскага "Нашчадак слаўных крывічоў", тры фрагменты "З перажытага" самога А. Клімовіча і часцінку яго ліставання з дзеячамі беларускай культуры. Прачытайма і запынімся думкай хоць на некаторых момантах яго сыноўскіх споведзяў, яго навуковых, мысьлярскіх азарэнняў і высноў. Як, напрыклад: "Вільня для беларусаў — гэта не толькі гістарычны цэнтар нашага нацыянальнага адраджэння, але і супольная ўласнасць гістарычнага існавання. Беларусы ў Вільні не падкідашы, не захопніцкія ці інакш "вызвольніцкія" наслаенні. Таму для ўсіх беларусаў нічога больш натуральнага, як, шануючы самых сябе і сваё акружэнне, перастаць бязмысна капіяваць чужыя назовы, захаваць, прынамся, у прыватным ужыванні стары гістарычна-беларускі назоў "Вільня"!"... Або: "Сказаць трэба проста: беларусы, упоеныя платанічным сном "сацыялістычнай нацыі", усяго гэтага быццам не бачаць". Надзвычай ёмкая і дакладная формула! Іменна — упоеныя платанічным сном. Іменна — быццам не бачаць. Сказана ў 1967-м, але — зусім як сёння. У тым жа годзе было ім напісана і такое: "Адна рэч урадавыя наказы, якія заўсёды мяняюцца, і зусім іншая рэч — сведамая людская воля, якая ўсё перамагае!"

Ну, а яго разважанні пра Крывію і крывічоў? Падамо іх у пераказе М. Казлоўскага: Адольф Клімовіч "неаднойчы ўслед за сваім сябрам Уладзімірам Жылкам паўтараў: "Так — я крывіч і хачу, каб была на свеце крывіцкая нацыя". Ён разумеў, што тэрмін "Беларусь" — "толькі магчымасць, паўсвядомасць дзіцяці, нацяк на гісторыю, але яшчэ этнаграфія, а "Крывія" — гэта творчасць і форма, сутнасць якое — нацыя".

Так разумелі праблему нашага саманазову Вацлаў Ластоўскі, Янка Станкевіч, Уладзімір Жылка, — так разважаў і А. Клімовіч. Беларусь — гэта толькі этнаграфія (я дадаў бы — і палітыка), а Крывія — гэта "творчасць і форма, сутнасць якое нацыя". Незалежна ад таго, верне калі-небудзь наш народ сабе ўласнае гістарычнае імя (крывічы, ліцвіны) ці не верне — у гэтых разважаннях ёсць той глыбінны сэнс, той адзіна верны навуковы падыход, якім кіраваліся пры самавызначэнні ўсе народы свету.

Жыццёвы шлях Адольфа Клімовіча — грамадскага дзеяча, палітыка, асветніка, навукоўца, публіцыста, выдаўца, рэдактара, педагога, музыкі — суцэльны ланцуг драматычных выпрабаванняў, пакутлівых парываў да мэты і яшчэ больш пакутлівых чорных палос роспачы. Чытаць пра яго жыццё цяжка, скрушна, балюча. І пра тое, як ён змагаўся за Беларусь пад палякамі, і як ён хацеў хоць нешта зрабіць для асветы беларускай моладзі пад немцамі, і як у думах пра Бацькаўшчыну ён заходзіўся ад болю, ад крыўды і гневу ў сталінскіх лагерах смерці... І пра тое, як "у апошнюю дарогу яго праводзілі старыя сябры і аднадумцы" Ларыса Геніюш, Янка Багдановіч, Пётра Сергіевіч, Янка Шутовіч і яшчэ некалькі чалавек, а моладзі, якую ён так любіў і шанаваў, сярод прысутных не было...

Так, цяжка чытаць старонкі нашай гісторыі, але — трэба. І чытаць, і перачытваць. І няхай і наша душа курчыцца ад болю, хай і ў нас ускіпаюць крыўда і гнеў, і нараджаюцца пракляцці тым, хто быў "падарыў" нашаму народу такое жыццё, хто адабраў у нас нашу гісторыю, абрэзаў, абкарнаў нашу нацыянальную свядомасць. Няма сумнення, што яшчэ доўгі час мы будзем жыць, адчуваючы, як да неадбалелага болю дабаўляецца новы, але без гэтага нам, беларусам, сумленна несці свой чалавечы крыж немагчыма. Без гэтага душа можа ўпасці ў сон, у спячцы зашэрхнуць, а затым і акамянець. Таму: будзем удзячныя тым, хто заснуць не дае, хто дзеліцца сваім болем і прычыняе боль нам. Як гэта робіць М. Казлоўскі — рэдактар і выдавец "Куфэрка Віленшчыны". Дзякуй, Міхась.

# Асяродак Беларусі на Волзе

***Расія. Рэспубліка Татарстан. Пячышчы — невялікае па мерках беларускага Палесся сяло на стромкім правым беразе Волгі. Франтон з датай «1895» увенчвае вялікі будынак каля самага берага. Гэта былы паравы млын гандлёвага дома «Иван Оконишников и сыновья», цяперашняя філія холдынга «Татархлебапрадукт». Гісторыя склалася так, што апошнія 60 год існавання млынкамбіната непарыўна звязаны з... Беларуссю. А на адным з муроў, што належаць гэтаму камбінату, — мемарыяльная дошка з такім тэкстам: «В этом доме с 13 ноября 1941 года по 13 июня 1942 года жил народный поэт Белоруссии Янка Купала». Да татарскай сталіцы — Казані — 40 хвілін па рацэ. Да Мінска — трыццаць гадзін у цягніку. Вось як здараецца: знаёмыя імёны сустракаюцца там, дзе гэтага менш за ўсё чакаеш.***



*Пакой Янкі Купалы*

Позняя восень 1941 года. Ідзе масавая эвакуацыя на ўсход. Стары параход «Волгарь» з сяла Верхні Услон на правым беразе ракі перавозіць эвакуіраваных на левы, у Казань. Але чарга на пераправу пачынаецца яшчэ ў суседніх Пячышчах. За Волгу спешна пераязджае Акадэмія навук СССР, а разам з ёй і Саюз пісьменнікаў. У гэтай чарзе апынулася і сям'я Янкі Купалы, якому шасцідзесяты год і які быў стомлены ад дальняй дарогі. І. Я. Наякшын, тагачасны дырэктар млынкамбіната прапанаваў паэту застацца ў Пячышчах і не ехаць у перапоўненую бежанцамі Казань. Нейкі час Янка Купала жыў у Наякшына. Праз колькі тыдняў паэт пераехаў у кватэру намесніка дырэктара, які пайшоў на фронт. Праз 34 гады, у траўні 1975 года, тут заснаваны музей народнага паэта Беларусі.

Першая экспазіцыя была чыста мемарыяльнай і стваралася коштам Мінскага літаратурнага музея Янкі Купалы і Дзяржаўнага музея Татарскай АССР. Тым не менш на працягу ажно 7 гадоў Пячышчынскі музей існаваў на грамадскіх пачатках. Толькі ў верасні 1982 года, адзначыўшы 100-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы пачаткам рамонту, музей атрымаў статус філіі Дзяржмузея ТАССР. Увосень наступнага года адкрылася і новая экспазіцыя, стваральнікі якой паспрабавалі ахапіць усю біяграфію Янкі Купалы. Адзін з трох раздзелаў экспазіцыі 1983 года быў прысвечаны ўласна пячышчынскаму перыяду творчасці паэта. Нялёгкія часіны ў гісторыі музея звязаны з пачаткам 90-х: бясконцыя змены кіраўнікоў, скарачэнне фінансавання, транспартныя праблемы, 10 год без рамонту... Нарэшце, млынкамбінат, які стаў акцыянерным прадпрыемствам, пачаў прэтэндаваць на плошчу, што займаў музей. Выхад з сітуацыі знайшла новая загадчыца Маргарыта Мікалаеўна Антонава, якая прапанавала ўключыць у эспазіцыю два новыя раздзелы: пра гісторыю самога сяла і млынкамбіната. Такім чынам была закладзена новая канцэпцыя музея.

"Янка Купала ж прыехаў не ў чыстае поле. Ён жыў на млыне, пісаў для газеты млынзавода. Неабыякавы чалавек па натуры, ён цікавіўся жыццём: кожны дзень бываў у канторы, размаўляў з простымі людзьмі. Янка Купала сам стаў часткай гісторыі Пячышчаў. Чаму б не пашырыць экспазіцыю музея, пачаўшы яе з гісторыі паселішча?" — кажа М. Антонава.

Ідэю тады падтрымалі і ў кіраўніцтве Дзяржаўнага аб'яднанага музея Рэспублікі Татарстан, і, што нават важней, на самім камбінаце, які рыхтаваўся адзначыць стагоддзе свайго існавання. У 1995 годзе ў суседнім драўляным будынку, дзе Янка Купала жыў у Наякшына, была адкрыта чарговая, ужо трэцяя за ўсю гісторыю музея экспазіцыя. Праз 4 гады гэты будынак давялося знесці, бо ён не адпавядаў нормам супрацьпажарнай бяспекі. Дзякуючы новаму дырэктару млына абяскроўлены ў літаральным сэнсе музей вярнуўся ў сваё папярэдняе памяшканне, атрымаўшы пры гэтым яшчэ і дадатковую "жылплошчу". Амаль два гады працягваліся перапланіроўка і рамонт. У апошнім снежні ХХ стагоддзя адкрылася новая экспазіцыя, прымеркаваная да 25-годдзя заснавання музея ў Пячышчах.

За чвэрць стагоддзя штат супрацоўнікаў павялічыўся ўсяго на аднаго чалавека, цяпер яны працуюць удваіх. А самой Маргарыце Мікалаеўне належыць своеасаблівы "рэкорд": музей яна ўзначальвае ўжо больш за 8 гадоў. Гэтак, як яна, тут яшчэ не затрымліваўся ніхто. Трэба, пэўна, быць сапраўдным музейшчыкам, каб, жывучы ў Казані, за колькі год паспець заснаваць дзве экспазіцыі і правесці (ледзь ці не сваімі рукамі) рамонт у такіх "ваенна-палявых" умовах, у якіх існаваў Пячышчынскі музей Янкі Купалы апошнія 10 гадоў.

Гэта музей ільга назваць "сезонным". З кастрычніка па травень, калі навігацыя на Волзе спыняецца, сюды дабіраюцца толькі адзінкавыя наведвальнікі. Пры такім раскладзе 2500 чалавек, што пабылі тут з чэрвеня 1995 года па красавік 1999-га, і 80 праведзеных экскурсій — зусім не мала для невялікага сельскага музея, калі адна дарога туды і назад нават летам займае паўдня. Да таго ж у Беларусі Янка Купала — народны паэт, знаёмы ўсім са школьнай лаўкі. У Татарстане ж больш паловы насельніцтва пра яго амаль нічога не ведае. Дзіўна, як гэты музей увогуле не зліквідавалі ў рэспубліцы, дзе няма хоць колькі-небудзь уплывовай беларускай дыяспары. Трэба сказаць, што адносіны да нашага народнага паэта тут няпростыя: амаль адначасна ў Казані перайменавалі вуліцу Янкі Купалы ў вуліцу Бандарэнкі, але ж і адкрылі адрамантаваны музей у Пячышчах.

Вядома, для нас, жыхароў Беларусі, музей Янкі Купалы заснавалі ў даволі "нязручным" месцы: да Казані дабрацца — цэлая прыгода, а да Мінска — паўтары тысячы кіламетраў... Але нам усё ж трэба дзякаваць гісторыі за тое, што дзесьці далёка ад Беларусі ёсць месца, зараз ужо "генетычна" звязанае з нашай Радзімай. А галоўнае, ёсць людзі, якім неабыякавы лёс гэтага невялічкага асяродка беларускай культуры.

**Уладзімір ГУР'ЯНАЎ,**
**Казань—Мінск**

# Выратаванне

## СТРАТЭГІЯ АФІЦЫЙНАГА ВЫКАРЫСТАННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў XXI СТАГОДДЗІ

У практыцы цывілізаваных краін яшчэ не назіралася такога, каб у час, калі шмат якія народы вядуць змаганне за нацыянальна-культурнае адраджэнне, у ім не брала аніякага ўдзелу наша дзяржава, хаця ў яе не можа быць больш святога абавязку, як усяляк дапамагаць такому руху. Таму сёння многіх беларусаў моцна здзіўляе, чаму дзяржаўныя ўлады нашай краіны не толькі стаяць убаку ад яго, але нават сям-там чыняць сур'ёзныя перашкоды. Хочацца думаць, што гэтая супярэчная беларускаму нацыянальнаму інтарэсу з'ява ўсё ж носіць часовы характар і мы неўзабаве станем сведкамі актыўнага ўдзелу ўладных структур у выратаванні роднай мовы тытульнай нацыі дзяржавы, як гэта было ў 20-я гады мінулага стагоддзя. І як у тыя гады, на беларускай мове запрацуюць усе органы ўлады і кіравання, а дзяржаўным дзеячам будзе ганарова карыстацца родным словам народа, які даверыў ім вырашаць свой лёс.

Ад таго часу як пазначацца першыя пазітыўныя зрухі ва ўсталяванні беларускай мовы ў дзейнасці дзяржаўных органаў, міністэрстваў і ведамстваў, прадпрыемстваў і ўстаноў, намнога прасцей яе будзе ўкараняць ва ўсіх навучальных установах. А гэта архіважна ў справе нацыянальна-культурнага адраджэння любога народа. Як біялагічны стан нацыі залежыць ад вынікаў працы на збожжавых палетках, так этнакультурны стан яе вызначаецца нацыянальным фактарам у сістэме народнай адукацыі. Гэта добра ведалі яшчэ ў старажытнасці, і калі хацелі без праліцця крыві знішчыць той ці іншы народ, вучылі на чужой мове, усяляк стараліся адарваць іх ад уласнай культуры, пазбавіць гістарычнай памяці. Для беларусаў такія жорсткія выпрабаванні амаль бесперапынна доўжацца яшчэ з тых часін, калі яны разам з палякамі жылі ў складзе Рэчы Паспалітай, а пазней з рускімі — у царскай імперыі. Зараз, дзякаваць Богу, становішча карэнным чынам змянілася. Беларусь, як любяць заяўляць палітыкі, стала суверэннай дзяржавай і, ні ў кога не пытаючы дазволу, можа будаваць сістэму народнай адукацыі на собскім духоўным падмурку. Каб гэтую праблему дзяржаве даводзілася вырашаць з народам, асабліва палітыкамі і інтэлігенцыяй з трывалай нацыянальнай самасвядомасцю, асаблівых цяжкасцяў не існавала б. Зусім іншая справа, калі "суверэнная" Рэспубліка Беларусь атрымала ў спадчыну ад СССР моцна зрусіфікаваны народ. Але і ў такой сітуацыі ў нацыянальна-прагрэсіўных колах грамадства не павінны апускацца рукі. Галоўнае, каб самі дзяржаўныя органы сур'ёзна заняліся беларусізацыяй сваёй дзейнасці, тады прасцей будзе скіраваць на такі шлях і адукацыю. Вельмі важна — тут ужо можна спаслацца і на айчынны вопыт міжваеннай беларусізацыі, — каб пераклад на беларускую мову ажыццяўляўся раўналежна ва ўсіх установах выхавання і навучання, пачынаючы ад дзіцячага садка і канчаючы інстытутам ці універсітэтам. Калі ж працаўнікам беларускай ідэі ўдасца пэўную частку найбольш зрусіфікаваных людзей прычыніць да нечага падобнага на лінгвістычныя забастоўкі, дык і ў такіх сітуацыях ёсць выйсце. Неабходна забяспечыць, як таго патрабуе майскі рэферэндум 1995 года, прапарцыянальнае выкарыстанне і беларускай, і рускай моў у педагагічным працэсе. Такім шляхам ужо прайшлі ці ідуць шмат якія народы свету.

У гэтым сэнсе варта колькі слоў сказаць пра вынаходлівасць настаўнікаў з Каталоніі, аўтаномнай вобласці Іспаніі, якія паказалі і паказваюць сябе найбольш актыўнай часткай інтэлігенцыі ў нялёгкім змаганні за нацыянальнае выжыванне. У мэтах хутчэйшага авалодвання школьнікамі роднай каталонскай мовай, якую пачала выцясняць іспанская, ім прапаноўвалі не толькі на пераменках, але і на занятках размаўляць паміж сабою ў форме каталонска-іспанскага дыялога ці пры адказе на пытанне педагога спачатку выкарыстоўваць адну, а потым і другую мову.

Развіццё мовы таго ці іншага народа моцна залежыць і ад яе месца ў такой прэстыжнай сферы дзейнасці чалавека, як **навука**. Сама логіка навуковага мыслення, наяўнасць багатай навуковай тэрміналогіі, неабходнасць гаварыць і пісаць пра з'явы высокай матэрыі не могуць не паўплываць на стан і развіццё мовы. Зразумела, дзеля выхаду на сусветную арэну, для прапаганды дасягненняў айчыннай навукі неабходна выкарыстоўваць і больш распаўсюджаныя ў свеце мовы, аднак мова карэннага насельніцтва краіны павінна ў поўным аб'ёме абслугоўваць унутраныя патрэбы навукі: ужывацца пры складанні ўсіх відаў службовай і навуковай дакументацыі, правядзенні пасяджэнняў вучоных і навуковых радаў, канферэнцый, сімпозіумаў, "круглых сталоў", арганізацыі мерапрыемстваў, звязаных з прафесійнай дзейнасцю навукоўцаў.

Істотнае пагаршэнне моўнага становішча ў краіне цесна звязана з рэзкім звужэннем сферы выкарыстання роднага слова ў дзейнасці дзяржаўных устаноў **культуры**, а таксама непрафесійных мастацкіх калектываў. Асабліва выразна такое стала назірацца пасля майскага рэферэндуму 1995 года, які зрабіў зусім неабавязковым развіваць культуру Беларусі на яе роднай мове. Многія кіраўнікі дзяржаўнага сектара культуры лічаць, што дастаткова тут будзе і рускай мовы, якую зараз у нас лепш разумеюць за беларускую. Выходзіць, не марна на працягу больш як два стагоддзі стараліся і стараюцца русіфікатары, у тым ліку і з саміх беларусаў.

Хоць многія элітарныя колы нашага грамадства вялікім прагрэсам называюць франтальнае выцясненне беларускай мовы рускай, прычым нават і з прафесійна-культурнай дзейнасці чалавека, я ніяк не магу пагадзіцца з такой памылковай і шкоднай высновай. Цвёрда перакананы: нішто не робіць дзеяча культуры такім непатрэбным на духоўнай ніве Беларусі, як невалоданне і невыкарыстанне роднай мовы. Як найстрашнейшае боскае пакаранне беларускага народа, гэтае зло з гадамі набывае ўсё больш і больш шырокія маштабы, як ніколі раней, прычыняе яму глыбокія раны. Дажыліся да таго, што нават **абсалютная бальшыня высока ўганараваных дзяржавай дзеячаў культуры не ведае, цураецца мовы народа краіны**, хоць і мае тут сталую працу. Такога наслання я не пажадаў бы нават якому-небудзь нешматлікаму племені. А ў нас на Беларусі не без дапамогі саміх жа работнікаў культуры, якія ва ўсіх цывілізаваных нацый з'яўляюцца асноўнымі носьбітамі духоўных, моўных традыцый, штодня ўчыняецца адкрытае моўнае калечанне дзесяцімільённага народа. І каб апраўдаць такое злачынства, палітыкамі супольна з блізкімі з імі навукоўцамі прыдуманы і ўсяляк распаўсюджваецца на самым высокім дзяржаўным узроўні міф, што беларусы ёсць адзіны ў свеце народ, у якога не адна родная мова, а дзве: беларуская і руская! Таму апошняя можа панаваць і ў нашай прафесійнай культуры.

Хутчэй за ўсё не па сваёй ініцыятыве, а ў выніку ідэалагічнага ўздзеяння многія прадстаўнікі прафесійнай культуры ўзялі на сябе зусім не ўласцівыя для іх функцыі: быць актыўнымі інтэгратарамі палітычнага аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну саюзную дзяржаву. Вядома, для нацыянальна пасіўнага кампазітара, музыканта, артыста куды больш пажаданым з'яўляецца працаваць не на карысць уласнага народа, а дэманстраваць свой талент на як мага больш шырокіх расійскіх тэрытарыяльных прасторах, выконваць у арыгінале творы, што належаць народам з прызнанай у свеце культурай, чым выкарыстоўваць свой талент пераважна на прасцягах Беларусі. На такі высакародны нацыянальны ўчынак здольныя пайсці толькі асобы, якіх нават самыя магутныя сілы, высокія ганарары не ў стане вылушчыць з арганізма роднага народа.

Сёння, як ніколі раней, на такіх асобаў у нас велізарны дэфіцыт. Амаль усе, што маюць хоць і самы мізэрны талент у той ці іншай сферы мастацкай дзейнасці, кінуліся пасля майскага рэферэндуму 1995 года шырыць, мацаваць рускую культуру на Беларусі. І самае парадаксальнае, такія разбуральныя працэсы ў духоўным жыцці Беларусі ўсяляк падтрымліваюць адпаведныя дзяржаўныя структуры, якія, наадварот, павінны былі б імкнуцца да ўмацавання ў ім нацыянальных асноў. Каб паспрыяць мастацкай інтэлігенцыі Беларусі ў правядзенні актыўнай і буйнамаштабнай працы, скіраванай да яшчэ большай інтэграцыі яе насельніцтва ў рускую культуру, практычна ўсе чыноўнікі дзяржаўнай сферы культуры, пачынаючы ад дырэктараў дамоў і палацаў культуры і канчаючы апаратчыкамі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, свядома ўхіляюцца ўжываць беларускую мову ў сваіх публічных выступленнях. Не выключана, што хтосьці гэта робіць і з прычыны няведання беларускай мовы. Таму вывучэнне, дасканалае авалодванне апошняй з мэтай зрабіць яе рабочай у дзейнасці дзяржаўных і недзяржаўных устаноў культуры павінны разглядацца ў якасці асноўнай задачы іх кіраўнікоў. Трэба як мага хутчэй пазбавіцца ад такой адмоўнай і шкоднай з'явы, калі прафесійная, элітарная культура замест узбагачэння нацыянальных асноў духоўнага жыцця мэтанакіравана разбурае іх. Асабліва гэта кідаецца ў вочы ў час правядзення традыцыйных "Славянскіх базараў" у Віцебску. Мала хто з прысутных на іх гасцей застаецца з уражаннем, што гэтае славянскае свята адбываецца на беларускай зямлі. Сама логіка вымушае мову карэнных жыхароў зрабіць рабочай у час правядзення ўсіх мерапрыемстваў, звязаных з кірмашом. Яна ж з'яўляецца блізкароднаснай не кітайскай, японскай ці якім-небудзь іншым усходнім мовам, а знаходзіцца ў адной групе з усімі славянскімі мовамі, таму прыродныя носьбіты іх з ліку мастацкай інтэлігенцыі без перакладчыка зразумеюць нас. Нас ніхто не асудзіў бы і правільна зразумеў бы, калі б адным з патрабаванняў удзелу ў "Славянскім базары" было выкананне кожным артыстам адной беларускамоўнай песні.

Вельмі хутка выпрацавалі "сваю" лінію ў паслярэферэндумны перыяд афіцыйныя і неафіцыйныя **сродкі масавай інфармацыі**, а таксама **выдавецтвы**. Выкарыстанне беларускай мовы ў іх дзейнасці апусцілася ніжэй за той узровень, на якім яно знаходзілася да так званага перабудовачнага часу. І адбылося такое пры самым актыўным удзеле дзяржавы. Будучы выхаванымі на рускамоўнай культуры, гэтыя новыя людзі, што з'явіліся апошнімі гадамі на тэлебачанні і радыё, у выдавецтвах, з зайздроснай актыўнасцю і хуткасцю ледзь не дарэшты вытурылі беларускае слова з сваёй дзейнасці. Ніколі яго стан не быў тут такім жабрацкім, як сёння. Не ведаю, па чыім прадпісанні, але нават традыцыйныя беларускамоўныя радыёперадачы зараз да такой ступені "ўпрыгожваюцца" цытатамі з літаратурных твораў рускіх пісьменнікаў, рускамоўнымі песнямі, прыказкамі і прымаўкамі, што, паслухаўшы іх (перадачы), больш узбагаціш сябе здабыткамі рускай, чым беларускай культуры. Тым больш, што з 2001 года на нашых тэлеканалах з'явіўся яшчэ адзін рускамоўны канал.

Надзейна служыць пасля 1995 года дзяржаўнай палітыцы русіфікацыі афіцыйны і ў значнай ступені неафіцыйны перыядычны друк. Калі першы прытрымліваецца такога курсу... па ўсім вядомых прычынах, дык другі з-за таго, што ў штаце працуюць пераважна ўзгадаваныя ў сем'ях і навучальных установах на рускіх культурнамоўных традыцыях журналісты. Гэта прывяло да ненармальных суадносін паміж выкарыстаннем беларускай і рускай моў у перыядычным друку, а тым больш — у дзяржаўным, які павінен мэтанакіравана вяртаць здэнацыяналізаваны народ да сваёй спрадвечнай мовы. Дзяржаўны друк свядома не дазваляе сабе такога, жадаючы ўсяляк дагадзіць афіцыйнаму курсу ў галіне нацыянальна-культурнага, моўнага развіцця краіны.

Няўвязка атрымліваецца і з недзяржаўным друкам, хаця некаторыя прыцягнутыя сюды да працы журналісты займаюць, як правіла, зусім іншую, даволі прагрэсіўную пазіцыю па нацыянальным пытанні. Але ў пагоні за накладам, з мэтай хоць трохі палепшыць фінансавае становішча і недзяржаўны друк максімальна запаўняе старонкі сваіх газет і часопісаў матэрыяламі на рускай мове.

Лічу неабходным звярнуць увагу на вялікае нежаданне ці проста псіхалагічны страх рэдакцый дзяржаўных беларускамоўных газет і часопісаў прымаць ад аўтараў крытычныя матэрыялы па вострых і надзённых праблемах нацыянальнага і культурна-моўнага развіцця нашага народа ў мінулым і на сучасным этапе. Каб не даць грунтоўна раскрыць іх і гэтым самым не выклікаць у народа сур'ёзнай заклапочанасці беззваротнай стратай сваёй этнакультурнай адметнасці, прапаноўваецца абмяжоўваць рамкі такіх артыкулаў максімум трыма старонкамі машынапісу. Затое артыкулы, якія не вымагаюць ад чытачоў глыбокага роздуму, а закранаюць другарадныя пытанні нашага жыцця, маюць прыстойныя памеры і часта друкуюцца з працягам. Таму па наяўнай колькасці чыста беларускамоўных ці гібрыдных беларуска-рускамоўных перыядычных выданняў у краіне ніяк нельга меркаваць пра рэальныя магчымасці яе насельніцтва ўдзельнічаць у абмеркаванні лёсавызначальных задач беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння.

Як ніколі раней, моцна збяднілася прысутнасць беларускай мовы **ў візуальным афармленні ўсіх тыпаў населеных пунктаў, іх прадпрыемстваў і ўстаноў.** Адарваныя ад духоўных традыцый Бацькаўшчыны кіраўнікі вытворчасці і гандлю ўпарта не жадаюць, зусім усвядомлена ўхіляюцца выкарыстоўваць родную мову ў маркіроўцы сваёй прадукцыі і тавараў. А між іншым, ужыванне акурат у гэтых мэтах роднай мовы вельмі садзейнічае не толькі авалодванню ёю, але і папулярызацыі як унутры краіны, так і па-за яе межамі. І, наадварот, нічога пазітыўнага не здабыць народу, калі такога роду функцыі выконвае чужая для яго мова. Ужыванне ў практыцы выключна рускай мовы на паказальніках назваў гарадоў і вёсак, шыльдах прадпрыемстваў і ўстаноў, у тэхнічнай дакументацыі на айчынную прадукцыю, у наклейках на таварах, на вулічных транспарантах, у розных аб'явах і афішах фармуе ў нашых грамадзян погляд на сваю краіну як на нешта непаўнацэннае ў свеце, якая нават не можа візуальна вызначыцца ў ім як пэўная самабытная тэрытарыяльная адзінка. Што ж датычыць гасцей, што прыбываюць да нас з-за мяжы, візуальнае афармленне тэрытарыяльнай прасторы Беларусі ўспрымаецца імі як неабвержны доказ адсутнасці ў апошняй свайго ўласнага нацыянальна-дзяржаўнага аблічча. Зразумела, якраз на такія наступствы ад істотнага абмежавання ўжывання мовы карэннага насельніцтва краіны ў візуальным афармленні яе прасторы і разлічваюць праціўнікі беларускай дзяржаўнасці. Яшчэ ніколі рускамоўныя шыльды, транспаранты, афішы, абвесткі так не лезлі сляпіцаю ў вочы, як сёння. Без самага шырокага выкарыстання ў гэтых мэтах беларускай мовы нельга прызнаць, што ў нацыянальнай палітыцы нашыя ўлады кіруюцца інтарэсамі тытульнага народа.

Апошнімі гадамі вызначыліся самыя прыязныя дачыненні паміж дзяржавай і кіраўніцтвам **праваслаўнай царквы,** як найбольш масавай у нас па колькасці вернікаў. Належныя ўмовы створаны для нармальнай дзейнасці і другой уплывовай у краіне хрысціянскай канфесіі — **каталіцкай.** Гэта адкрывае шырокія магчымасці для творчага супрацоўніцтва дзяржавы з праваслаўнай царквой і каталіцкім касцёлам у такой важнай справе, як нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа. Не трэба забывацца, што менавіта названыя хрысціянскія канфесіі найбольш за ўсё прычыніліся і прычыняюцца да асіміляцыі насельніцтва нашага краю. Час сплачваць яму даўгі і рашуча адмовіцца ад яго русіфікацыі і паланізацыі. Атрымліваецца зусім не па-хрысціянску, што практычна ўсе высокія праваслаўныя і многія каталіцкія духоўныя асобы за працяглы час службы ў нашым краі не авалодалі мовай беларускага народа і карыстаюцца дзяржаўнымі мовамі суседніх яму краін. Такая моўная практыка ў набажэнстве характэрна толькі для каланіяльна залежных, а не нацыянальна вольных народаў. З ласкі кіраўніцтва праваслаўнай царквы яе ідэолагі праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі сваю рэлігійна-асветніцкую прапаганду і агітацыю вядуць выключна толькі на рускай мове, прычым часта свядома выказваюць памылковыя, абразлівыя думкі адносна самабытнасці беларускага народа, яго культуры і мовы, ставяць пад вялікае сумненне існаванне ў мінулым беларускай дзяржаўнасці і мэтазгоднасці яе захавання на сучасным этапе. Такая садружнасць свецкіх і духоўных уладаў Беларусі прыносіць непапраўную шкоду карэнным інтарэсам яе народа, перашкаджае мабілізацыі намаганняў па спыненні далейшага распаўзання русіфікацыі на прасторах нашай Бацькаўшчыны. Каб пасадзейнічаць ёй у гэтую невыносна цяжкую часіну, кіраўніцтва праваслаўнай царквы павінна карэнным чынам змяніць свае падыходы ў вызначэнні мовы набажэнства і рэлігійнай прапаганды. З улікам так моцна здэфармаванага нацыянальнага патэнцыялу беларускай культуры і мовы, у чым на працягу больш за два стагоддзі самы актыўны ўдзел брала і праваслаўная царква, проста недаравальна, каб у час, калі на ўвесь рост стаіць пытанне быць ці не быць беларускаму народу самастойным этнасам, не гучала яго мова ў храмах гэтай самай масавай у нашай краіне хрысціянскай канфесіі. Кіраўнікам усіх хрысціянскіх веравызнанняў на Беларусі трэба трывала ўсвядоміць, што да таго часу, пакуль мова яе карэннага народа не загучыць у набажэнстве, яно не будзе адыгрываць на нашай зямлі пазітыўнай ролі ў духоўным сталенні грамадства. Сусветная практыка багатая прыкладамі актыўнага ўдзелу духавенства ў нацыянальна-культурным адраджэнні сваіх народаў. Недапушчальна, каб праваслаўная царква і каталіцкі касцёл у дачыненні да гэтай лёсавызначальнай праблемы беларускага народа і надалей праводзілі дэструктыўную дзейнасць. За яе давядзецца несці боскае пакаранне і высокім духоўным асобам.

Такім чынам, непадзельнае панаванне рускай мовы ва ўсіх відах службовага справаводства, у адукацыі, навуцы, культуры, сродках масавай інфармацыі, царкоўна-рэлігійным жыцці, візуальным афармленні населеных пунктаў, прадпрыемстваў і ўстаноў, а адсюль і ў міжасобасных зносінах людзей паставілі беларускую мову на яе этнічнай тэрыторыі на мяжу поўнага вымірання. Страшэнны заняпад нацыянальна-культурнага жыцця краіны абумоўлівае неабходнасць тэрміновай распрацоўкі і прыняцця на дзяржаўным узроўні Стратэгіі выратавання і афіцыйнага функцыянавання беларускай мовы ў XXI стагоддзі. Яшчэ ніколі не існавала для яе такой сур'ёзнай пагрозы адмірання, як сёння. Ні дзяржаве без нацыянальна актыўнай часткі народа, ні апошняй без дзяржавы нельга выратаваць наш неацэнны скарб — беларускую мову. Дзеля гэтага патрэбна максімальнае напружанне ўсіх здаровых сіл грамадства, на бок якіх павінна рашуча стаць дзяржава. Сотні народаў свету праз свае агульныя намаганні змаглі ўхіліцца ад культурнамоўнай асіміляцыі, пабудаваць уласны дом, стварыць у ім усе ўмовы для прыстойнага нацыянальнага жыцця. Не верыцца, што такое непадуладна беларусам.

**Леанід ЛЫЧ,**

**доктар гістарычных навук, прафесар**

## ЛіМ ЧАСАПІС

### *“Камін”*




**Заўсёды прыемна пасядзець каля цяпельца, назіраючы, як языкі агню пажадліва паядаюць дровы. У такія хвіліны асабліва прыемна думаецца, аб многім марыцца і шмат што пераасэнсоўваецца. Гэтаксама атрымліваеш асалоду і тады, калі ў сцюдзёны дзень сядзіш ля печы:**

*А вецер за вокнамі стогне,*
*На дрэвы кідае імжу,*
*Хоць кожнае з часам засохне,*
*Па-іншаму зараз гляджу.*

*Не будзе сканчэння жывому,*
*Нарэжуць з засохлага дроў,*
*І полымем свету другому*
*Адыдзе іх цёплая кроў.*

**“Камін” — называецца гэты верш Аляксандра Клачкова, які даў назву яго новай кнізе, што пабачыла свет дзякуючы аддзелу культуры Горацкага райвыканкама. А выйшла яна, бо знайшліся тыя, хто згадзіўся фундаваць гэтае выданне. А. Клачкоў выказвае шчырую падзяку падпрымальніку Мікалаю Паялкову, калектыву навукова-вытворчага прадпрыемства БЕЛАМА ПЛЮС і яго дырэктару Аляксандру Чарвякову, працаўнікам саўгасаў імя Чкалава (дырэктар Мікалай Блахін) і “Дварэц” (дырэктар Яўген Раманенка). Што да самой кнігі, дык яна ў А. Клачкова не першая. Годам раней асобным зборнікам у Горках выйшла яго гумарыстычна-сатырычная паэма “Мікітавы прыгоды”, пра якую “ЛіМ” у свой час паведамляў. Чытач ведае, што А. Клачкоў —доктар тэхнічных навук, прафесар, карыстаецца вялікай вядомасцю не толькі на Беларусі, а і далёка за яе межамі. Але гэта ніколькі не “забараняе” яму любіць паэзію. Больш таго, Аляксандр Віктаравіч апошнім часам плённа працуе як паэт. Пацвярджэнне таму і кніга “Камін”. Складаецца яна з сямі раздзелаў, якія сам аўтар вызначыў як “сем частак жыцця”: “Колеры”, “Творчасць”, “Думкі”, “Час”, “Сусвет” і “Жаданні”. А ў выніку і атрымаўся зацікаўлены, часам па-філасофску заглыблены аповед пра чалавека, творчасць і Сусвет. Зборнік адметны і тым, што многія вершы яго адначасова падаюцца ў двух варыянтах — на беларускай і рускай мовах, што сведчыць як аб тым, што А. Клачкоў абедзве ведае дасканала, так і аб яго здатнасці перадаваць свае думкі як па-беларуску, так і па-руску. Пры гэтым ён не прытрымліваецца дакладнай блізкасці двух варыянтаў, таму атрымліваюцца па сутнасці два вершы, змест якіх шмат у чым падобны. Каб пераканацца, што гэта і сапраўды так, дастаткова прывесці вытрымкі з верша “Нараджэнне Сусвету”:**

*Выбуховым чынам*
*Нараджаўся Свет,*
*Вогненнай спружынай,*
*З выкідам планет.*

*Вясёлкамі ззялі*
*З пустаччу шары,*
*Бясконцасць ірвалі,*
*Творачы віры.*

**А гэта рускамоўны варыянт “Расширяющаяся Вселенная”:**

*Огненной улиткой*
*Сотворяя цвет,*
*Пламенной попыткой,*
*С выбросом планет.*

*Радугой играли*
*Полые шары,*
*Бесконечность рвали*
*В новые миры.*

**Асобныя ж вершы змешчаны толькі па-беларуску. Відаць, і таму, што яны аўтару асабліва хораша кладуцца на сэрца (і чытачу таксама) і няма патрэбы прамаўляць іх хоць і блізкай, але чужой мовай. Сама стыхія беларускай зімы ў вершы “Марознае”:**

*Якая доўгая зіма:*
*І стыне, стыне.*
*Канца і краю ёй няма.*
*Калі пакіне?*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Замерзла глеба ў камяні,*
*Стаіць слізота.*
*Прашу зіму: хутчэй міні,*
*Даўно ахвота.*

**А пасляслоўе “Паэт, твой голас, як лекі...” напісала паэтэса Ніна Кавалёва.**

**Міхась ГЕНЬКА**

# “Маліцца за ворагаў”, або Праблема гуманізму ў сучаснай беларускай і італьянскай ваеннай прозе.

Прайшло больш як паўстагоддзя ад заканчэння другой сусветнай вайны. З адлегласці гэтага часу многія рэчы бачацца ў іншым святле, таму патрэба мастацкага пераасэнсавання ваенных падзей не толькі застаецца па-ранейшаму актуальнай, але яшчэ больш узмацняецца. У 1991 годзе І.Шамякін зазначыў: “Прыйдуць новыя пісьменнікі, напішуць, можа, больш таленавіта, дакументаў ім больш раскрыюць, але ўсё роўна наўрад хто з іх напіша з той *праўдай*, якую неслі мы, удзельнікі. Кожны бачыў яе па-свойму — праўду вайны, гэта залежала ад таго, як быў настроены, хто яго акружаў і дзе ён ваяваў” (*“Роздум на апошнім перагоне”*). Тым не менш, трэба заўважыць, што ў час вайны ці адразу пасля яе заканчэння, непасрэдным удзельнікам цяжка было ўявіць поўную карціну той трагедыі, што адбывалася ў Еўропе. Іх веданне датычылася ў першую чаргу непасрэдна таго, што перажылі яны самі. Многія рэчы сталі вядомымі ўжо пасля заканчэння вайны, а некаторыя — толькі нядаўна, і таму патрэба аналізу падзей 40-х гадоў з цягам часу не знікае.

Гэты момант выявіўся як у тых пісьменнікаў, што прыйшлі ў літаратуру адносна нядаўна, так і тых, што пачалі сваю творчасць у 40—50-я гады, і праз некаторы час зноў вярнуліся да праблемы чалавека і вайны (П.Леві, Н.Рэвэллі, А.Адамовіч і інш.). Змяніліся яны самі, змянілася іх веданне фактаў мінулага, і ўзнікла неабходнасць нешта перагледзець, нешта дадаць, ад нечага, магчыма, адмовіцца.

Трэба адзначыць, што калі на пачатку 80-х *ваенная тэма была, бадай, на першым месцы* ў беларускай прозе па колькасці літаратурных твораў, то паступова яна пачынае саступаць месца творам з гістарычнай праблематыкай, а таксама філасофскай, інтымна-лірычнай і авангарднай прозе. З пункту гледжання колькасці ў італьянскай літаратуры заўважных зменаў, бадай што, не адбылося, цікавасць да другой сусветнай вайны і чалавечага лёсу ў варунках дваццатага стагоддзя застаецца трывалай, хоць пэўны ўздым цікавасці да гэтай тэмы назіраўся ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем заканчэння вайны.

Тым не менш, ваенная проза і ў беларускай і ў італьянскай літаратуры на сучасным этапе развіцця мае якасныя адметнасці, якія датычацца і разумення чалавека. Стаўленне аўтараў да сваіх герояў *можна назваць больш міласэрным, паглыб*ляецца аналіз паводзінавых матывацый, іх сувязі з жыццёвымі падзеямі таго ці іншага персанажа. Ворагі ў такім разе цікавяць пісьменнікаў ужо не толькі як увасабленне фашысцкай ідэалогіі, вартым увагі становіцца ўсё, што датычыцца іх жыцця: якая сутнасць дамінуе ў такім чалавеку, якім стаўся шлях, што прывёў яго да ўчынкаў, зусім не гуманістычных і ці сапраўды ён адрозніваецца ад іншых людзей.

Такім пошукам ісціны з'яўляецца вяртанне да вайны ў рамане “Прапаўшы без звестак з Марбурга” (1994) Нута Рэвэллі. Гэты італьянскі пісьменнік прымаў удзел у другой сусветнай вайне, ваяваў на Доне, праязджаў праз Беларусь (гэтым падзеям прысвечана кніга “Ніколі не позна” (1946). Штуршком для напісання новага твора стала рэальная гісторыя забойства аднаго нямецкага афіцэра, чыё імя на працягу доўгага часу заставалася невядомым. Для Рэвэллі важна было высветліць, кім быў насамрэч гэты чалавек, бо пра яго хадзілі самыя розныя чуткі. Пісьменнік прызнаецца: “Я не адчуваю ніякай спагады ў адносінах да немцаў. Але калі існаваў хаця б адзін немец, які б адрозніваўся ад уражання, што склалася ў мяне аб іх, то я б хацеў ведаць яго гісторыю”.

Пошукі “добрага немца” адбываліся і ў беларускай літаратуры. У аснове іх ляжалі рэальныя, хоць і вельмі рэдкія, эпізоды, таму яны пачаліся ў жанры дакументалістыкі. У кнізе А.Адамовіча, У.Калесніка і Я.Брыля “Я з вогненнай вёскі...” (1975) жанчыны ўспамінаюць нешматлікія прыклады, калі немцы адмаўляліся забіваць мірных жыхароў. Вядомы расейскі перакладчык з нямецкай мовы Леў Копелеў у адным з сваіх артыкулаў, напісаным у 1989 годзе, прыводзіць такі выпадак: “Летам 44-га ў беларускай вёсцы нас сустрэў натоўп узбуджаных, гаманкіх жанчын. Яны вялі нямецкага салдата. З плачам і смехам, бабы патрабавалі ставіцца да “энтага фрыца” як *да сябра*. “*Нашую вёску ўратаваў*, — лямантавалі яны. — Эсэсманы хацелі ўсіх нас на вуліцу выгнаць і хаты падпаліць, а ён не даў — крычаў на іхніх салдатаў, нават аўтаматам пагражаў. І ў нас застаўся — бараніць вёску ад новых падпальшчыкаў”.

Немцы, не падобныя да іншых, сустракаюцца ў раманах М.Аўрамчыка “Палон” і “У падзямеллі” (1985). Гэта Карл Кольб, які спачуваў палонным і як мог дапамагаў ім, і шахцёр Швэрмер, кантакты з якім дапамагаюць Янку перажываць цяжкасці палону: “Цяпер Янка адчуваў, як у падзямеллі, сагрэтая Швэрмеравай цеплынёй, адтайвала ягоная настылая душа, прагна ўбіраючы ў сябе прарошчаныя зярняткі дабрыні і спагады”.

Трэба адзначыць, што і раней многія аўтары закраналі тэму нямецкага народа і стасункаў з ім, але мала хто — адносіны да немцаў-салдатаў і непасрэдных з імі кантактаў. Шлях, які абірае Н.Рэвэллі, аказваецца вельмі няпростым, поўным сумненняў. Калі аўтар разглядае дзверы спаленых немцамі дамоў паселішча Бовес, дзе загінулі людзі, то ізноў, у невядома які раз, у яго ўзнікае *пытанне*, ці мае *сэнс* захоўваць далей ілюзію наконт існавання “добрага немца”. Сапраўды, гэта вельмі складана зрабіць, бо паводзіны немцаў у адносінах як да мірных жыхароў, так і тых, хто змагаўся супраць іх, вызначаліся ніяк не лагоднасцю. Пры гэтым Рэвэллі адзначае, што тут ёсць віна не толькі немцаў, але і тых прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва, якія сталі на іх бок: “...фашысты (*італьянцы ніколі не называюць фашыстамі немцаў; фашызм — з'ява італьянская. — **А.Д.***) паводзілі сябе як хеўра ландскнэхтаў, пераўзыходзячы ў жорсткасці саміх немцаў”. Такую ж думку сцвярджаюць В.Адамчык у рамане “Голас крыві брата твайго” (1992): “Сліж гэта. Свой. А здзекуецца горш за немцаў. Немцы гэтага не твораць, што твораць свае” і В.Быкаў, ствараючы вобразы паліцаяў Гужа і Каландзёнка ў *рамане* “Знак бяды”: “Ад гэтых тым больш не адчэпішся. Гэтыя знойдуць цябе і пад зямлёй, выцягнуць і прымусяць на ўсё, на што іх прымушаюць немцы”.

Адносіны Н.Рэвэллі да немцаў мяняюцца з цягам часу. Так, пісьменнік згадвае, што пасля вяртання з рускага фронту ён “...настолькі ненавідзеў немцаў, што дастаткова было глянуць на іх, як кроў стукала ў галаве. Я лічыў іх адзінымі вінаватымі ў нашай бядзе”. Аднак мінула пяцьдзесят гадоў, і вастрыня пачуццяў змяняецца памяркоўнасцю, якая тым не менш не азначае, што ўсё забыта: “Немцы... Многія былі вымушаны быць жорсткімі, павінны былі выконваць загады. Сёння ў мяне няма больш нянавісці. Але я ім не дарую”.

У рэшце рэшт аўтар знаходзіць звесткі, якія датычацца забітага немца, *і вобраз* “самотнага конніка”, што лашчыць дзяцей і ў вольны час іграе Баха, знікае, быццам дым. Тым не менш, даследаванне, якое здзейсніў пісьменнік, ёсць вельмі важным крокам і для яго самога і для італьянскай літаратуры на тэму другой сусветнай вайны, што, у сваю чаргу, адзначыла і крытыка. Так, напрыклад, крытык Гафрэда Фофі піша: “Магчымасць надаць Ворагу асабісты твар і акрэсліць яго індывідуальныя фізічныя і маральныя асаблівасці, што не адпавядаюць дадзенаму вобразу, робіцца фундаментальным, катарсічным крокам, каб пэўным чынам вярнуць чалавечнасць нам самім”. І далей крытык выказвае вельмі важную думку, што знайсці падабенства ў гісторыі Ворага з нашым асабістым лёсам азначае вышэйшую прыступку даросласці.

Не толькі Н.Рэвэллі, але і П.Леві вяртаецца да вайны і да свайго ўласнага ваеннага вопыту. Да гэтага пісьменніка падштурхнула ўзнаўленне палемікі вакол падзей мінулай вайны і нацысцкага руху. У кнізе “Ці гэта чалавек” (1947) Леві адказвае толькі на пытанне “як?”, разглядаючы *розныя варыянты паводзінаў людзей*. На пытанне “чаму?” ён спрабуе адказаць нашмат пазней, праз сорак гадоў. Тэма Асвенціма як канцэнтрацыйнага лагера ўвогуле паўстае са старонак мастацка-публіцыстычнай кнігі “Тапельцы і ўратаваныя” (1986), напісанай за год да смерці пісьменніка, назва якой была дадзена аднайменнай часткай рамана “Ці гэта чалавек”.

Варта між тым адзначыць, што ў дадатку да школьнага выдання 1976 года кнігі “Ці гэта чалавек” (як і ў артыкуле “Чорная дзірка Асвенціма”, апублікаваным у 1987 г), Прыма Леві адказваў на пытанні школьнікаў пра канцэнтрацыйныя лагеры, адно з пытанняў датычылася і савецкіх лагераў. У рэшце рэшт, лагер як сацыяльная структурная адзінка сам па сабе быў прыналежнасцю соцыуму ненармальнага, хворага, на што звяртае ўвагу і пісьменнік. Таму паралелі з “Архіпелагам ГУЛАГам” наконт барацьбы за выжыванне, што прыводзіць Прыма Леві, не здзіўляюць сваім падабенствам. Але, тым не менш, і гэта падкрэслівае аўтар, мэты *стварэння гэтых лагераў не былі аднолькавыя*, таму што ў ГУЛАГу ўсе былі роўныя, у ім не адбывалася падзелу на супер- і недачалавекаў; толькі ў нямецкіх лагерах выкарыстоўваўся газ, спецыяльна створаны дзеля забойства людзей, гэтаксама як і прамысловае выкарыстанне трупаў і нават попелу адбывалася толькі ў Германіі. Пры гэтым, адзначае Леві, лагеры ГУЛАГу ўсё ж такі мелі нейкую рацыянальную мэту — пабудову пэўнай эканомікі, у той час як нямецкія лагеры сталіся “чорнымі дзіркамі”, прызначанымі для паглынання сотняў тысячаў мужчын, жанчын і дзяцей.

На гэтую нечалавечую жорсткасць гітлераўцаў у адносінах да цывільнага насельніцтва звяртае ўвагу і Фердынанда Камон у кнізе “Не бачаныя ніколі сонца і месяц” (1994): “Тое, што для нас было *вынішчэннем*, у немцаў *называлася апе*рацыямі, таму што немцы змагаюцца не супраць варожага войска, але супраць людзей: каб перамагчы ў вайне, ім недастаткова нанесці паразу арміям, яны павінны выкрасліць народ”.

У прадмове да “Тапельцаў і ўратаваных” Леві аналізуе мастацкія і дакументальныя сведчанні пра канцэнтрацыйныя лагеры. Сапраўды, успаміны пакінулі многія з тых, чыё жыццё апынулася ўцягнутым у гэты вір знішчэння і смерці, але наколькі яны з'яўляюцца праўдзівымі і аб'ектыўнымі? Асабліва гэта датычыцца ўспамінаў былых катаў і іхніх спробаў вытлумачыць свае дзеянні тым, што яны падпарадкоўваліся загаду. Такое тлумачэнне, на думку аўтара, непрымальна і не можа вызваліць іх ад адказнасці. Аднак у ім ёсць пэўная рацыя: *таталітарная дзяржава — страшная сіла*, здольная аказваць магутны ціск на чалавека.

Увогуле ж, на думку аўтара, самыя сумленныя і аб'ектыўныя сведкі — тыя, што дакрануліся да дна, — загінулі: “Выжывалі горшыя, інакш кажучы, тыя, што хутчэй адаптаваліся; лепшыя памерлі ўсе”. Таму што, на жаль, сумленне, гонар і іншыя станоўчыя якасці, як правіла, не садзейнічалі захаванню жыцця. Такія ж самыя словы гаворыць падчас пошукаў свайго “добрага немца” і Н.Рэвэллі: “Колькі разоў у тыя ліхія часы я казаў сабе, што на вайне плацілі за ўсё добрыя, а не горшыя”, і В.Быкаў у развагах Агеева з “Кар'ера” (1987): “...уся

справа ў тым: хто плоціць? Плоціць, канечне ж, той, хто менш за ўсіх вінаваты, хто не разлічвае на выгаду, хто ад нараджэння схільны даваць, у адрозненне ад тых, хто навучыўся прыстойна браць ды патрабаваць з іншых".

Адсюль — пачуццё сораму і вінаватасці ў адносінах да тых, хто загінуў на вайне. Ім прысвечана адна з частак кнігі П.Леві "Тапельцы і ўратаваныя", напрыканцы якой разважае на тэму сучаснасці, у прыватнасці падзей, што адбыліся ў Камбоджы (у гэтым ён пераклікаецца з А.Адамовічам, які да гэтай жа тэмы звяртаецца напрыканцы "Карнікаў"), каб яшчэ раз падкрэсліць — чалавек пакуль далёкі ад дасканаласці.

Неверагодным чынам пераплятаюцца думкі розных пісьменнікаў наконт чалавечай прыроды. Праблему "ўратавання" чалавечай душы падымае і В.Казько ў "Хроніцы дзетдомаўскага саду" (1987): "Мар'ян... зразумеў, што за вайна прайшлася па зямлі. Недарэмна звер бяжыць за паратункам да чалавека. А які ж пасля такой вайны будзе ўратаваны чалавек, ці чалавек ён, калі пабачыў і паспытаў такое", бо як сведчыць П.Леві: "Не па добрай волі, не з-за надарэчнасці сваёй або віны мы, тым не менш, пражылі месяцы і гады на ўзроўні жывёл: нашыя дні былі загрувашчаныя ад світання да змяркання голадам, цяжарам, холадам, страхам, і месца для роздуму, развагаў, пачуццяў было анулявана". Таму і шлях чалавека да нармальнага стану і нармальнага ўспрымання жыцця вельмі доўгі, а іншым разам і ўвогуле немагчымы.

Безумоўна, ніводзін чалавек, які сутыкнуўся з жахамі другой сусветнай вайны, а таксама з несправядлівасцю сацыяльнай сістэмы, не зможа дараваць свае пакуты, але трэба адзначыць, што ў літаратуры апошняга перыяду роздум пераважае над эмоцыямі і мае ўсё часцей хрысціянскую і гуманістычную скіраванасць. Нездарма героямі твораў становяцца або служыцелі культу, або блізкія да яго асобы, як Дон Вітторыё з рамана Джанпаола Панса "Але каханне не" (1995) ці пападдзя Бараноўская з аповесці В.Быкава "Кар'ер": "Ведаеце, мы былі абдзелены ў нашым жыцці дабрынёй, можа быць, таму так даражылі ёе малою рэштаю, якая нам дасталася. І якою мы стараліся надзяліць іншых. Што ж яшчэ магло быць даражэй? Золата? Багацце? Іх у нас не было ніколі, а дабрыня была, да яе мяне далучыў муж... Для сябе ўжо не трэба, мне што... Для іншых. Тым больш, для харошых людзей. Каторым яна патрэбна". Эпізод з Донам Вітторыё, святаром, які ахвяруе сваім жыццём, каб уратаваць хоць аднаго з дзесяці заложнікаў, займае важнае месца ў творы Д.Панса.

Увогуле ж, нягледзячы на тое, што італьянская каталіцкая царква ў 1929 годзе падпісала пагадненне з урадам фашысцкай Італіі, а ў 1933 годзе з Трэцім Рэйхам, многія святары як маглі дапамагалі Супраціўленню і мірнаму насельніцтву. Нездарма адным з галоўных герояў славутага неарэалістычнага фільма Рабэрта Расэліні, прысвечанага барацьбе Супраціўлення, "Рым — адкрыты горад" (1947) стаў святар. Такім чынам, калі для твораў італьянскага мастацтва на тэму другой сусветнай вайны зварот да вобразаў прадстаўнікоў царквы як да носьбітаў агульначалавечых каштоўнасцей меў пэўную традыцыю, то ў беларускай савецкай літаратуры гэты аспект практычна адсутнічаў. Тым не менш, у апошні перыяд сталі з'яўляцца творы з падобнымі героямі. Так, на думку пападдзі Бараноўскай з рамана В.Быкава "Кар'ер", "...людзі дзеляцца не па саслоўнай ці класавай прыналежнасці, не па прафесіях і пасадах, а на добрых і злосных і што на аднаго добрага ў жыцці трапляе дзесяць злосных. І што дабрата немагчымая без бога, а са злом у чалавеку абавязкова пасяляецца д'ябал, якому ўжо ніхто не дасць рады". Трэба адзначыць, што яшчэ ў "Сотнікаве" прысутнічае хрысціянская тэматыка, цяпер жа, як адзначае В.Локун, "...маральныя пошукі пісьменніка скіраваны ... на спасціжэнне хрысціянскіх запаветаў, што адкрывае герою новыя магчымасці ўзняцца на вышыні чалавечага духу". Хрысціянскія матывы закранаюцца і ў аповесці В.Быкава "Пакахай мяне, салдацік" (1994), але гэта адбываецца больш ускосна.

Як відаць, у літаратуры апошніх гадоў назіраюцца іншыя адносіны да прадстаўнікоў варожага лагера. Іншыя не з пункту гледжання пошукаў нейкага апраўдання іх дзеянняў, а з пункту гледжання больш глыбокага разумення тых працэсаў, што адбываліся ў тагачаснай Еўропе і адпаведным чынам закранаелі душу і розум чалавека.

**Аксана ДАНІЛЬЧЫК**

КРЫТЫКА

# Споведзь беларуса

Я вагаўся — пісаць ці не пісаць гэтую рэцэнзію — да таго моманту, пакуль не прачытаў "Малітву беларуса". Працытую яе без выняткаў, бо, мяркую, што гэты верш і сапраўды мог бы стацца для нас штодзённай малітваю. На мой погляд, ні ў чым не саступае ён вядомаму гімну-"Малітве" Наталлі Арсенневай, а ў нечым мае і свае перавагі. Прастата, шчырасць і рытмічная меладычнасць робяць гэты тэкст даступным не толькі прыхільнікам паэзіі, але і шматлікім вернікам усіх хрысціянскіх канфесій. Заслугоўвае ён увагі і нашых кампазітараў. Зрэшты, не буду залішне настойліва навязваць сваю суб'ектыўную думку, але яшчэ раз зазначу, асабіста мяне гэты верш моцна ўразіў.

***Святы Божа, святы моцны,***
***святы несмяротны!***
***Пакажы нам шлях збавення —***
***годны, незваротны.***
***Абаронца справядлівы і суддзя***
***праўдзівы —***
***Бездакорны, незаменны,***
***на ўвесь свет адзіны!***
***Ты — найпершы й найапошні,***
***Божа ўсюдысны!***
***Бачыш нашага бязладдзя***
***выступы-крывізны.***
***Знаеш нашых змрочных***
***думак хібы і заганы,***
***Як вакол пяшчасцяў-бедаў***
***ходзім мы кругамі.***
***Заблудзіліся ў грахоўных***
***лабірынтах цемры:***
***Кветку-папараць шукалі***
***ў зарасніках церняў.***
***Прымушалі нас маліцца***
***ідалам "паганскім",***
***Зневажалі, выганялі***
***з цэркваў хрысціянскіх.***
***Міласэрны, добры Божа!***
***Дай надзею — грэшным,***
***Выведзі з палону здзекаў,***
***ацалі, суцеш нас;***
***Бо Ты ведаеш, якія мы панеслі страты***
***На шляху да лепшай долі,***
***да святла і праўды.***
***Уладару ўсемагутны!***
***Будзь заўсёды з намі,***
***Памажы на землях***
***продкаў стаць гаспадарамі.***
***Навучы на роднай мове***
***гаварыць і слухаць.***
***У імя Айца, і Сына, і Святога Духа.***
***Амін.***

Шкада, што большасць вершаў гэтага зборніка ўсё ж не дацягваюць да такога ўзроўню.

І ўсё ж кніжка — цэльная і вартая шырокай гаворкі, паколькі яна лёсавая. Прачытаўшы яе, можна прасачыць жыццё сённяшняга пакалення тых беларусаў, якія заспелі ваеннае ліхалецце. Эсэсэсэраўская паваенная моладзь зруйнаванай Беларусі разляталася па ўсёй "необъятной родине" ў пошуках заробку і лепшай долі, наколькі гэта было магчыма.

Іван Лагвіновіч — паляшук з хутара Запрапасць — апынуўся ў абруселым украінскім Данбасе. Праца на шахце, пад зямлёй, навучыла яго любіць паднебны свет, помніць род, свой і "блакітнавокую" Радзіму...

Рыючыся штодня, як той крот, у цёмнай вугальнай нары, ён назапашваў духоўную энергетыку, каб асвятляць свой чалавечы шлях. Паэзія не дала яму кануць у цемрадзь той "савецкай нары" канчаткова.

Паляшук не запрапаў. Ён чытаў і пісаў. Адпачатку — як зазначае ў сваёй прадмове да зборніка Мікола Пракаповіч — "на той жа мове, якой размаўляў Данбас, — савецкай, бо рускай называць яе можна было б з вялікай нацяжкай".

Аднак паступова сваё, крэўнае брала верх і, у рэшце рэшт, "на гара" была *ўзнесена* лірыка беларускай душы, якая і сталася сёння асноваю адметнага вершаванага зборніка баранавіцкага паэта Івана Лагвіновіча "Разлукі выраёвыя". (Назоў, шчыра кажучы, мне не падабаецца). А як хараша назваў ён калісьці сваю нізку вершаў у калектыўным зборніку берасцейскіх паэтаў "Дзядзінец" — "Цярновы вянок буслянкі"...

Адназначна, што выбар *свайго* даваўся паэту ой як няпроста. "Калі пішу на роднай мове // і слоў, забытых намі, так бракуе, // мне хочацца ад сораму заплакаць, // згарэць ці праваліцца скрозь зямлю"— скрушна заяўляе ён у адным са сваіх верлібраў. Хоць мова Лагвіновіча, аддамо яму належнае, у адрозненне ад многіх сучасных вершаскладальнікаў, вельмі чуйная, мяккая, *нажытая* з нараджэння і *ўходжаная*, не зважаючы на ўсе нягоды і мітрэнгі, што выпалі на яе долю і долю самога аўтара. Мажліва, што за яе чысціню трэба падзякаваць і рэдактару зборніка Алесю Каско.

Увогуле, на берасцейшчыне апошнім часам даволі плённа "каласуе літаратурная ніва", якую *савецкім сацрэалістам* так і не ўдалося "асушыць" дарэшты. Пракаповіч, Каско, Мацяш, Купрэеў, Сахарчук, Дудзюк — пакідаюць за сабою не меліярацыйную пустку, а ўрадлівы палетак пры "дзядзінцы", дзе, вобразна кажучы словамі Івана Лагвіновіча, "цярновы вянок апусцелай буслянкі" зноў стаў *ажываць*, і там ужо "не проста клякоча — Богу моліцца бусел"...

Не ведаю з якой прычыны, але ў вершы "Паміраe паэт" чамусьці прапалі ажно дзве страфы. (У калектыўным зборніку гэты верш выдрукаваны без выняткаў). Адна з *выкінутых* строф падаецца мне вельмі істотнай для характарыстыкі нашага сённяшняга часу. Ці не сталася адной з прычынаў "недадруку" белікаўскае: "каб бы чего не вышло"? *Адраджэнне* "апераджальнай" *унутранай цэнзуры* ў душах нашых аўтараў, рэдактараў і выдаўцоў вельмі насцярожвае. Вось адна з тых строф, дзе паэт

***На радзімай зямлі***
***бы чужынец які паміраe.***
***Пэўна, доля ў паэта такая:***
***турма ці сума.***
***А навокал зямля***
***выгарае — нас неба карае!***
***І нідзе паратунку***
***ад пошасці-згубы няма.***

І ўсё ж Айчына, якой бы яна ні была, стала яму панацэяй ад усіх "савецкіх хваробаў", бо, да гонару паэта, ніколі ён "не бэсціў" // мову продкаў і родны край". Трэба было быць не звычайным ментальным беларусам на чужыне, а нацыянальным патрыётам, каб не проста *пісаць вершы* пра Радзіму, а *пакланяцца* ёй *вершамі*...

***Я голаў схіляю, як вершы пішу,***
***З паклонам да роднага слова.***

А тое, што ў шасцідзесяцігадовага Лагвіновіча душа чыстая, як у дзіцяці, у адрозненне ад яго *лёгкіх*, насычаных чорным вугальным пылам, выяўляецца не толькі з біяграфіі, але і з яго відочных, а падчас і прыцененых радкоў. Толькі *паэт* можа заўважыць, што сёння, на яго радзіме

***і снег падогу не ляжыць —***
***не хоча ён валяцца ў брудзе.***

Безумоўна, што ў чалавека, які ў такім паважаным узросце выдае свой першы вершаваны зборнік, стае хібаў, як у жыцці, так і ў творчасці. Зрэшты, біяграфіі сапраўдных паэтаў *не прасталінейныя*, як *выпрамленыя* за бальшавікамі беларускія рэкі, а *звілістыя*, як сцежкі ў пушчанскай нерушы...

Адсюль — спаконвечная "*туга*", якая не дазваляе нам быць *пустадомкамі* ў гэтым свеце, куды б нас ні закідваў нелітасцівы лёс.

***Затопленыя берагі,***
***размыты ўсе мае дарогі***
***Я сёння п'ю віно тугі***
***і ем чарсцвелы хлеб трывогі.***
***Бывай, прасторны вольны свет!***
***Бывайце, вежы на пагорках!***
***Пішу адчайны запавет:***
***дым Бацькаўшчыны стаў мне горкі.***

Але ж менавіта на "гэты" дым і цягнемся адчайна, як немаўля на мацярынскі пах груднога малака....

Зусім нядаўна Іван Лагвіновіч даслаў сваю новую нізку вершаў у рэдакцыю часопіса "Крыніца". На вялікі жаль, я не змог адабраць аніводнага верша для друку. Адарваныя ад агульнай асабовай сутнасці аўтара, яны як бы губляліся, быццам вырваная мазаічная плітка па-за цэльнай мастацкай выявай..

Таму яшчэ раз хочацца зазначыць, што і ў гэтай рэцэнзіі я вяду гаворку не так пра самую паэзію і майстэрства, як пра *творчасць* чалавечай *душы* ўвогуле: наколькі яна трывалая і прыгожая ў залежнасці ад волі і таленту асобы. Бо вядома ж, як не проста заставацца ў гэтым падчас нечалавечным свеце Чалавекам, а яшчэ цяжэй — беларусам у абрусеалай Айчыне. Тым больш, што і выбар невялікі: быць *пасынкам* у Бацькаўшчыны ці сынам — у *мачысі*...

ІВАН ЛАГВІНОВІЧ
РАЗЛУКІ ВЫРАЁВЫЯ
Берасцейскае вогнішча

І толькі моцныя духам і знітаваныя кроўнай памяццю — цягнуцца і шукаюць сваё: *сын* — бацьку, а *маці* — сына...

***— Пайшоў Іванам, а вярнуўся Янам,***
***Быў вольнадумцам, зараз — уніят. —***
***Схілюся галавою пакаяннай:***
***Хай ляжа на яе рука твая.***
***Знямеюць непатрэбныя папрокі,***
***Забудзецца разводніца зіма.***
***І я скажу: — Хадзіў я***
***ў свет далёкі, —***
***Там сонечнай такой, як ты, няма.***

Гэта гучыць як прызнанне ў любові, хоць зусім побач, усяго праз адну старонку, у кніжцы ў яе гумарыстычным раздзеле, наш аўтар іранізуе над сваім уласным жыццём, а на яго прыкладзе і над мільёнамі іншых беларускіх лёсаў, у вершы "Іван".

***Не склаўся лёс. І зруб не склаўся.***
***Снапы не скláліся ў капу.***
***Байструк эпохі і двух класаў,***
***Жыву і ў дзіркі дзве сапу.***
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
***Сеў на цягнік альбо фурманку***
***І ў лепшы-горшы край уцёк.***
***А быў бы я асобай, Янкам —***
***Напэўна, склалася б жыццё!***

Ды, папраўдзе кажучы, у самога Лагвіновіча яно якраз і *склалася*, не зважаючы на пакручастыя лёс і складаныя варункі часу, у водаварот якіх ён патрапляў. І хоць зазвычай людзі ў сталым веку робяцца песімістамі, аднак жа *годнасць* сваю чалавечую аберагаюць і, як нашыя продкі — *агмень*, перадаюць наступнікам. "Хрыстос цярплівасці вучыў", таму "за светлы міг жыцця плаціць // даводзіцца высокай меркай" — піша Іван Лагвіновіч, але тое, што ён, *пасеяны* ў гэты свет з боскай рукі, і сам — "*сейбіт*" — гучыць у вершах паэта лейтматывам, як найпершы і найважнейшы запавет зямнога жыцця.

"Выпусціў з азяблых рук сяўню // дбайны сейбіт гістарычнай праўды" — жалкуе ён у вершы на смерць Міколы Ермаловіча, і там жа, напрыканцы, узвышае свой асабовы чалавечы голас да спрадвечнай аптымістычнай рыторыкі: "Трэба рыхтавацца да сяўбы: // ён пакінуў добрае насенне".

Хоць, безумоўна, Іван Лагвіновіч як ніхто іншы ведае наперад кошт свайго ўласнага жыцця. Піша пра тое лаканічна і мудра, з іроніяй і без роспачы. Бо такі вырак кожнага з нас: быць Чалавекам сярод людзей. Працягваць вечнае, ахвяраючы жывым...

***Смерць мая***
***не стане цяжкай стратай.***
***Роспач вашых сэрцаў не кране.***
***Я не быў ніколі герастратам.***
***Хутка вы забудзеце мяне.***

Адзін не можа памятаць усяго. Але ўсё помніцца многімі. Таму і пішам — дзеля памяці і спадзеву.

І як тут, напрыканцы, не пажадаць былому хутаранцу з Запрапасці *не запрапасці* ў "шматпакутнай томнасці" беларускай літаратуры і яе нацыянальнай паэзіі ў прыватнасці".

*Іван ЛАГВІНОВІЧ. "Разлукі выраёвыя", Брэст, "Вежа", 2000.*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

ПРОЗА

# АМАР

Сяргей РУБЛЕЎСКІ

АПАВЯДАННЕ



Прыйшоў чарговы грузавы борт з Арабскіх Эміратаў, і электрык аэрапорта Антон Ляшук, як на тое, круціўся каля грузчыкаў. Праныра, ён любіў неўпрыкмет працісунцца ў чэрава самалёта ды пацікавіцца, што даставілі з-за мора гэтым разам. Самалёт быў загружаны скрынкамі з рознай трапічнай садавінай, а ў дальнім куце Антон прыкмеціў дзве пластыкавыя бочкі, па велічыні прыкладна такія, як у заможных вяскоўцаў для квашання капусты. Электрык азірнуўся па баках і ўздраў абцужкамі вечка: бочка даверху была напоўнена вадой, і нячысты на руку малойчык ужо было наважыўся запусціць туды сваю кляшню, каб дазнацца, што спажыўнае водзіцца ў гэтай затаранай каламуці, як з-пад вады, нібы ражок радыёантэны, вытыркнуўся нечы вус. Такі, як у рака, толькі нашмат таўсцейшы і даўжэйшы. Вусы (а хутка і другі з'явіўся) захадзілі з боку ў бок, нібы ківачы. Не доўга думаючы, Антон увобміг наматаў адзін з іх на палец і рвануў угору.

На нітцы вуса, разджагерыўшы клешні, пакручваўся грузны, вялікі рак — амар. Прызвычаены да розных нечаканасцяў, Антон Ляшук амаль не здзівіўся, ды і не разгубіўся: падхапіў амара правай рукой, прыцісунуў к боку ды захінуў курткай-вятроўкай. Закрыў вечка бочкі і, як ні ў чым не бывала, падаўся да выхаду. Ніхто на яго не звярнуў увагі.

Па дарозе да пабудовы, дзе месцілася невялічкая майстэрня электрыка, амар балюча зацісянуў сваёй клюшняй разам з кашуляй скуру на Антонавым жываце, ды так, што небарака скурчыўся, нібы ад колікаў. Але вытрываў, не расхінуў куртку, дайшоў да свайго затулка. У майстэрні ён сцяў амару клюшні ізаляцыйнай стужкай, запіхнуў яго ў сваю валізку, у якой насіў у аэрапорт абедзенны падмацунак, і, балазе быў ужо канец змены, заспяшаўся дадому.

Нават не заходзячы ў сваю кватэру, Антон пазваніў суседу Петрусю Трапніку, выкладчыку музычнага вучылішча. І як толькі той з'явіўся ў дзвярным праёме, Ляшук лоўка ўхапіў амара за панцыр і, нібы міліцыянт, які паказвае сваё пасведчанне, рэзка выпрастаў руку перад сабой. Амар часта і моцна залопаў хвастом так, як ён рабіў зазвычай у моры, ратуючыся ад небяспекі, і дробныя, нібы пыл, пырскі абдалі музыку прыемнай прахаладай.

— Далікатэсіку заморскага хочаш, інтэлігенцыя? — ашчэрыўся ва ўсмешцы электрык. — Дзесяць бутэлек — як лёду, і — забірай. А то другому каму заганю...

Антон амаль не сумняваўся, што спакусіць ласага на розныя прысмакі Петруся.

— А як яго гатаваць? — запытаў уражаны такой нечаканай прапановай выкладчык музыкі.

— Як, як... Як ракаў варыш — так і яго, толькі крапівы ды солі не пашкадуй, — на хаду змікіціў Антон.

Ударылі па руках. На развітанне Пятрусь, асцярожна трымаючы аберуч амара, толькі спытаў, ці балюча ён шчыплецца сваімі клюшнямі, і то больш для таго, каб закругліць размову. Як толькі выкладчык музыкі зачыніў за суседам дзверы, ён тут жа ўзяўся ўладкоўваць вусатага жыхара марскіх глыбіняў: напусціў у ванну вады, перарэзаў нажнічкамі ізаляцыйную ленту на клюшнях і выпусціў амара ў выратавальную вільготную прахалоду. Той зноў часта і моцна залопаў хвастом, імкліва падаўся наперад, але тут жа ўрэзаўся ў сценку ванны.

"Небарака, няма табе разгону, — схіліўся над вадой Пятрусь. — Трэба абавязкова папярэдзіць жонку, як прыйдзе, каб не ўпудзілася", — падумаў ён і пайшоў шукаць што-небудзь пра амараў у сваіх кулінарных кніжках, хоць, шчыра кажучы, надзеі натрапіць на адмысловы рэцэпт у яго не было. Але ўсё роўна хацелася пагартаць старонкі, каб суняць агарнуўшае душу трывожнае хваляванне.

Як і думаў Пятрусь, жонка не падзяліла, не прыняла яго рамантычна-гастранамічнага памкнення. Без асаблівай цікавасці зазірнула ў ванны пакой ды сярдзіта працадзіла:

— Куртку, красоўкі сыну няма за што купіць — абнасіўся хлопец, а ён на забаўкі апошнія грошы пераводзіць. Балявацьсабраўся, пустадомак! Ты толькі расчыняй дзверы, табе гэты алкаголік заўтра і кракадзіла прывалачэ... Зладзюга...

Пятрусь змаўчаў. А хутка яго ўжо ўзрадавала тое, што дзесяцігадовы Антосік, які вярнуўся дадому з маці, не мог адвесці ад амара вачэй. Збегаў на кухню, прынёс зэдлік і ўсеўся ля ванны, каб station паназіраць за паводзінамі вірлавокага вусатага прыгажуна.

— Заўтра раніцай яго зварым. Сёння позна ўжо, а трэба ж яшчэ дзе-небудзь крапівы нарваць, — голасна сказаў Пятрусь Антосіку, так, каб чула і жонка.

— Не трэба варыць. Ён жывы! — запярэчыў хлопчык.

А ноччу здарыўся прыкры выпадак. Амар, відаць, змучаны нязвыклай прэснай ды яшчэ крышку хлараванай вадой, пачаў выказваць неспакой, гойсаць па напоўненай да краёў ванне, робячы імклівыя рыўкі на паверхню. І адным разам перакуліўся цераз край і зваліўся на падлогу. Антосік, як на тое, забыўся зачыніць дзверы, і марскі жыхар распачаў сваё гарапашнае падарожжа па кватэры, няўклюдна шкробаючы па падлозе клюшнямі. Але наўрад ці хто з сямейнікаў пачуў бы гэты шоргат і перапыніў незвычайны шпацыр, каб не чуйная котка Лэсі, якую бацькі нядаўна набылі па просьбе Антосіка.

Лэсі, учуўшы амара, саскочыла з крэсла, падбегла да яго і пачала грабаць лапкай. І вось тут здарылася: амар раптам шчоўкнуў клюшняй і зашчаміў котцы лапку. Лэсі, перацятая болем, адчайна замяўкала, забілася ў жорсткай пасткі. І ўсіх разбудзіла. Пятрусь запаліў святло і паспяшаўся котцы на выручку. Падбег і Антосік. Удвух яны расшчапілі клюшню амара і вызвалілі гаротную Лэсі.

Хлопчык адразу падхапіў яе на рукі, на вочы ў яго нагарнуліся слёзы. Пятрусь тым часам наліў ваду ў выварку, апусціў туды амара і затуліў накрыўкай.

— Каб ты прапаў са сваім амарам, — кінула на хаду жонка, якая таксама ўзнялася з ложка і пайшла на кухню запраўляць сабе ваду валяр'янам.

...Назаўтра Пятрусь прачнуўся на досвітку. Хоць жонка лягла асобна, з сынам у дзіцячым пакойчыку, ён усё адно стараўся паводзіць сябе як мага цішэй, каб і слабы шоргат не дайшоў да яе праз зашклёныя дзверы, не патрывожыў. Пры ўсіх мінулых абставінах, начным пярэпалаху Пятрусь усё ж меў слабую надзею ўлагодзіць дамашніх ды як-небудзь прымірыцца за адмысловым сняданкам.

Спехам усунуўшы ногі ў тэпці ды прыхапіўшы на кухні анучку і нож, ён выйшаў на двор і скіраваўся на абрывісты бераг ручаіны, якая аддзяляла мікраараён ад старых гарадскіх забудоў. Дзе ж знайсці крапіву, як не тут. Гэты клопат нават крышку супакоіў Петруся, і ён замармытаў пад нос учутую ўчора па радыё песеньку.

Крапіву, варта было толькі сысці па сцяжынцы ўніз, доўга шукаць не давялося. Пятрусь выбіраў маладзейшыя купінкі, даволі спрытна — амаль не абжагнаючы руку — атуляў знізу сцяблы анучкай і зразаў іх нажом. Хутка набраўся дастатковы пук, і ён здаволіўся, у добрым гуморы скіраваў да хаты.

Але ля самага ганка здарылася прыкрае: Пятрусь паслізнуўся на волкай траве, хістануўся, каб утрымаць раўнавагу, згубіў тапак і босай нагой наступіў на аскепак разбітай бутэлькі. Болю амаль не адчуў, больш — казытанне цёплага цурку. Уздзеў тапак — і што б было выйсці ў чаравіках! — уздыхнуў цяжка і пацёгся далей.

А дома, замест таго, каб абмыць рану ды змазаць яе ёдам, як заведзена, найперш наліў у вялізную каструлю вады і паставіў на пліту. Толькі пасля гэтага ўжо заняўся болькай.

Калі закіпела вада, Пятрусь укінуў у каструлю крапіву, прытаптаў яе вялізнай драўлянай лыжкай, якой памешваюць сочыва, а потым ужо пайшоў у ванны пакой па амара.

Раздражнёны ранішняй прыгодай, Пятрусь выхапіў марскую істоту з вады рашуча, нават са злосцю, нібы гэта яна была вінаватая ў яго звадках. Але зноў не падумаў, паспяшаўся, апусціў амара ў кіпень не вусамі ўверх, а наадварот, хвастом, і той, мусіць, ужо з апошніх высілкаў, зноў адчайна залопаў ім, узнімаючы гарачыя пырскі.

На шчасце, Пятрусь быў у кашулі, але ж колькі кропель патрапіла і на твар, і ён, забыўшыся на перасцярогу, гучна войкнуў ды роспачна бразнуў аб пліту накрыўкай каструлі.

Жонка расчыніла дзверы кухні надзіва спакойна і, як падалося Петрусю, хутчэй са шкадобай, чым з папіканнем, прамовіла:

— Усё валэндзішся са сваім крадзеным амарам, усё пэцкаешся...

Яна наліла шклянку соку і сышла да сына.

Пятрусь не ведаў, колькі трэба варыць амара, але вырашыў, што паўгадзіны — хопіць. Ён сядзеў ля вакна, курыў, зноў і зноў паглядаючы на гадзіннік, ні аб чым не думаў, а толькі слухаў, як булькоча ў каструлі вада.

Калі час ужо сыходзіў, зноў зайшла жонка, дастала з лядоўні яйкі, узялася гатаваць амлет.

— Амар жа амаль гатовы, вунь які чырвоны. Давай яго на сняданак, — нясмела, прымірэнча прамовіў Пятрусь.

— Не вярэдзь ты хоць сыну душу. Пакуль ён не ўстаў, вынесі гэтую поскудзь куды-небудзь з кватэры, — зноў стрымана, шкадобна, але цвёрда і непрымірэнча сказала жонка.

— Ну хоць ты паспрабуй...

— Адчапіся...

І тады разнерваваны Пятрусь ухапіў вялізную талерку, на якой жонка звычайна выстаўляе на стол пірагі, і выцягнуў на яе з кіпеню чырвонага амара за вус, не раўнуючы, як Антон з бочкі. Амар сыходзіў парай, і Пятрусь, каб не раздражняць лішні раз жонку, падаўся з талеркай у вітальню. У разгубленасці паставіў яе на тумбачку, задумаўся на імгненне, потым схамянуўся і зноў крутнуўся на кухню. Прынёс адтуль нож, цытрыніну з лядоўні, пакроіў яе і з усіх бакоў акуратна абклаў амара духмянымі скрылькамі. Навошта ён так зрабіў і ці робяць так, Пятрусь і сам не ведаў, затое ён дакладна ведаў, куды зараз пойдзе, і пачаў хуценька апранацца.

А хады той толькі і было, што падняцца на два паверхі вышэй — да Арнольда Леапольдавіча.

Сусед сустрэў яго ветла, але замест здароўкання, убачыўшы ў руках Петруся талерку, толькі і прамовіў са здзіўленнем:

— Ой, амарчык! Дзе выцыганіў? Амарчык... Заходзь, заходзь, брат! — Арнольд Леапольдавіч шырока расчыніў дзверы: — Прашу!

Пятрусь адразу завярнуў на кухню, паставіў талерку на стол і, нібы ў сябе дома, тут жа прысеў ля вакна і закурыў.

— Палі, палі, мая на лецішчы з унукамі атабарылася. Халасцякую! — азваўся з дальняга кута кватэры Арнольд Леапольдавіч. Не доўга думаючы, ён ужо даставаў з шафы скрынку з інструментам, каб выцягнуць адтуль пласканцы, якімі нават неўспрытнёны ядок з лёгкасцю скрышыць амаравы даспехі.

— О, колькі я іх паеў у Егіпце, на прыёмах розных, пагулянках, — завіхаўся ля талеркі Арнольд Леапольдавіч. — А навошта ты цытрыну накроіў, толькі смак пераб'еш. Солька — і ўсё. Але хай сабе, — раптам перадумаў ён. — З каньячком пойдзе! — і дастаў з паліцы пузатую бутэльку.

Пасля першай чаркі Петрусю захарашэла, а яшчэ яго ўсцешвала тое, што сусед ні аб чым не распытвае, а ўсё доўжыць і доўжыць свае ўспаміны пра замежнае жыццё ды прыцмоквае языком, каштуючы чарговы скрылёк белага далікатнага мяса.

Петрусю дык ужо і не хацелася заморскага далікатэсу. Так, узяў на зуб, дзеля прыліку. І не столькі раскаштаваў яго, колькі нагнаў успаміны пра начную лоўлю ракаў у дзяцінстве ды сядзенне ля вогнішча з сябрукамі, калі пад булькаценне кіпеню ў вядры хораша доўжыцца гаворка пра далёкае, нязведана-мройнае жыццё.

Яны выпілі яшчэ колькі кілішкаў, і Пятрусь засбіраўся дадому.

— Дык, можа, пакінеш амарчыка? — звярнуўся да яго Леапольдавіч. — Увечары павінна адна знаёмая завітаць — вось будзе для яе сюрпрыз!

— На здароўе. Талерку потым аддасі, — азваўся самотны Пятрусь і падаўся на выхад.

Але не паспеў ён мінуць і лесвічны пралёт, як яго дагнаў Арнольд Леапольдавіч.

— Не магу так адпусціць цябе, дарагі, з пустымі рукамі. На вось, пакаштуй. Тады скажаш! — і сусед ледзь не сілком тыцнуў яму ў рукі пакунак са слоікам.

Пятрусь так і выйшаў з ім на вуліцу, бо дамоў вяртацца не заманьвала. Ён вырашыў крышку пасядзець у скверыку або выпіць кавы ў бліжэйшай кавярні, дзе людскі тлум зусім не замінае адзіноце.

Дамоў прыйшоў апоўдні. Жонка з сынам некуды сышлі, і Пятрусь спачатку прылёг на канапе, паглядзеў па тэлевізары навіны, а потым пайшоў прыбіраць за сабой на кухні — выслабаняць ад вады і крапівы, мыць каструлю.

І раптам яму захацелася выпіць — вось так, аднаму, ні з чога, ні з якага. Ён наліў чарку гарэлкі і ўспомніў пра суседскі дарунак. Дастаў з пакунка слоік: гэта былі марынаваныя гурочкі. Здзівіўся, як адмыслова яны падабраны — адзін у адзін, маленькія, роўненька ўкладзеныя, з пахучай прыправай... Пятрусь нават зашкадаваў парушаць гэты парадак. Ён адсунуў чарку ўбок і вырашыў абабраць бульбы, каб зварыць яе па вясковай завядзёнцы, з цыбуляй і кменам, дачакацца жонкі ды разам наладзіць традыцыйны падвячорак.

...Праз тыдзень Пятрусь нос у нос стрэўся на лесвічнай пляцоўцы з Антонам Лешуком, які якраз вяртаўся са змены.

— Авакада?! — узняў Антон угору разноску.

— Гуркі! — нібыта слова з паролю шпегаў прамовіў у адказ Пятрусь, адмыкаючы дзверы.

А сам падумаў: "І чаму гэта ў старых сонніках пішуць, што сніць салёныя гуркі, есці іх у сне — гэта на слезы ды беднасць..."



## З роду Ельскіх



*Міхал Ельскі*

**Вядомы беларускі род увайшоў у гісторыю культуры сваімі таленавітымі сынамі. З дня нараджэння аднаго з іх — Міхаіла Ельскага — нядаўна споўнілася 170 гадоў. Быў ён адметнай асобай у мастацтве скрыпічнага выканальніцтва, пісаў музыку — і пра музыку.**

**Міхаіл Ельскі атрымаў музычнае выхаванне і прафесію скрыпача ў Мінску, у Вільні. Удасканальваў выканальніцкае майстэрства ў Парыжы і Дрэздэне ў такіх славутасцяў, як А. В'етан ды К. Ліпінскі, даваў канцэрты ў Мінску ды Вільні, у гарадах Германіі ды Польшчы. Цікава, што 50-годдзе сваёй канцэртнай дзейнасці ён адзначыў вялікай імпрэзай на радзіме, у вёсцы Дудзічы (цяперашні Пухавіцкі раён).**

**У спадчыне М. Ельскага — каля сотні скрыпічных і фартэпіянных твораў, музычна-публіцыстычныя і асветніцкія артыкулы, што змяшчаліся ў тагачасных часопісах, запісы беларускага фальклору, скарыстаныя ва ўласнай творчасці, а таксама рукапісная праца "Народныя танцы Мінскай губерні".**

**Вяртанне кампазітарскай творчасці М. Ельскага ў культурны досвед нашых сучаснікаў — плён працы такіх даследчыкаў і музыкантаў-выканаўцаў, як Аляксандр Капілаў, Леў Гарэлік, Ігар Алоўнікаў, Ганна Каржанеўская, Андрэй Шпянёў, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла" Віктар Скорабагатаў ды інш.**

**Н. К.**

## На людзей паглядзець і сябе паказаць

**У верасні ў Нацыянальным выставачным цэнтры "БелЭКСПА" (у павільёне на вуліцы Янкі Купалы) праходзіла спецыялізаваная выстава "ІНТЭРДЫЗАЙН-2001". Арганізатары, акрамя "БелЭКСПА", Нацыянальны дызайн-цэнтр, Дзяржаўны камітэт па навуцы і тэхналогіях, Упраўленне справамі Прэзідэнта РБ. І яшчэ шэраг іншых структур — грамадскіх, навуковых, камерцыйных. Тэматыка ахоплівае прамысловы дызайн, рэчавы свет жытла пачатку новага стагоддзя, дызайн графічны, дызайн і моду, дызайн і рэкламу. Да выставы была прымеркаваная навукова-практычная канферэнцыя. У ёй бралі ўдзел беларускія спецыялісты, а таксама госці з Украіны, Расіі, Італіі. Пра італьянцаў трэба сказаць асобна. Прадстаўленая імі ў кантэксце "ІНТЭРДЫЗАЙНА-2001" гістарычная калекцыя дызайнерскіх распрацовак, адзначаных прэміяй "Залаты цыркуль", стала фактычна цвіком экспазіцыі і, у нейкай ступені, камертонам для ўсіх астатніх удзельнікаў акцыі. Глядач жа меў рэальную магчымасць параўнаць "як у нас" і "як у іх". Дызайнеры нашы, зрэшты, умеюць працаваць не горш за сваіх еўрапейскіх калегаў — выхаванцаў факультэта дызайну Беларускай акадэміі мастацтваў можна напаткаць і па ўсёй Еўропе, і за акіянам. Праблемы ж пачынаюцца на стадыі рэалізацыі праекта... Таму наша было прадстаўлена збольшага праектнымі распрацоўкамі, італьянскае — тыражаванымі рэчамі. Калі зыходзіць з вядомага тэзісу, што важным ёсць не месца, якое мы займаем, а напрамак руху, дык справа беларускага дызайну выглядае досыць аптымістычна. Пра што сведчыць і сам факт правядзення культурніцкай акцыі "ІНТЭРДЫЗАЙН-2001".**

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

ГАСЦЁЎНЯ

***Вось ужо сапраўды двухаблічны, але ў самым лепшым сэнсе гэтага слова, чалавек. Праўда, такі ён, бо — "блізня" — усяго толькі па гараскопе, але, відаць, гэтага таксама дастаткова, каб сумяшчаць у сабе два розныя абліччы, развіваючыся ў двух напрамках музычнага мастацтва. Адзін з іх — творчасць барабаншчыка, які займаецца даследаваннямі рытмічнай прасторы, стварыў індывідуальную "Сістэму насычанай ігры" на ўдарнай устаноўцы і нават зняў трохгадзінны музычны фільм на гэтую тэму. А другі — гэта творчасць кампазітара-мультыінструменталіста, які складае і запісвае музыку, а ў выніку выпусціў, на мой погляд, зусім някепскі альбом інструментальнай музыкі ў стылі NEW AGE пад назвай "Музыка для роздуму". Такім чынам, знаёмцеся: барабаншчык, кампазітар і прадзюсер Аляксандр СОФІКС.***

# Рытм працінае ўсё



**— Як усё пачалося, як ты прыйшоў у музыку?**

— Я не лічу, што прыйшоў у музыку. Чалавек можа быць музыкантам альбо не можа быць ім. Гэта падобна да хранічнай хваробы альбо нават да прыроджанага пароку, ад якога немагчыма пазбавіцца. Мяне музыка вабіла з дзяцінства, і першы ўдар па барабане я зрабіў у чатыры гады. Далей быў "творчы перапынак". Я, вядома ж, з зайздрасцю глядзеў на зіхоткія гітары і барабаны ансамбляў. А ў школе пастаянна дзяжурыў пад зачыненымі дзвярыма падчас рэпетыцый ансамбля старшакласнікаў... З цягам часу з'явілася свая кампанія, прапанавалі настаўніку музыкі стварыць нашу групу. Адмовілі — з прычыны нашай маладосці і адносна здавальняючых паводзін у школе. (Здаецца, гэта быў шосты клас). Але прыйшоў той самы дзень, калі настаўнік музыкі пасля чарговага ўрока папрасіў нас застацца. Я не стаў барабаншчыкам — апярэдзіў мой сусед. Даваўлося зрабіцца бас-гітарыстам, які марыць быць барабаншчыкам. У перапынках я сядаў за барабаны і спрабаваў граць. Нарэшце, у мяне атрымалася лепш, чым у майго калегі... Потым адбыўся маленькі цуд. У школу прыйшоў кіраўнік ансамбля з нашага шэфскага прадпрыемства. І ўявіце сабе, ён шукаў барабаншчыка! Была зіма, урок фізкультуры, я катаўся на каньках — і раптам мяне клічуць... Я атрымаў першае ў сваім жыцці запрашэнне ў сапраўдны ансамбль. Гэта быў вельмі адказны момант, таму што баяўся не апраўдаць спадзяванняў. Да таго ж, ніколі не граў з дарослымі людзьмі, і мне здавалася, што ўсё-ткі яны мяне выганяць, мне было тады 15 гадоў. Але, на шчасце, я атрымаў неабходную падтрымку, разуменне.

**— Гісторыя захапляльная, і хочацца працягу.**

— Ну... па-рознаму было. Я граў у многіх групах. Напрыклад, "Белы воран". На мой погляд, гэта была адна з мацнейшых незалежных груп у Гомелі, са сваёй уласнай апаратурай і рэпертуарам. Гэта быў немудрагелісты рок, дарэчы, на беларускай мове.

"Сёмы акіян" — група больш складаная ў музычным плане. Захопленыя "Genesis" і "Yes" мы спрабавалі зрабіць наш уласны арт-рок. Гэта някепска атрымлівалася, у выніку мы запісалі альбом у арт-рок стылі з вельмі цікавымі інструментальнымі партыямі і нават з маім барабанным сола. Альбом грунтаваўся на не менш цікавай паэзіі нашага ідэйнага натхняльніка і неблагога музыканта Аляксандра Ялецкага. Гэта была амаль рок-опера са сваімі персанажамі.

Нарэшце, перыяд больш позняй творчасці — група, з якой я адпрацаваў сем гадоў — "Галерэя сноў". У аснове было інструментальнае трыо: барабаны, бас-гітара (Ігар Голубеў), гітара (Іван Піліпенка). Мы шмат займаліся і спрабавалі вынаходзіць новыя музычныя формы. Штосьці бралі ад рока, штосьці ад джаза, апошнім часам мы схіліліся ў этна-фолк стыль і пачалі граць эзатэрычную музыку і нават запісалі досыць прыстойны альбом у гэтым стылі. Акрамя таго, запісалі яшчэ два някепскія альбомы, адзін з якіх "Мара па заказе" быў выпушчаны ў Мінску фірмай "Каўчэг".

**— А як растлумачыць тваё з'яўленне на музычных сцэнах Мінска ў складзе мінскай групы "Князь Мышкін"?**

— Хутчэй за ўсё — гэта ўзаемная цікавасць і ніякіх залішніх планаў. Мэта — сабрацца і прадставіць гледачам цікавую музыку.

**— Значыць, ты цяпер як бы сам па сабе і займаешся выключна сольнай кар'ерай?**

— Увогуле я заўсёды займаўся сам сабой і мае індывідуальныя заняткі заўсёды складалі аснову майго творчага развіцця. Проста ўсё лішняе адпала, і ў мяне нічога не засталося, акрамя маёй сольнай дзейнасці.

**— Ты казаў, што тваё сольнае выступленне адбылося сёлета на фестывалі "Сіні перац-6" у Мінску. Ты прадставіў на суд гледачоў 20-хвіліннае барабаннае шоу. Відовішча, канечне ж, уражлівае і незвычайнае. А як узнікла ідэя стварэння такога шоу?**

— Ідэя — напэўна, паняцце адноснае, бо кожны сумленны музыкант заўсёды паказвае сваю музыку і свой пункт гледжання на яе. Такое барабаннае шоу і ёсць мая музыка, якую я спрабую папулярызаваць у нас у краіне. Я вельмі люблю барабаны і рытм, вядома ж, шмат займаюся, у выніку чаго і з'яўляюцца мае рытмічныя канструкцыі, прычым усе яны — адухоўленыя, гэта не пустыя ўдары, незразумела адкуль узятыя. Гэта досыць самастойныя рытміка-меладычныя адзінкі, якія маюць свае пачатак і канец. З іх і выбудоўваецца лагічны ланцужок, заснаваны на чаргаванні частак, якія гучаць характэрна. Такім чынам і атрымліваюцца мае барабанныя творы. Замест піяніна ў мяне барабаны, таму мне больш складана перадаць пачуцці і характары як уласныя, так і навакольнага свету. Барабаны ж — шумавы інструмент, а людзі прывыклі звяртаць увагу ў асноўным на мелодыю. Відаць, мала хто задумваецца, што грунтуецца кожная мелодыя на рытмічнай аснове і без гэтай асновы не было б і мелодыі.

І яшчэ: мелодыя не можа існаваць без рытму, а рытм без мелодыі — можа. Атрымліваецца, што рытм — гэта зусім незалежная і аўтаномная субстанцыя альбо з'ява са сваімі законамі ўзнікнення і развіцця. Канечне ж, складана арганізаваць і прывесці ў адпаведнасць шумы так, каб людзі адчулі ўвесь цуд рытму і яго музычнасці, але, думаю, у пэўнай ступені гэта мажліва.

**— Ты маеш на ўвазе сваю "Сістэму насычанай ігры" на ўдарнай устаноўцы?**

— Так, працяглы час мяне турбуюць праблемы рытму і яго бязмежнасці, таму я заўсёды сіліўся зрабіць штосьці незвычайнае на барабанах, хаця і не заўсёды гэта атрымлівалася. Настаў час, калі мне даваўлося перагледзець свой падыход да вывучэння тэхнікі ігры на ўдарнай устаноўцы. Адначасова змяняліся мае погляды на рытм, барабаны, ды й на музыку ў цэлым. Паступова мне пачаў адкрывацца іншы свет, больш маляўнічы і шматстайны. Я ўбачыў непарыўную сувязь і цесн ае перапляценне чалавека, музыкі і навакольнага свету, наскрозь прасякнутага рытмамі і пульсацыяй. Рытм можна адшукаць усюды. У неадухоўленых прадметах і жывых істотах, у словах і паняццях, і нават у думках — усё наскрозь прапітана бясконцым мноствам рытмаў і пульсацый. І чалавек па сутнасці нічога не прыдумвае, ён усяго толькі вылучае нейкія элементы з навакольнай прасторы, трансфармуе іх у іншыя формы і ўрэшце падносіць у больш даступным і традыцыйным выглядзе. "Сістэма насычанай ігры" якраз і ёсць вынік вялікага жадання спасцігнуць таямніцы рытму, бляск і шматстайнасць яго граняў, якія ў сваю чаргу адлюстроўваюць усе жыццёвыя з'явы і працэсы, — жадання самому зразумець і данесці да слухачоў усю прыгажосць і бясконцасць рытмічнага свету, у якім мы жывём.



— **Я бачыла твой фільм на гэтую тэму. Дзівосная праца!**

— Музычна-дакументальны фільм пад назвай "Музыка гор і вадаспадаў" пра барабаннае мастацтва доўжыўся 2 гадзіны 50 хвілін. У аснове — аднайменны велізарны барабанны твор, у якім я скарыстаў свае апошнія распрацоўкі ў галіне тэхнікі ігры на ўдарнай установцы. Сам твор доўжыцца 60 хвілін. Таксама я расказваю ў фільме пра асаблівасці сваёй сістэмы і даю наглядныя прыклады, за што фільм параўноўваюць з відэашколай. Усе здымкі адбываліся ў Гомелі пры тэхнічнай падтрымцы Алега Пугачова і апаратарскай дапамозе Генадзя Калавуркіна. Пераклад на англійскую мову забяспечыла Алена Лысая, прадзюсіраваннем займаўся я сам. Мэта фільма — папулярызацыя барабаннага мастацтва, у прыватнасці, маіх творчых ідэй.

— **Саша, як атрымалася, што ты пачаў пісаць музыку?**

— Відавочна, гэта адбылося нейкім натуральным чынам. Я вельмі люблю музыку і з дзяцінства слухаю яе, а калі пачаў вучыцца граць на барабанах, то я пачаў аналізаваць і разглядаць, як узаемадзейнічаюць барабаны з іншымі інструментамі. Мяне вельмі цікавіць спалучэнне гукаў і інструментаў, якія ўтвараюць агульнае гучанне, што і выклікае ў чалавека нейкія эмоцыі і асацыяцыі. Наогул, у свеце дастаткова прыкладаў таго, што барабаншчыкі з'яўляюцца лідэрамі ў групах і запісваюць музыку сольна. Напрыклад, Чык Корыа — выдатны кампазітар і піяніст сучаснасці, у той жа час някепскі барабаншчык. А ў Майкла Джэксана ёсць музыка, пабудаваная на 60—70 працэнтаў з рытму, і пішуць яе барабаншчыкі-кампазітары... Веданне рытму і барабанаў — гэта вялікі плюс у напісанні музыкі.

— **Нядаўна я пазнаёмілася з тваім сольным альбомам "Музыка для роздуму". Шчыра кажучы, нечаканая і смелая работа для нашых краёў. Досыць пранікнёная і адкрытая музыка, раю ўсім паслухаць. Раскажы, калі ласка, пра гэты альбом...**

— Гэта наш дэбютны сольны альбом такога маштабу, раней быў альбом барабаннай музыкі. Запісваў я яго на працягу двух з паловай гадоў на сінтэзатарах, у асноўным у Гомелі і часткова ў Мінску, дзе я яго і выдаў. Альбом складаецца з шасці інструментальных кампазіцый. Пачынаецца ўзыходам сонца, пасля чаго ідзе ранішняя фантазія, далей гучыць музыка дажджу, якая перапыняецца бяздзеяннем і ў канцы — калыханка, якая называецца "Прыцемкі". Агульная назва "Музыка для роздуму" непасрэдна адлюстроўвае сутнасць гэтага твора, хаця пад некаторыя кампазіцыі можна і патанчыць, сам бачыў. Але ўсё ж гэта філасофская музыка, вытрыманая ў духу рамантызму, што мае на ўвазе чалавечыя разважанні і фантазіі. Спадзяюся, тут слухачы знойдуць і часцінкі сваіх перажыванняў, наведаюць свет хваляванняў і спакою, эмоцый і сну...

— **А хто браў удзел у падрыхтоўцы твайго альбома да выпуску?**

— Самы непасрэдны ўдзел у гэтай працы браў Бог, за што я яму бясконца ўдзячны. На зямлі ж мне, як заўсёды, дапамог Алег Пугачоў тэхнічным абсталяваннем, а таксама Віталь Гапоненка. Вялікі дзякуй маім паплечнікам — камп'ютэршчыкам Андрэю Аляксеенкаву і Максіму Іванчанку, якія дапамаглі з дызайнам вокладкі і рэкламнага плаката. Таксама хачу выказаць удзячнасць за падтрымку кіраўніцтву ААТ "Гомельскі электратэхнічны завод" ў асобе Міхаіла Захаравіча Каўфмана. Дзякую маім мінскім калегам: Андрэю Жукаву, Леаніду Нарушэвічу, фірмам і многім людзям, якія з цікавасцю ставяцца да маёй творчасці...

— **Ці лічыш ты, што робіш музыку будучыні і якой ты бачыш музыку 21-га стагоддзя?**

— Можа, у дадзены момант гэта і не музыка будучыні, але я хацеў бы пажадаць сваім творам быць актуальнымі ў 21-м стагоддзі. Што да музыкі ўвогуле, то я думаю, усе жанры застануцца, але не ведаю, наколькі яны будуць папулярныя. Прагрэсіўная ж музыка, на мой погляд, яшчэ больш схіліцца да сінтэзу прыроды, духоўнасці чалавека і неабмежаванага спектра спалучэння музычных інструментаў. І калі да гэтага часу музыка стваралася праз аб'яднанне рытму і мелодыі, дык музыка будучыні паўстане дзівосным арганічным спалучэннем і перапляценнем элементаў рытму, шумоў натуральных і штучных, вібрацый і,нарэшце, мелодый, выяўленых усемагчымымі інструментамі, уключаючы голас чалавека. Гэтая тэндэнцыя заўважная сёння...

**Гутарыла Вікторыя ПРЫМОРСКАЯ**

*На здымках: А. СОФІКС і вокладка яго CD.*

ТЭАТР

# Увага, увага: заслона адкрываецца!

Акадэмічныя тэатры адкрываюць заслону, а ўсе астатнія, якія заслоны ўвогуле не маюць, папросту пачынаюць новы тэатральны сезон. Якім ён будзе для тэатраў сталіцы?

Старэйшая сцэна краіны — Купалаўскі тэатр — у самым хуткім часе чакае прэм'еру. 9—10 лістапада рэжысёр А. Гарцуеў прапануе сваю версію вядомай п'есы А. Дударава "Кім". Разам з заслужанымі артыстамі Беларусі Г. Давыдзькам і А. Падабедам у спектаклі возьмуць удзел прызёры нядаўняга фестывалю творчай тэатральнай моладзі "Надзея" С. Зелянкоўская і Г. Хітрык. Увогуле, улічваючы вынікі гродзенскай "Надзеі", становіцца зразумела: асноўная надзея ўскладаецца на іх, маладых купалаўцаў. Узгадаю, што сярод лаўрэатаў фестывалю — выканаўцы лепшых мужчынскай і жаночай роляў А. Малчанаў і С. Зелянкоўская, мастакі Д. Волкава і А. Снапок (намінацыя "сцэнаграфія"); сярод дыпламантаў — акцёры С. Анікей, А. Гладкі, рэжысёр У. Шчэрбань. Нельга не ўлічваць таксама таго, што ў лепшым фестывальным спектаклі "Больш, чым дождж" (рэжысёр — таксама артыст тэатра П. Адамчыкаў), які быў прадстаўлены антрэпрызай Беларускага фонду развіцця культуры, амаль усе ролі выконваюць купалаўцы. Але ганарыцца гучнымі званнямі маладым акцёрам тэатра асабліва няма калі: поўным ходам ідуць рэпетыцыі "К'еджынскіх перапалак" Гальдоні ў пастаноўцы У. Шчэрбаня.

Разам з тым, не застаецца па-за ўвагай і больш сталае акцёрскае пакаленне. Т. Пузіноўская і А. Падабед прадэманструюць свае майстэрства ў эксперыментальным спектаклі па п'есе Д. Хуана "Дом, дзе спяць прыгажуні". Пры падтрымцы гандлёвай маркі "Serge" гэтай пастаноўкай займаецца рэжысёр Д. Марынін. Лістапад і снежань стануць святочнымі для дзвюх зорак купалаўскага: 28 лістапада спектакль "Лес" тут будуць іграць у гонар юбілею народнай артысткі Беларусі М. Захарэвіч, а 25 снежня віншаваць будуць ужо народную артыстку рэспублікі Л. Давідовіч. 27 лістапада ў тэатры адбудзецца вечар памяці М. М. Яроменкі.

Сезон для Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя М. Горкага пачаўся з часовага перасялення на Малую сцэну Палаца Рэспублікі. Ва ўласным жа будынку тэатра па вуліцы Валадарскага зараз ідзе рамонт, які абяцае скончыцца толькі ў снежні. Вяртанне тэатра ў родныя сцены будзе адзначана святкаваннем юбілею яго славутай актрысы А. Клімавай. На працягу сезона значна ўзбагаціцца рэпертуар Рускага тэатра. Яго галоўны рэжысёр Б. Луцэнка зноў возьмецца за гогалеўскага "Рэвізора", а крыху пазней прыступіць да пастаноўкі "Сна на кургане" Я. Купалы. Вынікам садружнасці двух Рускіх тэатраў — мінскага і літоўскага — будзе праца мастацкага кіраўніка Рускага драматычнага тэатра Літвы У. Тарасава над спектаклем "Масква — Петушкі". Ён станецца адказам на пастаноўку "Перпетуум-мобіле, ці Сакрэт выжывання", якую нядаўна ажыццявіў Б. Луцэнка на літоўскай сцэне. Акрамя таго, Вітаўтас Грыгалюнас будзе працаваць над "Калігулай" А. Камю, А. Кац — над чэхаўскай "Чайкай", рэжысёр са Швейцарыі, дзе Б. Луцэнку таксама ўдалося наладзіць творчыя кантакты, — над "Дыспутам" Марыво.

Галоўнай падзеяй кастрычніка для Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, безумоўна, стала адкрыццё эксперыментальнай сцэны. Першым спектаклем, сыграным на ёй, была прэм'ера "Гісторыі кахання Паласатага Ката і Сеньярыты Ластаўкі", якую паставіла рэжысёр В. Еранькова паводле апавядання Ж. Амаду. Новая сцэна ТЮГа, як бачна з яе назвы, стане пляцоўкай для нетрадыцыйных спектакляў самых розных жанраў і форм, а таксама для сустрэч з цікавымі людзьмі. У гэтым праекце будзе задзейнічана шырокае кола мінскіх акцёраў з Рускага тэатра, Тэатра-студыі кінаакцёра, навучэнцаў Беларускай акадэміі мастацтваў і Беларускага універсітэта культуры. Ужо зараз думае тэатр і пра зімовыя святы. Ю. Вута як аўтар і як рэжысёр рыхтуе для маленькіх гледачоў "Навагодні пірог з незвычайным дзівам". Адначасова Ю. Вута займаецца і пастаноўкай "Сярэбранай табакеркі" М. Матукоўскага. Лаўрэат фестывалю "Надзея" ў галіне рэжысуры Н. Башава зараз працуе над казкай "Рыцары краіны сланечнікаў", а на эксперыментальнай сцэне — над "Любоўнымі гульнямі" паводле У. Шэкспіра. У новым сезоне працягне сваё існаванне вельмі карысная праграма "Дні сям'і ў тэатры". Падчас яе правядзення ў фае тэатра звычайна бясплатна працуюць самыя розныя службы — ад псіхалагічнай да парыкмахерскай, якія аказваюць магчымую дапамогу наведвальнікам тэатра.

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, нарэшце, ачуняў пасля леташняй змены тэатральнага кіраўніцтва і пачаў сезон дзвюма прэм'ерамі: псіхалагічнай драмай М. Рудкоўскага "Жанчыны Бергмана" і гісторыяй кахання Я. Таганава "Адэль". На фестывалі творчай тэатральнай моладзі тэатр быў прадстаўлены шэкспіраўскай трагедыяй "Макбет" у выкананні студэнтаў Беларускага універсітэта культуры, навучэнцаў рэжысёрскага курса В. Анісенкі. Дыпламантам "Надзеі" стаў К. Міхаленка, які добра справіўся з галоўнай і найбольш складанай роляй Макбета. У планах тэатра зараз знаходзяцца чатыры пастаноўкі: "Пясочны гадзіннік" П. Васючэнкі (рэжысёр — С. Кавальчык), драматычна-пластычная элегія "Песні ваўка" В. Паніна (рэжысёр — У. Арлоў), "Балада пра Бландою" С. Кавалёва (рэжысёр — У. Аржэцкая) і крымінальная драма "Зона Х" А. Карэліна (рэжысёр — С. Гавенка).

Дзяржаўны маладзёжны тэатр пачаў сезон з прэм'еры, якая шакіравала многіх. Асновай свайго спектакля "Чорт, выстаўлены аслом" рэжысёр В. Катавіцкі выбраў сярэднявечныя французскія эратычныя фарсы, якія, зразумела, асаблівай далікатнасцю ды ўзнёсласцю не вылучаюцца. Як вынік — спектакль не зразумелі і не прынялі на гродзенскай "Надзеі". Але без узнагароды Маладзёжны ўсё ж не застаўся. Новы акцёр тэатра Ілля Чарапко атрымаў дыплом за ролю... Керубіна ў спектаклі "Фігаро", які, як ні дзіўна, увогуле не значыўся ў фестывальнай праграме. У гэтым сезоне тэатр плануе ажыццявіць яшчэ тры пастаноўкі: "Позняе каханне" А. Астроўскага, "Трамвай "Жаданне" Т. Уільямса, "Так загінуў Гуска" М. Кулеша. Акрамя таго, да Новага года рэжысёр Агароднікава паставіць казку "Па зяленых хвалях акіяна". За лета значна памяняўся тэатральны інтэр'ер. Нарэшце з'явілася сапраўднае фае з партрэтамі артыстаў, а сцэна, як і належыць, набыла для гледача таямнічую непрыступнасць. Дзякуючы намаганням В. Старавойтава, новага дырэктара тэатра, у Маладзёжным з'явілася новая гукавая і асвятляльная апаратура. Некаторыя змены адбыліся і ў складзе трупы: яе пакінулі Д. Пустэльнік і С. Навіцкі, а замест іх прыйшлі студэнт рэжысёрскага факультэта БАМ І. Шчытко, расійская актрыса Н. Анішчанка і былы акцёр Тэатра беларускай драматургіі У. Іваноў.

Мінскі тэатр-студыя кінаакцёра ў лістападзе ўрачыста адзначыць двухсотае прадстаўленне свайго папулярнага спектакля "Мы ідзём глядзець Чапаева". На 18—19 лістапада запланавана прэм'ера "Поле бітвы" С. Бартохава і творчая сустрэча з акцёрамі і стваральнікамі спектакля ў канцэртнай зале "Мінск".

Мінскі тэатр драмы "Дзе-Я?" распачаў сезон адразу дзвюма прэм'ерамі: паліцэйскай камедыяй "Фрэдзі" Р. Тама ў пастаноўцы І. Мацкевіч і казкі-фантасмагорыі А. Гаруна "Чароўная скрыпка" (яе рэжысёр — С. Кавальчык). Летам і на пачатку восені, акрамя падрыхтоўкі новых спектакляў, тэатр паспеў з'ездзіць на гастролі ў Віцебск і традыцыйна наведаць са сваімі цудоўнымі казкамі дзіцячыя дамы і школы Гродзенскай вобласці. Зараз жа тэатр чакае абяцанага Прэзідэнтам і Міністэрствам культуры пашырэння "жылплошчы", якую "Дзе-Я" мусіць дзяліць з кінатэатрам "Радзіма".

Мёртвы сезон ва ўсіх сталічных тэатрах — скончаны. Восень, напэўна, самая лепшая пара для ўсіх тэатральных і калятэатральных людзей. Так хочацца верыць, што ўжо ў гэтым годзе спектаклі будуць толькі ўдалыя, крытыкі — добразычлівыя, гледачы — удзячныя, а жыццё — лепшае. Што ж, паглядзім?...

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**



*Сцэна са спектакля "Чорт, выстаўлены аслом"*

Фота А. ДЗМІТРЫЕВА

## З клопатам пра літаратурную адукацыю

**У Нацыянальным інстытуце адукацыі адбыліся рэспубліканскія навуковыя чытанні "Навукова-педагагічная і літаратуразнаўчая спадчына акадэміка Міхася Арсенавіча Лазарука", прымеркаваныя да 75-годдзя з дня нараджэння акадэміка НАН Беларусі, Беларускай і Расійскай акадэмій адукацыі, які, на жаль, не дажыў да свайго юбілею і не паспеў ажыццявіць многія свае задумкі. Але засталіся яго вучні, сябры, навукоўцы і пісьменнікі — людзі, якім неабыякавая памяць пра паплечніка і настаўніка.**

**Падчас канферэнцыі выступілі доктар філалагічных навук, акадэмік НАН Беларусі Васіль Івашын, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт НАН Беларусі, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Уладзімір Гніламёдаў, кандыдат педагагічных навук, сябар і калега вучонага Міхась Крот. Яны гаварылі пра асобу акадэміка М. Лазарука, яго навукова-творчую дзейнасць. Тэма даклада доктара філалагічных навук, загадчыка аддзела тэорыі літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі Міхася Тычыны гучала так: "Апошняе слова В. Каваленкі пра М. Лазарука". Акадэмік Віктар Каваленка быў адным з першых, хто горача падтрымаў ідэю правядзення гэтых чытанняў, рыхтаваўся выступіць на іх.**

**З дакладамі пра мадэрнізацыю адукацыі ў 12-гадовай школе выступілі доктар філалагічных навук Алесь Бельскі, намеснікі дырэктара НІА па навуковай рабоце, кандыдаты педагагічных навук Алег Лісейчыкаў і Мікалай Яленскі.**

**У паведамленнях вядомых навукоўцаў, прафесараў Вячаслава Рагойшы, Аляксея Майсейчыка, Мікалая Мішчанчука, Веры Ляшук была звернута ўвага на навукова-метадычны аспект дзейнасці М. Лазарука як ініцыятара рэфармавання літаратурнай адукацыі ў рэспубліцы. Шмат цёплых і ўдзячных слоў прагучала з вуснаў вучняў і паплечнікаў акадэміка М. Лазарука, кандыдатаў навук Тамары Мушынскай, Лявона Баршчэўскага, Вольгі Русілкі, Іны Слесаравай, Таццяны Кабржыцкай, Паліны Лявонавай, Міхася Кенькі, Яраслава Клімуця і інш. З навуковымі праблемнымі паведамленнямі выступілі маладыя навукоўцы Алена Барадзіна, Сяргей Гаранін, Любоў Ляўшун, Сяргей Ханеня, Вольга Праскаловіч, Таццяна Фіцнер, Галіна Друк і інш.**

**Цікавымі былі ўспаміны жонкі вучонага і пісьменніка Тамары Лазарук і ягонай сястры Тамары Клепікавай, якія расказалі пра складаны жыццёвы лёс чалавека, з якім яны разам прайшлі па жыцці.**

**Навуковыя чытанні ў будучым стануць традыцыйнымі, бо патрэба ў распрацоўцы тэорыі і практыкі выкладання роднай літаратуры відавочная.**

**Таццяна МАРОЗ, супрацоўнік лабараторыі навучання беларускай літаратуры Нацыянальнага інстытута адукацыі**

## Песні пачатку XXI стагоддзя

**Культавы гурт "NRM" хутка адзначыць 15-годдзе існавання "Незалежнай Рэспублікі Мроя". Да гэтай знамянальнай для музыкаў і аматараў творчасці "Мроі-NRM" падзеі музыкі рыхтуюцца па ўсіх законах шоу-бізнесу.**

**Адным з першых крокаў у ланцугу імпрэзаў, звязаных з юбілеем і падрыхтоўкай да выхаду чарговага альбома гурта, можна лічыць ладжанне БМА-груп акустычнага канцэрта "NRM".**

**Увогуле ж, акустычныя канцэрты гуртоў — з'ява даволі новая, але яна прыжылася ў сусветнай практыцы. Заўсёды цікава пачуць тое, як гучаць куміры, калі граюць на "акустыцы" без электронных "прымочак", параўнаць іх выканаўчую форму, больш пільна ўслухацца ў новыя кампазіцыі музыкаў...**

**Менавіта гэтыя мэты і ставілі перад сабой прадзюсеры БМА-груп, калі яны ўзяліся за арганізацыю акустычнага канцэрта, які разглядаецца як падрыхтоўка да будучага "наступу" "NRM".**

**Канцэрт адбудзецца 5 лістапада ў Доме культуры МТЗ (вул. Даўгаброцкая, 24), а 19 гадзіне.**

**А. МІТРАНОВІЧ**

*"ЛіМ"-ФОТА*

***Космас Леаніда Шчамялёва***



*Фота: Алы ТКАЧЭНКІ*

ВІНШУЕМ!

# ...Прыпісаў сваё сэрца ў Любані

## ІВАНУ МУРАВЕЙКУ — 80

Рэдка знойдзеш пісьменніка, які б не прызнаваўся у тым, як самотліва яму ў тлумным горадзе, а душа яго не прымае пастаяннага тлуму, сэрца нязменна імкнецца туды, дзе прайшло маленства. На жаль, у большасці падобная настальгія абмяжоўваецца толькі разважаннямі і нешта не асабліва знаходзяцца ахвочых зноў вярнуцца туды, дзе сена пахне не на асфальце, а ў пракосах. А вось тыя, хто і сапраўды любіць быць бліжэй да прыроды, не рваліся ў вялікія гарады. Да іх адносіцца і Іван Муравейка, які ў аўтабіяграфіі "Любоў і боль", напісанай яшчэ ў 1964 годзе, прызнаваўся: "Відаць, я на ўсё жыццё прыпісаў сваё сэрца ў Любані". З таго часу, як вядома, мінулася шмат зімаў і вёснаў, але Іван Андрэевіч не здрадзіў сваёй прывязанасці да мясцін, дзе нарадзіўся.

А родам ён з вёскі Таль, што на Любаншчыне. Змалку праявіў цікавасць да творчасці. Калі вучыўся ў мясцовай сямігодцы, па яго прызнанні, "ніядрэнна маляваў, удзельнічаў у раённых аглядах творчасці юных мастакоў". З аўтабіяграфіі даведваемся і аб тым, што І. Муравейка "маляваў... пейзажы і партрэты. Нават самога сябе не збаяўся аднойчы намаляваць". Як бацькам, і няблага атрымалася: "Усе казалі, што... "выліты". Уражаныя майстэрствам свайго земляка, не заўважалі таго, пра што ведаў ён сам: "А я толькі ўсміхаўся: няўжо ніхто не бачыць, што нос на партрэце без гарбінкі?"

Любоў да малявання прывяла І. Муравейку пасля сямігодкі ў Віцебск, у мастацкі тэхнікум. Але на ўступных экзаменах не пашанцавала і давялося вяртацца дамоў. Вучобу прадоўжыў у Любанскай сярэдняй школе. Вучнёўскія гады — гэта і жаданне пісаць: "Першымі ўласнымі "творамі" былі маленькія нататкі аб школьным жыцці, якія рэгулярна пасылаў у газету "Піянер Беларусі" і якія часцяком друкаваліся за подпісам "Дзяткор Янка Муравейка". А потым, у 1936 годзе, калі ўжо хадзіў у сёмы клас, на чацвёртай старонцы "Піянера Беларусі" аднойчы ўбачыў свой верш. Называўся ён "Зіма":

***Мілъёны сняжынак***
***На зямлю сплылі, —***
***Пакрылі даліны,***
***Лугі і палі.***
***Пакрылі азёры***
***І пушчы пакрылі,***
***Раўніны і горы***
***Усё пабялілі***

Нават з агледзін сённяшняга дня відавочна, што напісана прыстойна, а як для юнага ўзросту — тым больш. Адчуваецца ўменне стварыць адлаведны малюнак. І адбылося гэта не толькі таму, што І. Муравейка меў задаткі таленту. Яму пашчасціла, будучы вучнем, напаткаць чалавека, які не застаўся безуважным да першых спроб пяра свайго выхаванца: "А прышчапіў любоў да роднага слова, густ да літаратуры наш настаўнік Мікалай Паўлавіч Лобан. Толькі шмат пазней — у 1954 годзе, калі на вочы трапіла яго аповесць "Іркуцянка", я зразумеў, чаму менавіта ён так добра ўмеў сеяць у дзіцячых сэрцах зярняткі любві да прыгожага, мастацкага". Іван Андрэевіч сведчыць: "Мне ўвогуле пашанцавала на сустрэчы з добрымі і таленавітымі літаратарамі".

Але сустрэчы гэтыя адбыліся пазней. Скончыўшы ў 1939 годзе Любанскую сярэднюю школу, І. Муравейка паступіў у Мінскі камуністычны інстытут журналістыкі імя Кірава. Праўда, вучыцца доўга не давялося. Праз тры месяцы прызвалі ў армію. І падумаць не мог, што не здыме шыняля аж но сем з паловай гадоў: звольніўся ў запас толькі ў маі 1947 года.

Вярнуўся да мірнага жыцця, перажыўшы страшную вайну, атрымаўшы баявое хрышчэнне ў ліпені 1941 года, "недзе на паўдарозе між Смаленскам і Віцебскам". А пад Ельняй быў цяжка паранены. Лячыўся ў ваенным шпіталі ў Алтайскім краі, скончыў ваеннае вучылішча: "І вось я, малодшы лейтэнант-мінамётчык, зноў на фронце... Камандаваў мінамётным узводам, некаторы час быў камсоргам палка, а з лістапада 1944 года — літсупрацоўнікам дывізійнай газеты, потым — карэспандэнтам армейскай газеты".

Не толькі газетныя матэрыялы пісаў, а і вершы. Зразумела, па-руску. Аднак і сам пра іх быў не высокай думкі, хоць падчас наведвання адной са стралковых рот — "на віслен-скім плацдарме было гэта", даведаўся ад аднаго немаладога салдата, што той, пасылаючы ліст малалетняму сыну, перапісаў і верш "Каска". Па памяці ўзнавіў. І падумаць не мог той салдат, што размаўляе з самім аўтарам. Даведацца пра такую ўвагу да сваёй творчасці І. Муравейку, безумоўна, было прыемна.

Аднак сапраўднае прызванне знайшоў у дзіцячай літаратуры, хоць і выдаў у 1955 годзе "дарослую" кнігу "Песня над палямі", у якой змешчана з дзесятак вершаў для дзяцей. А прыйшоў у дзіцячую літаратуру ў чымсьці і выпадкова. У рэшце рэшт так сталася і з некаторымі іншымі пісьменнікамі, якіх да працы ў гэтым кірунку падштурхнулі ўласныя дзеці.

Слова самому Івану Андрэевічу:

"Мая маленькая шасцігадовая дачушка Света.., як і ўсе дзеці яе ўзросту, любіла "нешта" крэмзаць алоўкамі. Паказала неяк мне шматок паперы і кажа:

— Во які наш дом высокі, ледзь хапіла мне ліста.

Мяне як маланкай паласнула: два зусім гатовыя радкі для верша. І якія радкі! Па-дзіцячы наіўныя і вобразныя. Я выхапіў з яе рук лісток і напісаў на ім: "Наш дом".

Так і з'явіўся верш І. Муравейкі для дзяцей:

***Як наш дом я малявала,***
***Дык алоўкі ўсе спісала.***
***Паглядзіце — вокнаў колькі,***
***Іх, напэўна, болей ста.***
***Ён у нас такі высокі —***
***Ледзь хапіла мне ліста.***

Нечакана прыйшло сапраўднае творчае ўзрушэнне: "назаўтра напісаў другі дзіцячы верш — "Начное сонейка", потым трэці — "Дзе растуць абаранкі". Пакрысе і на першую кніжку для маленькіх твораў сабралася: пад назвай "Ручаінкі" яна выйшла ў 1956 годзе. За ёй з'явілася наступная — "Вось якія мы" (1958). Так прыйшоў у беларускую дзіцячую літаратуру яшчэ адзін цікавы паэт.

Нават па назвах кніг І. Муравейкі добра відаць, наколькі аўтар іх жыве светам маленства. Акрамя згаданых, гэта — "Пра работу і ляноту", "Дружная сямейка",



"Сняжынкі-смяшынкі", "Сем колераў вясёлкі", "Мы таксама падрасцём", "Няхай сонца не заходзіць", "Я прыдумаў казку" і іншыя. У творах І. Муравейкі настолькі ўсё шчыра, непасрэдна, што ажываюць рэаліі, маленькім блізкія і знаёмыя. Ён пад дзяцей не падстройваецца, а гаворыць з імі, як роўны з роўнымі. А ідзе ўсё гэта ад добрага ведання жыцця, вялікай назіральнасці. Не ў апошнюю чаргу таму, што І. Муравейка ніколі не належаў да кабінетных літаратараў. Працуючы ў рэдакцыі любанскай раённай газеты "Будаўнік камунізму" (давялося быць і адказным сакратаром, і рэдактарам, і намеснікам рэдактара), ён шмат ездзіў па Любаншчыне. Вядома, даводзілася нямала пісаць і таго, што ў мастацкія творы не клалася, але гэта таксама была школа жыцця, якая, няхай і апасродкавана, шмат у чым дапамагала і творчаму станаўленню як дзіцячага пісьменніка. Нямала дала і вучоба ў 1962—1964 гадах на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве.

Асобнае месца ў творчай біяграфіі І. Муравейкі займае кніга "Прынёс з вайны". Яна адметная ўжо тым, што пад адной вокладкай паяднаны паэзія і проза. Але пераважаюць франтавыя запісы, апавяданні. Задуму яе Іван Андрэевіч вызначыў як аповед пра "сваю" вайну. А гэта вайна, убачаная з пярэдняга краю, уласна перажытая і выпакутаваная. Падзеі, якія ўзнаўляе І. Муравейка, уражлівыя і запамінальныя. Людзі, пра якіх расказвае, вартыя таго, каб пра іх больш ведаць і памятаць. Выхаваўчае значэнне гэтых твораў вельмі вялікае.

"Куды ні пойдзеш — цуды знойдзеш" — такую назву даў пісьменнік сваёй новай кнізе, якая пакуль не пабачыла свет. У ёй нямала досціпу. Яна ў меру дыдактычная, аб чым, у прыватнасці, сведчыць раздзел "Унукам — навука". Але важкую нагрузку нясуць і аповеды і казкі дзеда Пятра Перапечкі, з якім юныя чытачы паспелі пазнаёміцца ў кнізе "Прынёс з вайны".

Ёсць выслоўе: дзіцячымі пісьменнікамі не становяцца, імі нараджаюцца. Ва ўсякім разе, калі акідваеш вялікі творчы шлях, пройдзены І. Муравейкам, з гэтым нельга не пагадзіцца. Лепшае з напісанага ім заняло сваё дастойнае месца ў сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Давялося свінні на неба глянуць

## ВОБРАЗ КАЛІНОЎСКАГА НА СТАРОНКАХ ДЫЛОГІІ У. КРАСТОЎСКАГА "КРЫВАВЫ ПУФ"

*Праўда маўчыць, калі грошы гавораць*

Пасля задушэння паўстання 1863 года з'явілася нямала напаўсаматужных "даследаванняў", у якіх з расійскіх шавіністычных пазіцый "разъяснялась" сутнасць так званай польскай справы на Беларусі і Літве. Сярод іх вылучаюцца "Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России" В. Ратча, выдадзеныя ў 2 тамах у Вільні ў 1867—68 гадах. Царскі ўрад не шкадаваў асігнаванняў на падобныя опусы, бо ў 1869 годзе "праца" Ратча ў перакладзе на французскую мову зноў пабачыла свет, але цяпер ужо ў Парыжы. Аднак кніга сустрэла не толькі знішчальную крытыку за мяжою (вельмі востра пра яе выказаўся А. Герцэн), але і з-за сваёй тэндэнцыйнасці не карысталася папулярнасцю ў Расіі. Генадзь Кісялёў, канстатаваўшы, што "грубасць і вульгарнасць твораў Ратча разумелі нават яго прыхільнікі", у сувязі з гэтым слушна адзначыў, што "абмежаваны аўтар "Сведений" не мог павесці чытача за сабой".

Верагодна, негатыўная рэакцыя грамадскасці і падштурхнула тагачасных афіцыйных ідэолагаў зноў выкарыстаць праверaны і самы эфектыўны ў той час сродак уздзеяння на масавую свядомасць — белетрыстыку. Менавіта на бруднай хвалі "выкрыцця" нацыянальна-вызваленчага руху ў друку з'явілася хроніка Усевалада Крастоўскага "Крывавы пуф", якая складаецца з двух раманаў — "Панургаў статак" (1869) і "Дзве сілы" (1874). У апошні час імя гэтага пісьменніка набыло вядомасць дзякуючы тэлевізійнаму серыялу "Пецярбургскія тайны", даволі ўдалай экранізацыі яго рамана "Пецярбургскія трушчобы" (1867). У многім абапіраючыся на "Сведения" Ратча і выкарыстоўваючы прыёмы авантурна-бульварнага апавядання, У. Крастоўскі стварыў дылогію-пасквіль "Крывавы пуф", якая цалкам укладаецца ў каноны пераважна бездапаможных у мастацкіх адносінах антынігілістычных твораў 60—70-х гадоў XIX стагоддзя. В. Каваленка ў кнізе "Міфапаэтычныя матывы ў беларускай літаратуры" даў сціслую характарыстыку дылогіі з пункту гледжання рэакцыйнай дэміфалагізацыі. Па яго меркаванні, спроба разбурыць легендарны арэол вакол паўстання 1863 года і прынізіць вобраз Каліноўскага была няўдала выкананым палітычным "заказам". Даследчык лічыць, што У. Крастоўскі "дробязнае і прыватнае выдае за галоўнае, за самае сэнсавае і тыповае" і, надаўшы свайму твору вонкава дакументальныя рысы, "часткай праўды аўтар як бы падмяняе ўсю праўду".

Зрэшты, Крастоўскі не быў арыгінальным ні ў выбары назвы (яго "пуф" — нешта такое ж аморфнае, бязважкае і ілюзорнае, як клюшнікаўская "смуга" ці тургенеўскі "дым"), ні ў трактоўках вядомых падзей (усе расійскія беды ад паланізму), ні ў асаблівасцях канфліктаў ці вобразнай палітры (па сутнасці, няма галоўнага героя, а побач з мноствам эпізадычных персажаў ёсць герой і антыгерой). Услед за В. Клюшнікавым, аўтарам гучнага ў свой час рамана "Смуга" (1864), і М. Лясковым (раман "Нікуды" (1864) ён называў прычынаю антыўрадавага, у тым ліку і ўласна рускага, вызваленчага руху ў Расіі інтрыгі польскіх "псеўдапатрыётаў". Іх эмісары і сабраная імі ў бязвольны статак ачмураная радыкальнымі ідэямі руская моладзь малююцца У.Крастоўскім выкрывальнымі фарбамі. Пераважна гэта людзі нікчэмныя, беспрынцыпныя, амаральныя і недалёкія, хцівыя і сквапныя, але абавязкова пыхлівыя і празмерна амбіцыйныя. Намер аўтара — дыскрэдытаваць рэвалюцыйны рух. Для дасягнення мэты ён не грэбуе ніякімі сродкамі. І галоўныя сярод іх — хлусня і паклёп, якія прыхоўваюцца за шырму дакументалізму і ўяўнай бесстароннасці. На першы погляд, Крастоўскі нібыта сапраўды піша хроніку (а гэта павінна было азначаць "праўду"), на старонках якой дзейнічаюць або згадваюцца дзесяткі рэальных асобаў, у тым ліку імператар Аляксандр II, Кастусь Каліноўскі, граф Мураўёў, пісьменнікі Міцкевіч, Герцэн, Тургенеў, Пісемскі. Але пасквільны флёр, паўсюднае знарочыстае імкненне аўтара абразіць, зняважыць тых сваіх герояў, якія з'яўляюцца яго палітычнымі апанентамі (што назіраецца нават на дробязным побытавым узроўні), наяўнасць бульварных пікантных сцэнаў і адмыслова выкарыстаных самавыкрывальных "прыёмаў" — усё гэта даволі хутка дапамагае зразумець, "хто ёсць хто".

У такім выпадку можна задаць заканамерныя пытанні: "А ці варта выцягваць з нябыту гэты адыёзны твор? Ці ёсць у гэтым патрэба?" Думаецца, ёсць. Па-першае, пры ўсёй сваёй сумнеўнай мастацкай вартасці дылогія Крастоўскага з'яўляецца першым літаратурным творам, у якім намаляваны, хай сабе і дэфармаваны, вобраз Каліноўскага. Па-другое, у "Крывавым пуфе" спецыфічным чынам адлюстраваны значныя падзеі айчыннай гісторыі, многія беларускія рэаліі XIX стагоддзя (нават прыводзіцца фрагмент "Гутаркі двух суседаў"), акрэслены стаўленні расійскіх уладаў да краю, і таму гэты твор меў пэўнае дачыненне да літаратурнага жыцця на Беларусі. І па-трэцяе, як калісь, так, на жаль, і сёння часам даводзіцца чуць меркаванне, што Кастусь Каліноўскі ніякі не нацыянальны герой (глядзі артыкул П. Каснерыка "Нет — Константину Калиновскому. Да — Иосифу Калиновскому!" у газеце "Здравый смысл" за ліпень 2000 года), а ўсяго толькі амбіцыйны фанатык, авантурыст, псіхічна неўраўнаважаны чалавек і, наогул, "крыважэрная пачвара". Дык вось, нават празмерна ангажыраваны Крастоўскі змог толькі "запляміць", але не здолеў, як ні стараўся, прынізіць Каліноўскага і мусіў прызнаць, што гэта быў незвычайна мужны і самаахвярны чалавек, які цвёрда верыў у больш светлую і незалежную ад Расіі і Польшчы будучыню сваёй радзімы.

Ужо на першых старонках рамана Крастоўскага "Панургаў статак" мы сустракаемся з героем, які мае каларытнае беларускае імя і прозвішча — Васіль Світка. Постаць яго ахутана таямнічасцю. Аўтар не гаворыць чытачам, чым канкрэтна займаецца гэты чалавек, жывучы ў сталіцы імперыі або нібыта бязмэтна блукаючы па правінцыйных гарадах і вёсках расійскай глыбінкі. Хітрым лісам выглядае гэты персанаж у аўтарскай абмалёўцы, ён змяняе аблічча, увесь час дастасоўваецца да навакольнага асяроддзя, каб, як хамелеон, не быць асабліва заўважным, але ў той жа час знайсці паразуменне з самымі рознымі людзьмі — гімназістамі, афіцэрамі, дваранамі, чыноўнікамі і нават сялянамі. Рускіх людзей Васіль Світка любымі спосабамі імкнецца прыцягнуць да сумеснай барацьбы пад лозунгам "За нашу і вашу волю", бо, як нарэшце высвятляецца, ён дзейсны эмісар польскага цэнтра нацыянальна-вызваленчага руху. Гэта менавіта ён, Світка, як "мышаня ў пастку", злавіў слаўнабубенскага гімназіста Шышкіна і ўцягнуў яго ў нелегальную арганізацыю, для папаўнення членаў якой ён выкарыстоўвае вельмі спецыфічныя сродкі. Так, слаўнабубенскі дваранін, малады і экзальтаваны студэнт Канстанцін Хвалынцаў становіцца членам арганізацыі дзякуючы каханню і сваім юначым, у многім максімалісцкім, парыванням. Васіль Світка дзейнічае не адзін. Яго хаўрусніцай выступае амаральная графіня Цэзарына Маржэцкая, спакусніца, якая выкарыстоўвае свае жаночыя чары і такім чынам далучае Хвалынцава да разгалінаванай сеткі антыўрадавых сіл. Менавіта пад уплывам злачыннага дуэта Світка—Маржэцкая даверлівы Хвалынцаў дае згоду змагацца за польскую справу. Амаль на ўсе далейшыя падзеі, якія адбываюцца ў Слаўнабубенску, Пецярбургу, а затым у Варшаве, Вільні, беларускіх правінцыйных гарадах і мястэчках, мы будзем глядзець праз прызму светапоглядных пошукаў Хвалынцава. І як бы спецыфічным фонам у фабуле рамана будзе актыўная антыўрадавая дзейнасць Світкі. Гэтыя персанажы, бадай, і выступаюць у якасці героя і антыгероя рамана.

Пецярбургскае грамадства, намаляванае ў рамане, выразна палярызаванае. З аднаго боку, гэта польскія патрыёты: уладальнік друкарні Колтышка, прататыпам для якога, напэўна, паслужыў Ясафат Агрызка, афіцэры Лясніцкі, Бейгуш і Чарыкоўскі, рускія нігілісты Палаяраў, Сусанна Стэкльштром, Лідзенька Затц, Благапрэабрэтаў і многія іншыя. З другога боку, станоўчыя героі: настаўнік Усцінаў, дваранка Таццяна Страшнёва, імператар Аляксандр II, які падчас страшнага пецярбургскага пажару выявіў сваё высакародства, мужнасць і нарадалюбства (сапраўдныя, а не галаслоўныя, як рэвалюцыянераў). У рамане "Панургаў статак" Васіль Світка выступае ў ролі пастуха, які збірае ў статак маральна няўстойлівых маладых рускіх людзей, высокія памкненні якіх збіраецца выкарыстаць у барацьбе за аднаўленне Польшчы ў межах 1772 года. Нават Хвалынцаў, з якім Світка нібыта шчыра пасябраваў, выступае напачатку ў якасці "нового козла (...) многочисленного "Панургова стада", как специально прозвали они (Світка і яго пецярбургскія паплечнікі Колтышка і Лясніцкі) Константина". Увогуле рускія нігілісты паказаны толькі як пасіўныя выканаўцы чужой волі. Было б несправядліва пакінуць па-за ўвагай аднаго нябачнага героя рамана — самога аўтара. Ён, нібы не давяраючы свайму чытачу і сумняваючыся ў яго здольнасцях зразумець складаныя пуцявіны палітычных інтрыг, нязмушана растлумачвае яму, на чыім баку праўда, што на самай справе робіцца ў Расійскай імперыі і "яе" Заходніх губернях. *"Мы еще вменяли себе в гражданский долг делать им (палякам) грациозные книксены, приправленные сентиментальными улыбками. Мы слыхали только, что поляки хотят свободы — и этого словца было уже достаточно, чтобы мы, во имя либерализма, позволили карнать себя по Днепр, от моря до моря. Они говорили нам, что «это, мол, все наше» — мы кланялись и верили "*, — канстатуе Крастоўскі. Яго аўтарскае "мы", безумоўна, павінна было азначаць ні больш ні менш як "усе сумленныя рускія людзі".

Другая частка дылогіі "Дзве сілы" мае падзагаловак "Хроніка пра новы смутны час дзяржавы Расійскай". У гэтай назве аўтар імкнуўся схаваць глыбінны сэнс. У яго трактоўцы тагачасная Расійская імперыя падзялілася на два антаганістычныя лагеры (прычым на самых розных узроўнях): бацькі і дзеці ("традыцыяналісты" і "нігілісты"), уласна Расія і Польшча, "белыя" і "чырвоныя" ў нацыянальна-вызваленчым руху, рэвалюцыянеры і ўрад, амаральныя тыпы і носьбіты высакародных ідэалаў.

Падзеі ў рамане пераносяцца ў так званыя Заходнія губерні (вёскі, правінцыйныя мястэчкі, гарады). Знаёмыя нам героі Світка і Хвалынцаў наведваюць шляхціца пана Катырлу, уладальніка маёнтка на Гродзеншчыне. Не шкадуючы чорных фарбаў, аўтар малюе ўбоства, інтэлектуальны прымітывізм і нікчэмнасць гаспадара і на гэтым прыкладзе імкнецца паказаць абагульнены партрэт беларускай шляхты, побытавыя звычкі якой нібыта выкрываюць яе поўную маральную дэградацыю. Досыць прывесці апісанне адмысловага інтэр'ера: *"Стол наполовину только был покрыт грязною-распрегрязною скатертью, которая уже черт знает сколько времени была в употреблении, так что пестрела со всех концов разными масляными, винными, суповыми и соусными пятнами. За столом прислуживали: какая-то задрипанная, зашленданная и грязная-распрегрязная девка, рваный и заплатанный казачёк, босиком, и лакей в фамильном фраке..."* "Грязная-распрегрязная девка" і "лакей в фамільном фраке" — да гэтага і зводзіўся мастацкі арсенал Крастоўскага пры адлюстраванні краёвых рэалій.

Затым аўтар накіроўвае герояў у губернскую Гародню. Сустракаючыся са сваёй нявестай паннай Вандаю, Світка змушаны пакінуць Хвалынцава аднаго і даць яму магчымасць самастойна рабіць вывады. Якім нечаканым адкрыццём для Хвалынцава стала тое, што ўвесь мясцовы лад жыцця скіраваны на самай справе не супраць расійскага ўрада. Герой патэтычна канстатуе: "Враг вам — русский народ, русский смысл". Пасля чаго антыгерой (Світка) раскрывае сваё сапраўднае аблічча. Ён прапаноўвае Хвалынцаву падзяліць з ім "одно из двух: или громкую славу и счастливую будущность при осуществлении великой идеи, или же за ту же самую великую идею двенадцать штуцерных пуль, а может и петлю гицеля". Абражаны герой адмаўляецца, ён напоўніцу адчуў, што рускай трыядзе — самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць— у заходніх губернях, цалкам варожых па духу, процістаіць свая трыяда — ілжыва тлумачанае рэспубліканства, каталіцызм, шляхецтва. Такім чынам, няма сумненняў, што Васіль Світка выступае ў рамане як усяго толькі амбіцыйны авантурнік і прайдзісвет.

Але Хвалынцаў яшчэ да канца не зразумеў, у якую па-майстэрску сплеценую павуціну трапіў. Вырвацца з яе надзіва складана. Аўтар дае зразумець, што Світка зноў выкарыстоўвае казырную карту — графіню Цэзарыну. І пазбаўлены ўласнай волі, закаханы Хвалынцаў зноў пачынае выконваць чужую волю. Але дзякуючы збегу выпадковых акалічнасцей, Хвалынцаў становіцца сведкам любоўнай сувязі Цэзарыны з маладым і прыгожым польскім шляхціцам. Герой зразумеў, што ён быў проста марыянеткай у яе руках. Пасля гэтага малады чалавек наважыўся ўзняць бунт. Але гэта аказалася не проста. У варшаўскім камітэце яго ўчынак быў ацэнены як здрада, адбыўся трыбунал. Прысуд — смерць. Антыгерой як член гэтага трыбуналу, хаця па-чалавечы ўжо і прывязаўся да героя, ахвярує сваім прыяцелем і таксама падтрымлівае суровае рашэнне. Вось яна, пачварная бязлітаснасць і няўмольнасць Світкі, яго рэальнае чалавечае аблічча.

У далейшым аўтар разводзіць лёсы маладых людзей. Хвалынцаў за кароткі час прайшоў вялікую жыццёвую школу. Пасля няўдалай спробы замаху на яго жыццё ён трапляе ў шпіталь, адкуль піша пакаяльны ліст дыктатару краю Мураўёву. Затым па ініцыятыве генерал-губернатара ён плённа працуе, вырашаючы набалелыя сацыяльныя пытанні ў так званым Паўночна-Заходнім краі. У складзе адной з камісій Хвалынцаў зноў сустракаецца з панам Катырлам і яго сялянамі. Удзячныя сяляне сваім "дзякуймо" нібы падводзяць вынік паўстанню на Беларусі: "Та и вам. паночки, дзякуймо, што вы зрабили тое вашо повстанье. Бо каб вы его не зрабили, тоб нам и по веку такого ужитку та щастя не бачици".

Не адна старонка рамана "Дзве сілы" прысвечана непасрэдна падзеям 1863—1864 гадоў. Многае ў аўтарскіх апісаннях узята з дакументальных крыніц (газет, мемуараў, тэндэнцыйных даследаванняў), але не менш і з крыніц іншага кшталту (чутак, плётак, прапагандысцкіх паклёпаў). Рухавіком паўстання ў рамане выступае чароўная палова насельніцтва. Краёвыя жанчыны малююцца як распусніцы, якія выпраўляюць мужчын на барацьбу коштам сваёй жаночай годнасці і цнатлівасці. "А сколько браков было заключено под непременным условием, чтобы молодой муж на следующее же утро отправился "до лясу!" — выкрывальна і пафасна падкрэслівае аўтар. І наадварот, ён з захапленнем малюе "велічную" постаць графа Мураўёва, яго дальнабачныя крокі па "водворению порядка" на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Мураўёў на старонках рамана выступае яе абаронца прыгнечанага сялянства, якое лічыць за абавязак "ограждать... от покушений мятежников". Прыкладаў такой кантрастнай абмалёўкі можна прывесці багата. Але вернемся да нашых герояў.

Апошні раз "канструктыўны працаўнік", мураўёўскі чыноўнік Хвалынцаў сустракае Світку ў Вільні ў пачатку 1864 г., калі Васіля вязуць на пакаранне. Спакойным і ўпэўненым, з высока ўзнятай галавой, бачыць яго Хвалынцаў і толькі тады даведваецца (а разам з ім і чытачы), што Світка — гэта і ёсць той самы "диктатор Литвы — Константин Калиновский". *"Мог ли он думать, — разважае герой, — что этот невзрачный скромный и серенький на вид человечек будет играть такую роль в польском восстании!.. Но теперь ему ясно вспомнилось, как этот самый человечек, два года назад, в скверном номере жидовской гостиницы в Гродно, экзальтированно предлагал ему братски разделить с собой либо громкую славу и счастливую будущность при осуществлении великой идеи, либо за ту же самую идею веревку гицеля на эшафоте. Он знал заранее куда идет и что его ожидает... Не потому ли и умер он с такой твердостью и спокойствием, как могут умирать только глубоко убежденные люди..."* Міжволі прыгадваецца грубаватая беларуская прыказка: "Давялося свінні на неба глянуць".Стаўленне Крастоўскага да "невзрачного серенького человечка" цалкам адмоўнае. Але, нягледзячы на гэта, аўтару цяжка было схаваць, нават прыкрываючыся дакументальнымі фактамі, велічнасць постаці Каліноўскага. З-за апранутай на яго маскі крывадушніка, перад чытачом, па-за воляй аўтара, паўстае вобраз шчырага і палымянага чалавека, адданага сваёй справе. Крастоўскі надзяляе яго празмернымі дыктатарскімі амбіцыямі, але не можа схаваць, што яго антыгерой хоча быць дыктатарам невядомай, незалежнай і непрызнанай краіны. *"Да неужто такой бестолковой башке, как Варшава, можно вверять будущую судьбу Литвы? Да будь я проклят, — дэкларуе Світка, — если когда-нибудь соглашусь на это! Как равный с равным, как свободный с свободным, это, пожалуй, извольте! На основании вольной федерации, но не иначе! А позволить тут им у нас хозяйничать и распоряжаться — да никогда! Литва должна быть вполне самостоятельна и будет! Она, слава Богу, достаточно еще сильна для того, чтобы быть вполне независимою и от Москвы, и от Варшавы"*.

Світка-Каліноўскі, для якога інтарэсы Айчыны вышэй за асабістыя, захапляе Хвалынцава ўпэўненасцю ў святасць сваёй справы, любоўю да Радзімы. У канцы рамана Крастоўскі ўслед за Ратчам прыводзіць наступную легенду пра Кастуся Каліноўскага. *"Последний из могикан, он представлял собою последнее знамя мятежа. Во время его кипучей деятельности и даже после ареста, между низменным виленским населением, равно как и на Жмуди, долгое время бродили темные слухи, что где-то, мол, в Вильне проживает "Круль Литвы", который хочет "адхилиться от поляков" и завести "свое власне крулевство"*.

Магутныя і легендарныя постаці заўсёды прыцягваюць да сябе ўвагу як прыхільнікаў, так і ворагаў. І Каліноўскі не з'яўляецца выключэннем. Паказальна тое, што пры ўсёй сваёй прадузятасці, нават ворагі не ў стане адмовіць ні велічнасць постаці Каліноўскага, ні выключнасць зробленага ім. У гэтым мы можам упэўніцца на прыкладзе дылогіі Усевалада Крастоўскага "Крывавы пуф", якую, дарэчы, нядаўна ў Маскве перавыдалі на высокім паліграфічным узроўні. Цяпер яе без праблем можна набыць. У інтэрнэтаўскай анатацыі сцвярджаецца, што "автор воссоздает один из самых малоизвестных и крайне искажённых, оболганных в учебниках истории периодов в жизни нашего Отечества после крестьянского освобождения в 1861 году, проницательно вскрывает тайные причины объединённых действий самых разных сил, направленных на разрушение Российской империи». Значыць, у кнізе можна даведацца праўду і пра паўстанне 1863—1864 гадоў. Мяркуем, што падобнае выданне наўрад ці можа з'яўляцца чыста камерцыйным прадуктам, таму пра тое, "каму гэта трэба?", няхай падумаюць праніклівыя чытачы.

**Ігар ЗАПРУДСКІ,**
**Аксана КУЗЬМЯНОК**

## Сюды запрашаюць сяброў...

**У Доме дружбы ў Мінску адбылася 2-я беларуска-нямецкая сустрэча, якая была арганізавана Цэнтрам нямецкай культуры "Відэргебурт". Нездарма таварыства, якое аб'ядноўвае ў першую чаргу людзей з нямецкімі "каранямі" — беларускіх немцаў, а таксама тых, хто цікавіцца культурай і гісторыяй Германіі, — абрала сабе менавіта такую назву (у перакладзе з нямецкай мовы — "Адраджэнне"). "Відэргебурт" аднаўляе і захоўвае нацыянальныя нямецкія традыцыі. Тут кожны мае магчымасць размаўляць на нямецкай мове, разам адзначаць святы, спяваць народныя песні.**

**Сёлетняя сустрэча ў Доме дружбы была адметная прыездам... Кацярыны II (адкрыю сакрэт: тэатральная лялька створана рукамі мастачак Людмілы Скітовіч і Таццяны Дрозд і агучана Нінай Лорэш). Сардэчным прывітаннем да сваіх "падданых" руская імператрыца нямецкага паходжання распачала канцэрт, на якім гучалі народныя нямецкія песні, музыка нямецкіх класікаў, нямецкая паэзія. У канцэрце прынялі ўдзел хор Цэнтра "Відэргебурт", вакальны ансамбль "Зонэнштраль" (сонечны прамень), а таксама сябры таварыства і госці. Пасля канцэрта агульным галасаваннем быў вызначаны прыз "сімпатыі гледачоў", які атрымала вучаніца Мінскай гімназіі № 56 Алена Іванова. Таксама прызамі, кветкамі і шчырымі апладысментамі гледачоў былі адзначаны музычныя выступленні Глеба Іова, Міхаіла Слізкага, дуэт Тамары і Таццяны Казаковых, вакальнае трыо "Лёрэляй" з Акадэміі музыкі.**

**Сцены залы Дома дружбы ўпрыгожыла выстаўка жывапісу, акварэлі, графікі, скульптуры — таксама не зусім звычайная. У экспазіцыі ўдзельнічалі творы невялікага, але не выпадковага кола беларускіх мастакоў: Ігара Засімовіча, Вячаслава Паўлаўца, Яўгена Шунейкі, Таццяны Хвайніцкай, Сяргея Пісарэнкі, Алены Шлегель. У творчасці кожнага з іх германская тэма займае пэўнае месца, многія не раз наведвалі Германію, ладзілі там свае выстаўкі. Яны з задавальненнем пагадзіліся прыняць удзел у экспазіцыі і такім чынам падзяліцца з гледачамі сваімі ўражаннямі, думкамі, назіраннямі. Прыз сімпатыі гледачоў атрымаў Вячаслаў Паўлавец за цыкл акварэляў з краявідамі Германіі.**

**Па словах мастакоў-графікаў Сяргея Пісарэнкі і Таццяны Хвайніцкай, нямецкая мова, музыка і песні, што гучалі ў той вечар, у сваю чаргу, на кароткі час прымусілі іх зноў перажыць, аднавіць у памяці ўспаміны аб Германіі. Пасля канцэрта ўдзельнікі і госці мелі магчымасць за кубкам гарбаты ці кавы пазнаёміцца бліжэй, падзяліцца ўражаннямі і яшчэ доўга не разыходзіліся.**

**На маю думку, не толькі цікаўнасць да культуры Германіі аб'яднала ў гэты вечар удзельнікаў сустрэчы: дарослых і дзяцей, людзей розных пакаленняў, розных прафесій і нацыянальнасцей. Але тая атмасфера сяброўскай цеплыні, творчай імправізацыі, шчырай зацікаўленасці, якая аб'ядноўвае і сяброў Цэнтра нямецкай культуры "Відэргебурт".**

**Таццяна ШЫМАНСКАЯ**

## "Нефармальны Беларус" у Мінску

**Айчынная бардаўская песня — ні на што не падобны жанр сучаснай музычна-паэтычнай палітры Беларусі. З яе шэрагаў выйшлі такія знакамітыя паэты і выканаўцы, як Віктар Шалкевіч, Вальжына Цярэшчанка, Алесь Камоцкі, Зміцер Бартосік, Андрэй Мельнікаў...**

**Адным з пачынальнікаў гэтай плыні музычнай творчасці па праве лічыцца вядомы наваполацкі бард Сяржук Сокалаў-Воюш — лідэр нацыянальнага героіка-патрыятычнага накірунку ў беларускай бардаўскай песні.**

**На жаль, з усёй песеннай творчасці Сержука Сокалава-Воюша на касетах і дысках былі выдадзены толькі творы бардаўскага цыкла "Касіянерскія песні". А былі ж агульнабеларускія хіты, кшталту "Крупніка", "Альпініцкай песні", "Нефармальнага Беларуса", "З крыламі свінні" і, зразумела, песня на ўсе часы — "Беларусь мая" (музыка В. Навіцкага)...**

**І вось усе гэтыя і шмат іншых вядомых песень былі сабраныя БМА-груп пад адной вокладкай кампакт дыска з серыі "Музычны архіў". Дыск атрымаў назву, якая, на думку складальнікаў, найбольш поўна адпавядае творчасці барда — "Нефармальны Беларус".**

**Прэзентацыя музычнай навінкі з удзелам барда С. Сокалава-Воюша адбудзецца 1 лістапада 2001 года ў Рэспубліканскім палацы культуры Беларускага таварыства глухіх (Уральская, 3). Пачатак імпрэзы ў 19.00.**

**А. МІТРАНОВІЧ**

АРХІВЫ

# «Ахвярую на памяць...»

## АБ ДАРЧЫХ НАДПІСАХ ЯНКІ КУПАЛЫ

Купалаўскія аўтографы, пакінутыя на кнігах, фотаздымках, у альбомах і блакнотах, на рэжысёрскім экземпляры п'есы «Тутэйшыя», — вельмі цікавая старонка творчасці паэта і надзвычай важная для вывучэння яго жыцця і дзейнасці, для навуковага выдання яго твораў. Інстытут літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падрыхтаваў Поўны збор твораў Янкі Купалы. У апошнім, дзевятым томе гэтага выдання будзе прадстаўлена эпісталярная спадчына класіка, якая папоўнілася раздзелам «Дарчыя надпісы».

Дарэчы, тут варта адзначыць, што гэта першая спроба публікацыі дарчых надпісаў у купалаўскім зборы твораў асобным раздзелам. Дагэтуль у беларускай тэксталагічнай практыцы такой традыцыі не існавала. Выключэннем можа быць хіба толькі Збор твораў Івана Мележа, у дзесятым томе якога дарчыя надпісы пададзены ў «Анатаваным паказчыку імёнаў».

Праца, распачатая Інстытутам літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сумесна з Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы па зборы і вывучэнні купалаўскіх аўтографаў, не толькі ўзбагаціць творчую спадчыну паэта і ўдакладніць некаторыя факты яго жыцця і дзейнасці, але і пашырыць уяўленне пра тое асяроддзе, у якім жыў і працаваў народны пясняр.

Паводле жанру, дарчыя надпісы належаць да мініяцюры і скіраваны на асабістае выказванне пачуцця аўтара да адрасатаў: блізкіх па духу людзей, сяброў, сваякоў, прыяцеляў, з якімі былі звязаны гады сумеснага жыцця, любові ці дружбы, агульныя справы і творчыя стасункі або выпадковыя сустрэчы.

Адразу хацелася б адзначыць, што дакладная колькасць усіх дарчых надпісаў Янкі Купалы невядомая: пры жыцці паэта іх ніхто не рэгістраваў і не занатоўваў, а многія, напэўна, згубіліся падчас войн, іншых катаклізмаў, а некаторыя яшчэ не расшуканы або знаходзяцца ў асабістых бібліятэках, архівах і кнігасховішчах Масквы, Пецярбурга, Вільнюса, Польшчы і ЗША.

Задума ўключыць фактычны матэрыял, які адносіцца да эпісталярнага жанру Янкі Купалы, узнікла не без пэўных падстаў. Дарчыя аўтографы пісьменніка даўно прыцягвалі ўвагу даследчыкаў. Ім прысвяцілі свае артыкулы Ж.Далкюнас, В.Рагойша, Я.Саламевіч, М.Ярош і іншыя. Супрацоўнікі Купалавага музея няспынна вядуць працу па росшуку дарчых надпісаў. Так, на працягу апошніх год фонды музея папоўнілі новыя паступленні кніг і фотаздымкаў з купалаўскімі аўтографамі, з'явіліся новыя ксеракопіі дарчых надпісаў на кнігах, якія захоўваюцца ў сямейных архівах і бібліятэках.

Напрыклад, ад М. Лужаніна музеем атрыманы дзве кнігі, якія Янка Купала падарыў жонцы Лужаніна — Я.Пфляўмбаум. Зборнік «Ад сэрца» /М., 1940/ з лаканічным надпісам «Мілай слаўнай Жэні на добры ўспамін. Янка Купала. Масква. 7/VI — 40 г.» паэтэса атрымала падчас прыезду песняра ў сталіцу ў сувязі з Дэкадай беларускага мастацтва. А вось наступны аўтограф «Мілай Жэні на памятку. Янка Купала. Масква. 16/I — 41 г.» на зборніку вершаў «Песня будаўніцтву» /Мн.,1936/ сведчыць яшчэ аб адной сустрэчы ў Маскве Янкі Купалы з Я. Пфляўмбаум.

У Дзяржаўным Літаратурным музеі ёсць Купалава кніга «Творы. 1918—1928» /Белдзяржвыд, 1930/, падараваная аўтарам вядомаму дзеячу расійскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху, члену калегіі і загадчыку секцыі мастацтва і літаратуры Наркамасветы РСФСР Ф.Кону. Паводле звестак перыядычнага друку, Фелікс Кон прымаў удзел у падрыхтоўцы мерапрыемстваў да 25-годдзя літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы і віншаваў яго з гэтай нагоды 28 мая 1930 года. Сваю падзяку пясняр выказаў у лістах у рэдакцыі газет «Звязда», «Савецкая Беларусь» /30.05.1930 г./ і ў надпісе на кнізе: «Вельміпаважанаму тав. Феліксу Кону шчыра ўдзячны за добрыя словы ў дзень юбілею. Янка Купала. Масква. 12/VI — 30 г.».

З сямейнага архіва П.Тычыны ў фонды музея паступілі ксеракопіі чатырох дарчых надпісаў Янкі Купалы на тытульных лістах ягоных кніг.

Як вядома з перапіскі з Л. Клейнбартам, Янка Купала любіў і высока цаніў украінскага пісьменніка, аб чым сведчыць і значная колькасць падараваных ім кніг. Прыгадаем адзін з аўтографаў на зборніку «Избранные стихи" /М., 1934/: «Дарагому Паўлу Рыгоравічу Тычыну любаму песняру Украіны Янка Купала. Масква. 21/VIII—34 г.».

З Энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала» вядома, што ў Цэнтральнай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваюцца кнігі з дарчымі надпісамі: адна — І. Замоціну і дзве — П. Глебку. Нам пашчасціла выявіць трэці дарчы надпіс на кнізе «Избранные стихи» /Мн., 1939/: «Ноніку [сямейная мянушка П.Глебкі] Глебку — Янка Купала. Мінск. 3/XII — 39 г.» . У мінулым годзе з чатырох аўтографаў на кнігах Янкі Купалы зроблены ксеракопіі і перададзены ў музей паэта.

Такім чынам, колькасць выяўленых дарчых надпісаў песняра ўвесь час павялічваецца. Пакідаць без увагі гэтую частку творчасці Янкі Купалы нельга. Тым больш, што поўны збор твораў кожнага пісьменніка якраз і прадугледжвае публікацыю ўсяго, што выйшла з-пад пяра творцы.

У працэсе збору дарчых надпісаў намі былі выкарыстаны, у першую чаргу, усе аўтографы, якія захоўваюцца ў фондах музея Купалы. Іх там на сённяшні дзень 88, з якіх:16 — на фотаздымках, 1 — на блакноце да сваяка паэта В. Станкевіча, а астатнія — на кнігах.

Другая частка надпісаў была выяўлена ў шматлікіх кнігах, часопісах і газетах.

У распараджэнні даследчыкаў на сённяшні дзень маецца 138 дарчых надпісаў. Ведаючы, што сяброў, знаёмых і калег па працы ў Купалы было шмат, няма сумнення, што з цягам часу колькасць знойдзеных аўтографаў будзе павялічвацца. Пацвярджаецца гэтае меркаванне звесткамі з успамінаў некаторых уладальнікаў дарчых надпісаў, якія яшчэ чакаюць свайго апублікавання: А.Александровіча, У.Азарава, Э.Агняцвет, М.Бялана, Ю.Бібілы, А.Бурсікавай, Я.Бяганскай, В.Вайцінскай, Г.Гая, Р.Грычына, М.Джавахішвілі, А.Іверса, П.Кавалёва, М.Карповіча, А.Лахуці, Т.Масэнкі, Міхневічаў, Я.Новікава, Т. і Я.Паўловіч, Я.Пушчы, С.Пракопчыка, Я.Райніса, С.Станюты, В.Сямёнавай, М.Сяднёва, М.Хайноўскай, В.Харужай, А.Шанідзе, С.Шушкевіча, А.Шыманка.

Нам вядома і пра існаванне надпісаў, адрасаваных наступным установам: бібліятэцы г. Слуцка, бібліятэцы г. Ліды, Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» і інш.

У сувязі з гэтым пры сістэматызацыі дарчых надпісаў мы імкнёмся мець справу толькі з рэальным канкрэтным матэрыялам.

Дарчыя надпісы Янкі Купалы з'явіліся задоўга да выхаду ў свет першых яго паэтычных твораў. У 1904 годзе яшчэ не знакаміты пясняр, а 22-гадовы юнак сфатаграфаваўся і фотаздымак з аўтографам падарыў некалькім прыхільнікам сваёй творчасці.

Першым, па нашых дадзеных, у 1904 годзе атрымаў гэтую рэліквію Антон Ермаловіч. Асоба для нас зусім не знаёмая. Звестак пра яго мы не знайшлі. Але, як сведчыць пляменніца Янкі Купалы Ядвіга Юльянаўна Раманоўская, з успамінаў сваёй маці яна ведае, што Ермаловіч быў кіраўніком спраў у Зігмунда Чаховіча ў маёнтку Бяседы. Польскі памешчык, удзельнік паўстання 1863—1864 гг. З. Чаховіч / Сігізмунд Бернардавіч Чаховіч—Ляхавіцкі, 1831—1907/ меў вялікую бібліятэку, і Янка Купала з задавальненнем наведваў яго дом і карыстаўся літаратурай. А вось што звязвала класіка з А. Ермаловічам, нам можа падказаць толькі надпіс на фотаздымку, які ў перакладзе гучыць: «У знак прыязні і сяброўства пану Антону Ермаловічу ад шчыра зычлівага і прыязнага Я. Луцэвіча. Селішча».

Заканамерным з'яўляецца і той факт, што першыя дарчыя надпісы, як і першыя вершы Янкі Купалы, зроблены на польскай мове. Менавіта па-польску звяртаецца паэт да А.Ермаловіча, А.Луцкевіча, Л.Рагоўскага, М.Станкевіча, В.Славінскага і Я.Обста. Вось як гучыць Купалаў надпіс на кнізе «Гусляр», адрасаваны польскаму журналісту Яну Обсту: «Na pamiatke pierwszego spotkania sie w Petersburgu p. J. Obst jako dowod prawdziwego szacunku dla slawnej i pieknej preszlosci polskiej, od szczerego serca poswiecam. J. Kupala. Petersburg 14/ XI 1910 h.» .

Астатнія аўтографы напісаны па-беларуску ці па-руску: у залежнасці ад таго, да чалавека якой нацыянальнасці яны адрасаваны.

Пачатак творчай дзейнасці Янкі Купалы, як вядома, быў звязаны з Вільняй. Аб тым, з кім ён сустракаўся і падтрымліваў добрыя адносіны на працягу 1908—1909 гадоў, яскрава сведчаць дарчыя надпісы на фотаздымках, падараваных А.Бычкоўскаму, А.Луцкевічу, С.Палуяну і У.Самойлу. Апошняму з названых былі выказаны найцяплейшыя пачуцці аўтара: «На довад шчырага шанцунку і сардэчнай прыязні найлепшаму і найсправядлівейшаму свайму ўчыцелю, дабрадзею пану У. Ів. Самойлу ад Янкі Купалы. 16. XII» , а ніжэй было дапісана:

***«Шчасліў будзь,***
***заступніку бедных людзей,***
***Жыві, дажывіся***
***больш радасных дней.***
Я. Купала».

Дадзены дарчы надпіс выдзяляецца з усіх сабраных спалучэннем у ім празаічнай і вершаванай форм.

Творча плённымі для паэта былі гады жыцця ў Пецярбургу.

Тут у 1910—1913 гг. пабачылі свет яго першыя зборнікі «Гусляр» /1910/, «Адвечная песня» /1910/, «Шляхам жыцця» /1913/. Была пастаўлена п'еса «Паўлінка» /1913/. Захаваліся звесткі, што перыяд знаходжання Янкі Купалы ў горадзе на Няве быў вельмі багаты на сустрэчы, знаёмствы са шматлікімі вядомымі пісьменнікамі, вучонымі, журналістамі, дзеячамі мастацтва. Пацвярджэннем гэтаму служаць і дарчыя надпісы, якіх на пецярбургскі час прыходзіцца самая вялікая колькасць.

Пра знаёмствы Янкі Купалы з рускім пісьменнікам У. Г. Караленкам сведчыць дарчы надпіс на кнізе «Жалейка»: «Вельмі паважанаму пану В. Г. Короленко у знак шчырай пашаноты яго прац на полі грамадзянскім аўтар Янка Купала СПБ, 7/I 1911 г.». Гэты надпіс неаднаразова ўпамінаўся ў артыкулах і манаграфіях некаторых даследчыкаў, а вось як і дзе адбылася сустрэча пісьменнікаў, з якой нагоды быў падараваны зборнік, звестак не было.

Крыху праліў святло на гэта пытанне даследчык Г. Міронаў, які ў кнізе «Короленко» піша: «В начале января 1911 года группа петербуржцев и москвичей решила отметить 25-летний юбилей возвращения писателя из ссылки, соединив его с серебряной свадьбой супругов Короленко».

Супаставіўшы даты на дарчым надпісу — 7 студзеня 1911 года — з успамінамі кнігі Г. Міронава, мы прыйшлі да высновы, што падчас гэтага мерапрыемства, магчыма, Я. Купала і прэзентаваў У. Г. Караленку сваю кнігу. Дарэчы, ва ўсіх крыніцах, дзе згадваўся аўтограф, ён быў пададзены з некаторымі недакладнасцямі.

Мы звярнуліся толькі да аднаго дарчага надпісу пецярбургскага перыяду, а іх захавалася дзевятнаццаць. Акрамя У. Караленкі, кнігі былі падараваны ў бібліятэку Санкт-Пецярбургскага імператарскага універсітэта /2/, дзе працаваў у той час Б.Эпімах-Шыпіла, кампазітару Л. Рагоўскаму /2/, прафесару медыцыны В. Славінскаму /1/, журналісту Я. Обсту /3/, выкладчыку Л. Сейруку /3/, сябру А.Гагалінскаму /1/, літаратарам А. Карынфскаму /4/ і В. Ластоўскаму /1/, знаёмаму П. Бычкоўскаму /1/.

Шмат кніг са сваім дарчым надпісам Янка Купала падарыў літаратарам, вучоным, журналістам, дзеячам мастацтваў з Беларусі, з якімі яго звязвалі цесныя творчыя ўзаемаадносіны. Сярод іх С.Баранавых, І.Барашка, К.Буйла, М.Гарэцкі, П.Глебка, І.Грамовіч, М.Грамыка, П.Граніт, У.Дубоўка, А.Дудар, І.Замоцін, В.Ластоўскі, А.Луцкевіч, М.Машара, П.Мядзёлка, С.Новік-Пяюн, С.Палуян, Я.Пфляўмбаум, У.Самойла, А.Стафановіч, В.Таўлай, У.Чаржынскі. Але Я.Купала не быў нацыянальна абмежаваны. Па роду сваёй дзейнасці ён часта наведваў гарады Беларусі і іншых рэспублік, сустракаўся з прадстаўнікамі культуры розных нацыянальнасцей у Мінску. Аб творчых і сяброўскіх сувязях беларускага песняра з рускімі сведчаць аўтографы на кнігах В.Брусаву, Бахмецьевым, С.Гарадзецкаму, М.Горкаму, Б.Емяльянаву, М.Ісакоўскаму, Г.Караваевай, У.Караленку, А.Карынфскаму, В.Лідзіну, Я.Мазалькову, М.Папову, Д.Шырыну-Юрэнеўскаму; з украінцамі — П.Панчу, П.Тычыну, І.Свян-

цікаму; з палякамі — Я.Обсту, Л.Рагоўскаму; з латышом Я. Райнісам; з чувашам С. Эльгерам; армянінам Г. Маары.

Меншая частка надпісаў адрасавана родзічам, сябрам і знаёмым Янкі Купалы. Тут былі прадстаўнікі розных спецыяльнасцей: дзяржаўныя дзеячы — Я.Адамовіч з жонкай С.Шамардзіной, Я.Дыла; настаўнікі — А.Посах, Л. і І.Рытар, Л.Сеўрук; мастакі і скульптары — З.Азгур, К.Елісееў, М.Зінгер; лётчык-выпрабавальнік А.Грацыянскі, былы ксёндз А.Сак, інжынеры В.Станкевіч і М.Нарэйка; медыкі — А.Метэхелі, Ц.Джавахішвілі, Калітоўскія, А.Старасцін.

Аналізуючы дарчыя надпісы па колькасці да адной асобы, мы ўстанавілі, што больш за ўсіх атрымалі кніг і фотаздымкаў з аўтографам Янкі Купалы, без сумнення, яго блізкія сябры і аднадумцы, перакладчыкі яго твораў С.Гарадзецкі і М.Ісакоўскі. У С.Гарадзецкага захавалася на памяць ажно дзесяць дарчых надпісаў на кнігах і фотаздымках паэта Беларусі. М. Ісакоўскі меў шэсць, А. Карынфскі і І. Барашка — па пяць, Я. Адамовіч з С. Шамардзіной, К. Буйло, П. Мядзёлка, П. Тычына — па чатыры; В. Брусаў, П. Глебка, Елісеевы, Калітоўскія, Л. Сеўрук — па тры аўтографы.

Шчырымі паклонніцамі паэтычнага таленту Я.Купалы былі З.Бандарына, Ю.Бібіла, К.Буйла, Ц.Джавахішвілі, Т.Здановіч, М.Елісеева, Г.Караваева, А.Метэхелі, П.Мядзёлка, А.Рабініна, І. і Л.Рытар, Я.Пфляўмбаум, С.Шамардзіна. Сярод агульнай колькасці дарчых надпісаў 24 аказаліся да жанчын, пры гэтым не ўлічваліся аўтографы, адрасаваныя сем'ям /Бахмецьевым, Гарэцкім, Калітоўскім, Чаржынскім/.

Свае ўспаміны аб сяброўстве з Янкам Купалам пакінулі Ю.Бібіла, К.Буйло, П.Мядзёлка, С.Шамардзіна. Іх цёплыя ўзаемаадносіны пацвярджаюць і дарчыя надпісы: «Мілай Костцы на ўспамін аб віленскіх барыкадах. Шчыра Я.Купала. Масква. 2/III—29 г.» /Зб. твораў, т. І. Мн., 1928/ і «Дарагой Паўлінцы на памятку ад шчырага сэрца Янка Купала. Менск, 19/I—30 г.» /Сб. стихов. М.-Л., 1930/.

З вялікай павагай адносіўся паэт да жанчын-урачоў, якія яго лячылі. Захаваўся фотаздымак, падараваны А. Метэхелі, з аўтографамі адразу двух пісьменнікаў: «Незабываемой Елене Михайловне на память от благодарных пациентов. А.Новиков-Прибой» і ніжэй рукой Купалы дапісана: «С большой любовью и сердечностью 17. 01. 1938. Янка Купала». Урач Ц. Джавахішвілі атрымала «Избранные произведения» /М., 1938/ з наступным прысвячэннем: «Доктору Тине Джавахишвили /напісана з памылкай. — **К. К.**/ славной златокудрой грузинке жить, как в сказке, вечно с песней радости и счастья. Янка Купала. Цхалтубо. 30/XI—38г.».

Хацелася б прыгадаць яшчэ адзін дарчы надпіс. На кнізе «Спадчына» /1922/ чытаем: «На добры ўспамін п. Тамары Здановіч Янка Купала. Менск, 16/I — 22г.» . З тэксту аўтографа цяжка зразумець, хто гэта жанчына. Але дата 16 студзеня 1922 г. дае падставу меркаваць, што Т. Здановіч адной з першых атрымала ў падарунак зборнік «Спадчына», а гэта наводзіць на думку, што яна магла працаваць у Беларускім кааперацыйна-выдавецкім таварыстве «Адраджэнне», дзе была выдадзена кніга.

Янка Купала любіў падарожнічаць і таму падоўгу не заседжваўся на адным месцы. Геаграфічны дыяпазон яго перамяшчэнняў на працягу жыцця добра прагледжваецца па назвах гарадоў і мястэчак, якія пазначаны на дарчых надпісах: Акопы, Беласток, Вільня, Казань, Кіславодск, Ліда, Масква, Мінск, Пецярбург, Печышчы, Селішча, Слонім, Цхалтуба, Чабаксары. Гэта толькі частка тых мясцін, якія наведаў наш знакаміты зямляк.

Характарыстыка будзе няпоўнай, калі не сказаць, што Янка Купала дарыў свае аўтографы асобам без уліку іх сацыяльнага стану. Іх атрымлівалі родзічы і сябры, дзеці і дарослыя, мужчыны і жанчыны, высокаадукаваныя і малапісьменныя. Змест і стыль дарчых надпісаў сведчыць аб прастаце, чалавечнасці і вялікай душэўнасці беларускага паэта, аб яго паважаным стаўленні да звычайных людзей.

Вядома, што ў невялікім па аб'ёме артыкуле цяжка разгледзець усе аспекты, звязаныя з дарчымі надпісамі Янкі Купалы. Тым больш, што праца па іх зборы працягваецца. Мы будзем вельмі ўдзячнымі ўсім, хто мог бы пашырыць нашы ўяўленні і факты аб аўтографах паэта. Будзем з нецярпеннем чакаць вашых водгукаў па адрасе: 220072, Мінск, пр-т Скарыны, 66. Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Тэлефон—факс 284 - 28 — 87.

**Клаўдзія КАЗЫРА**

# Адольф ВАРАНОВІЧ



22 кастрычніка 2001 года памёр вядомы беларускі пісьменнік Адольф Вaraновіч.

Адольф Усцінавіч Варановіч нарадзіўся 15 чэрвеня 1940 года ў вёсцы Мікольцы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Мядзельскай сярэдняй школы паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча, якое скончыў у 1960 годзе. Працаваў у мастацкай майстэрні Аршанскага льнокамбіната мастаком па тканінах, а таксама ў дзіцячай мастацкай школе выкладчыкам. З 1989 года — член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Працяглы час працаваў у аддзеле прозы часопіса "Полымя" (1991—2001).

Першыя апавяданні Адольфа Варановіча з'явіліся ў 1970 годзе ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва". У розныя гады яго творы друкаваліся на старонках беларускіх перыядычных выданняў. Ён выдаў кнігі аповесцяў і апавяданняў "Высокі падмурак" (1978), "Агні хат" (1986) і інш. Творы празаіка вылучаліся веданнем жыцця, уменнем цікава і праўдзіва пераказаць сучасніка.

Адольф Варановіч быў зычлівым, добрым чалавекам, шмат увагі надаваў выхаванню творчай моладзі.

Светлы вобраз Адольфа Варановіча назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў, працаваў з ім.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# З Крыма прыйшла сумная вестка

*Заўчасна пайшоў з жыцця старшыня* Садружнасці беларускіх, расійскіх, украінскіх і крымскіх пісьменнікаў, кіраўнік пісьменнікаў Аўтаномнай Рэспублікі Крым, галоўны рэдактар часопіса Саюза беларускіх, рускіх, украінскіх пісьменнікаў і Міністэрства культуры АРК "Брега Тавриды" Анатоль Іванавіч Дамброўскі.

Здаецца, учора надзвычай прыгожы, непаўторны куточак прыроды на ўзбярэжжы Чорнага мора з адметнай назвай Кактэбель — адзін з самых цудоўных куточкаў зямлі, як некалі вызначыла яго Марына Цвятаева, прымаў удзельнікаў 2-й Крымскай сустрэчы пісьменнікаў трох братніх славянскіх краін.

Гасцінна сустракала гасцей старажытная Таўрыя, якая ў свой час паставіла на крыла вядомых усяму свету пісьменнікаў і мастакоў, — Пушкіна, Айвазоўскага, Чэхава, Купрына, Грына, Валошына, Багдановіча... Толькі ўслухайцеся ў непаўторныя пушкінскія радкі:

***Прекрасны вы, брега Тавриды,***<br>***Когда вас видишь с корабля***<br>***При свете утренней Киприды.***<br>***Как вас впервой увидел я.***

Гэта — было і, на вялікі жаль, аднойчы знікла, як кажуць, па незалежных ад нас прычынах. Нішчыць, разбурэць, як сёння ўсе глыбока ўсвядомілі, значна прасцей, чым аднаўляць ці нанова будаваць. І вось зноў з'явілася надзея для пісьменнікаў краін СНД вярнуцца на гасцінную крымскую зямлю, у тым самым дамы творчасці, якія пакінулі дарагія ўспаміны аб незабыўных сустрэчах з калегамі па працы з рэспублік былога Савецкага Саюза, аб сонечных днях сваёй маладосці.

Ініцыятарам гэтай, ужо другой па ліку, сустрэчы пісьменнікаў быў А. Дамброўскі. Менавіта ён рыхтаваў базу, матэрыяльную і духоўную, правядзення пісьменніцкіх форумаў на крымскай зямлі. Менавіта яму на сёлетняй сустрэчы была даручана ганаровая і адказная справа — палажыць першыя цагліны ў фундамент Садружнасці — правесці рэгістрацыю Статута арганізацыі ў Крыме і прадставіць яго сустаршыням у Маскве, Мінску і Кіеве для далейшай работы ў адпаведнасці са статутнымі нормамі.

Свае важкія "цагліны" Анатоль Іванавіч паспеў пакласці — Статут быў зацверджаны і прыняты на 2-м форуме пісьменнікаў у Ліваdзійскім палацы сонечнай Ялты.

Бязлітасная смерць абарвала жыццё рупліўца айчыннай літаратуры, грамадскага дзеяча, хто не адзін раз на год прыходзіў і на магілу нашага Максіма Багдановіча, прыводзіў сюды шматлікія экскурсіі, даглядаў яе...

Паверце, у наш жорсткі прагматычны час, калі нахабная Лічба падмінае пад сябе Яго Вялікасць Слова, гэта каштуе вельмі дарагога.

У чэрвені будучага года ў сонечную Таўрыду зноў з'едуцца літаратары з Беларусі, Расіі, Украіны...

На вялікі жаль, з намі ўжо не будзе гасціннага кіраўніка крымскіх літаратараў. Застануцца яго кнігі. Яго справа па аб'яднанні і інтэграцыі творчых сіл братніх славянскіх краін, ля вытокаў якой ён стаяў.

Якую сёння нам працягваць.

Бывай, дружа!

**Уладзімір ГЛУШАКОЎ,**<br>**сустаршыня Садружнасці пісьменнікаў Беларусі, Расіі, Украіны і Крыма**

Калектыў рэдакцыі і рэдкалегія часопіса "Полымя" глыбока смуткуюць у сувязі са смерцю былога супрацоўніка рэдакцыі, пісьменніка **Адольфа Усцінавіча ВАРАНОВІЧА** і выказваюць шчырае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

# Прыклад і вопыт Іераніма Філіповіча

Пакуль што ў беларускіх энцыклапедыях імя Іераніма Філіповіча (1912—1998) не згадваецца. Не згадваецца імя чалавека, які многія дзесяцігоддзі адпрацаваў на ніве магілёўскага краязнаўства. Як вынік яго, І. Філіповіча, працы — шматлікія артыкулы ў перыядычным друку (у "Магілёўскай праўдзе", іншых магілёўскіх, а таксама рэспубліканскіх выданнях), дзве кнігі — "Міфы і праўда аб Магілёве" і "Могилев. Хроника событий 1917—1918 (по архивным и печатным материалам)".

Пачаўшы друкавацца ў сталым узросце (першая публікацыя — у "Магілёўскай праўдзе" — у 1966 годзе), І. Філіповіч у 1970-я гады, напрыканцы жыцця, выступаў у друку з 15-20 і болей публікацыямі штогод. Але і гэта — не самы галоўны плён работы магілёўскага даследчыка, з кім далёка не кожны прафесійны гісторык параўнаецца. І. Філіповіч працаваў быццам цэлы навукова-даследчы Краязнаўчы інстытут. За гады сваіх росшукаў ён прагледзеў 198 архіўных фондаў, 1556 адзінак захоўвання (тытанічныя абсягі!). І адусюль былі зроблены выпіскі па фактах, датах, маючых дачыненне да магілёўскай даўніны.

Праглядаў краязнавец і іншыя фонды і матэрыялы, дзе патрэбнай інфармацыі не аказалася. Акрамя архіўных матэрыялаў, звярнуўся да вялікай колькасці дасавецкіх магілёўскіх газет, памятных кніг, адрас-календароў, выданняў губернскага статыстычнага камітэта, епархіяльных ведамасцяў. На аснове сваіх росшукаў І. Філіповіч склаў шэраг *прац-рукапісаў (дакладней — 16).*

Што гэта за працы? Як прыклад — новая храналагічная хроніка горада з 1267 па 1700 г. (на 800 старонках з 300 фотаздымкамі асвятляюцца 1100 асноўных падзей у жыцці Магілёва).

Зараз у Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі знаходзіцца фонд І. Філіповіча. У ім — 25 папак з дапаможнымі матэрыяламі і матэрыяламі для далейшага прадаўжэння працы па гісторыі горада. У фондзе і 116 агульных сшыткаў з запісамі зыходных матэрыялаў, 2390 фотанегатываў, 10000 картак даведачнага апарата. І гэта яшчэ не ўсё. Матэрыялы І. Філіповіча па гісторыі Магілёва захоўваюцца і ў Магілёўскім абласным архіве. Ёсць асобны фонд у аддзеле рукапісаў бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

А своеасаблівым падсумоўваннем працы ўсяго жыцця І. Філіповіча з'яўляецца біябібліяграфічны даведнік "Філіповіч Іеранім Іосіфавіч" (Магілёў, 1999 год). Выдадзена сціплая і унікальная па многіх пазіцыях кніжачка (тыраж усяго 35 асобнікаў!) з удзелам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна, аддзела краязнаўчай літаратуры і Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума імя А. С. Пушкіна. Складальнік даведніка — навучэнка тэхнікума А. Нарэйка. Рэдактар — Л. Гуркові ч.

Даведнік складаецца з наступных раздзелаў: "Нястомны руплівец", "Храналагічны паказальнік прац І. І. Філіповіча", "Літаратура аб жыцці і дзейнасці І. І. Філіповіча". Фактычна складальнік выступае і аўтарам. Безумоўна, першы раздзел падае сур'ёзнае ўяўленне аб выдатным магілёўскім краязнаўцы. У дадзеным выпадку важны пералік тэматычных накірункаў, абраных для даследавання краязнаўцам. Але выклікае і некаторае шкадаванне.

У прыватнасці, хацелася б даведацца як мага болей пра "патрыярха магілёўскага краязнаўства". Аўтар раздзела пазначае: "Цікавасць да гісторыі горада ўзнікла ў будучага вядомага краязнаўца ў 1930 годзе пасля таго, як ён пазнаёміўся з кнігамі Дзембавецкага "Опыт описания Могилёвской губернии..."

*Першаштуршок вядомы. Але акалічнасці* жыцця, кола знаёмых, паплечнікаў, ды нават звесткі пра сям'ю — усё гэта хіба не цікава?.. Як, дзякуючы якому знешняму асяроддзю фарміравалася асоба краязнаўцы? Асоба чалавека з кагорты тых, пра каго Леанід Лявонаў сказаў: "...Краяведы... гэтыя... сціплыя людзі, заўсёды з вачыма насцеж і насцярожаным сэрцам, — сапраўдныя энцыклапедысты роднага краю ў дыяпазоне ад эндэмаў флоры і фауны да паданняў, якім няма цаны і якія знікаюць да вялікай хронікі... Гэта каштоўная катэгорыя патрыётаў".

Патрыятызм І. Філіповіча, сапраўды, не мае межаў. Фактычна толькі частка знойдзенага, акрэсленага ім сталася прадметам уласных артыкулаў. Астатняе — на перспектыву. Астатняе — для іншых, для даследчыкаў-наступнікаў, якім будзе шматкроць лягчэй.

Ёсць у даведніку і раздзел — "Літаратура аб жыцці і дзейнасці І. І. Філіповіча". 18 публікацый прысвечана грамадскай, краязнаўчай рабоце слыннага краязнаўца. Многа ці мала? Хацелася б верыць, што публікацыі яшчэ будуць. Але і зараз варта назваць тых (найперш, відавочна, — журналістаў, якія заўважылі Філіповіча), хто словам сваім падтрымаў, энергетычна насыціў даследчыка, — Л. Ламсадзе (яшчэ ў 1983 годзе ў "Магілёўскай праўдзе"!), С. Гаўрылава, Д. Гаранінава, М. Ножнікаў, І. Пушкін, В. Юшкевіч. Здзіўляе тое, што не было, няма ніводнай публікацыі ў рэспубліканскім друку. Нават крыўдна...

Біябібліяграфічны даведнік, які можна лічыць падзеяй у развіцці не толькі магілёўскага, але і ўвогуле беларускага краязнаўства, з'яўляецца фундаментальнай асновай для працягу іншых работ у сувязі з ушанаваннем І. Філіповіча. Магчыма, магілёўская асветніцкая грамадскасць (на мінскія дзяржаўныя інстытуты, акрамя архіваў, спадзяванне дарэмнае) паспрые і выданню (хаця б часткова) спадчыны І. Філіповіча. Мо той жа аўтар біябібліяграфічнага даведніка возьмецца за ўкладанне зборніка "Памяці І. Філіповіча"?.. У Мінску, між іншым, ёсць адно прыватнае выдавецтва — "Пейто", якое самаахвярна друкуе краязнаўчыя кніжкі.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

БЫЛОЕ

# “Гостили у нас в Блони ...писатель-народник Григорий Мачтет...”

Блонь — прытулак для многіх рэвалюцыянераў XIX — пачатку XX стагоддзя. Хто толькі ў маёнтак А. Бонч-Асмалоўскага не прыязджаў?! Сярод іх — і празаік, журналіст, аўтар вершаваных твораў Рыгор Мачтэт (1852—1901). Анатоль Восіпавіч піша ў сваіх успамінах: “Иногда подолгу, иногда короткое время гостили у нас в Блони и многие другие революционеры и общественные деятели. Например: ...писатель-народник Григорий Александрович Мачтет под конец жизни перешедший в лагерь кадетов...» І калі пра таго ж рускага пісьменніка Яўгена Чырыкава ў стасунках з Беларуссю, Блонню неаднойчы згадвалася, то Мачтэт і Блонь, Пухавіцкі край — тэма зусім нераскрытая. І нават сам факт знаходжання Мачтэта ў Блоні ў сучасным беларускім літаратуразнаўстве не згадваецца. Канечне ж, калі б была такая магчымасць, то патрэбна было б уважліва прагледзець фонды Мачтэта ў Пушкінскім Доме (Інстытут рускай літаратуры) і Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы (Санкт-Пецярбург), а таксама ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (Масква). Усё ж такі нешта пра Блонь і Бонч-Асмалоўскіх там павінна быць.

Пакуль жа раскажам пра самога Мачтэта. Наколькі гэта цікавая, прыкметная постаць у рускай літаратуры XIX стагоддзя?.. Нарадзіўся Рыгор Аляксандравіч у Луцку Валынскай губерні. У сям'і павятовага суддзі. У юнацтве знаходзіўся пад уплывам часопіса “Современник”, паэзіі М. Някрасава, вучыўся ў Неміроўскай гімназіі, выключаны ў 1865 годзе — за спачуванне паўстанцам. Пасля вучыўся ў Камянец-Падольскай гімназіі (выключаны ў 1868 годзе — за сутыкненне з інспектарам з нагоды адносін да М. Чарнышэўскага). На гэты раз без права паступлення ў іншыя навучальныя ўстановы. У 1870 годзе атрымаў дазвол працаваць выкладчыкам геаграфіі і гісторыі. Пасля выкладаў у Магілёве і Камянец-Падольскім. У 1871 становіцца членам народніцкага гуртка і ўлетку 1872 года з двума сябрамі адпраўляецца ў Амерыку, дзе працуе на ферме, потым — у земляробчай камуне Фрэя. Да таго часу і адносяцца першыя творчыя вопыты Мачтэта: ён пачынае супрацоўнічаць з рускай эмігранцкай газетай “Свобода”. Вярнуўшыся з Амерыкі, апісаў свае замежныя ўражанні ў шэрагу нарысаў. Пазней, праз 16 гадоў (у 1889 годзе ў Маскве), яны ўвайшлі ў кнігу “Па белым свеце”. Адзін з нарысаў — “Германія” — быў высока ацэнены самім Някрасавым.

У 1874—1875 гадах Мачтэт зноў — за граніцай. Відаць, з нейкімі канспіратыўнымі мэтамі. Як бачым, рэвалюцыянерам, народнікам Рыгор Аляксандравіч становіцца раней, чым Бонч-Асмалоўскі. Зразумела, ёсць розніца ва ўзросце. У сакавіку 1876 года пад уражаннем пахавання народніка Чарнышова Мачтэт напісаў верш “Последнее прости!..” (“Замучен тяжелой неволей...”). Доўгі час гэты верш як рэвалюцыйная песня прыпісваўся анархісту П. Лаўрову. У 1878 годзе Мачтэта арыштавалі за ўдзел у падрыхтоўцы ўцёкаў палітычных зняволеных. У каментарыях да “Гісторыі майго сучасніка” У. Караленкі ёсць удакладненне: “Пісьменнік Мачтэт Р. А. ...прымаў удзел у рэвалюцыйным руху, у прыватнасці — у распрацоўцы плана ўцёкаў С. Каваліка і П. Вайнаральскага”. Вось і нітачка, якая магла звязаць Бонч-Асмалоўскага і Мачтэта — Кавалік. Кавалік Сяргей Піліпавіч (1846—1926) — стары беларускі рэвалюцыянер-народнік. Вучыўся ў Пецярбургскім і Кіеўскім універсітэтах. Падтрымліваў сувязі з М. Бакуніным, П. Лаўровым, П. Ткачовым. Стварыў народніцкія гурткі ў Харкаве, Пецярбургу, Саратаве, Самары. У 1874 годзе арыштаваны і знаходзіўся ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Э. А. Ліпецкі на старонках “Беларускай Энцыклапедыі” сведчыць: “З 1898 працаваў у Мінску. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 нам. старшыні Мінскай гарадской думы, старшыня Мінскага губернскага зямельнага камітэта...”

Бонч-Асмалоўскі піша ва ўспамінах: “У другой палове 90-х гадоў таварышы маёй жонкі Варвары Іванаўны па працэсе 193-х, былыя катаржнікі, Сяргей Піліпавіч Кавалік і Кацярына Канстанцінаўна Брэшка-Брэшкоўская закончылі свае тэрміны пасялення ў Сібіры пасля катаргі і атрымалі права жыць па ўсёй Расіі. Яны зліставаліся з Варварай Іванаўнай і прыехалі пагасцяваць у нас у Блоні. Абодва яны, нягледзячы на тое, што былі людзьмі сталага ўзросту, цалкам захавалі захапленне маладосці, у палітычных адносінах заставаліся народнікамі-рэвалюцыянерамі і сацыялістамі. Да апошняй ступені простыя, непатрабавальныя, скараціўшыя свае патрэбы да мінімуму, яны былі прыроджанымі дэмакратамі. Адны іх расповеды пра дух 70-х гадоў, пра ўсё перанесенае ў цэнтралках, на катарзе, у далёкай ссылцы (Верхаянск — полюс холаду) рабілі на моладзь глыбокія ўражанні, дзейнічалі глыбока выхаваўчым чынам. У хуткім часе Сяргей Піліпавіч Кавалік быў запрошаны на службу ў Акцызнае ведамства ў Мінск арганізаваць рахунказодства па гарэлачнай манаполіі для ўсяе губерні і пераехаў у Мінск...” Відаць, недзе ў 1890-я гады і прыязджаў Мачтэт у Блонь.

На той час Рыгор Аляксандравіч быў ужо знакамітым пісьменнікам. У 1887 годзе пабачыла свет яго кніга “Аповесці і апавяданні”. Рэцэнзент “Северного вестника” паставіў Мачтэта ў адзін рад з У. Гаршыным і У. Караленкам: маўляў, літаратар валодае “не толькі веданнем народнага жыцця, але і глыбокай псіхалагічнай праўдай”. Мачтэт супрацоўнічае ў многіх часопісах і газетах: “Русская мысль”, “Северный вестник”, “Русские ведомости”, “Газете А. Гатцука” (быў і рэдактарам гэтага выдання ў 1890 годзе). Пісьменнік быў перакананы, што “белетрыст павінен даваць не партрэты... а абуджаць настрой чытача малюнкамі жыцця”. Рэвалюцыйны настрой інтэлігенцыі — у рамане Мачтэта “На заре” (1892—1893), у аповесці “Два типа” (1898), у апавяданні “Первый урок” (1894).

Найболей значным творам Мачтэта з'яўляецца аповесць “Из невозвратного прошлого” (1886). Аўтар ад імя былога прыгоннага мужыка, які выбіўся ва ўпраўляючага канторай, адлюстроўвае побыт і норавы дарэформеннай заходнеўкраінскай вёскі ў прадучванні “волі”. Леў Талстой тлумачыў папулярнасць Мачтэта (дарэчы, літаратары былі знаёмыя, перапісваліся паміж сабою) тым, што ён быў “пострадавшим”. Караленка падкрэсліваў цягу блонскага госця да “перабольшвання”. Пра гэта — у караленкаўскай “Гісторыі майго сучасніка”.

Хаця і пісаў Мачтэт досыць шмат, матэрыяльныя нястачы адольвалі і яго. У 1896 годзе Рыгор Аляксандравіч паступае на сталую службу справаводам губернскага Акцызнага ўпраўлення ў Жытомір. Адначасова супрацоўнічаў у мясцовай газеце “Волынь”. Выступае ў ёй як публіцыст і сатырык. Лепшыя апавяданні і фельетоны таго часу сабраны ў пасмяротным зборніку “Последние рассказы и Письма из Гонолулу” (Жытомір, 1902 год).

У 1900 годзе Мачтэт пераязджае ў Пецярбург, працягвае служыць у Міністэрстве фінансаў. Памёр Рыгор Аляксандравіч у час адпачынку летам 1901 года — у Крыме. Прычына — параліч сэрца.

Яшчэ ў 1901 годзе ў Кіеве выйшаў 12-томны Збор твораў Р. Мачтэта. 10-томны збор твораў Мачтэта пабачыў свет і ў Пецярбургу ў 1911—1913 гадах. Творы Рыгора Аляксандравіча перавыдаваліся асобнымі кнігамі і ў савецкі час — у 1958 і 1960 гадах.

Варта заўважыць і тое, што яшчэ на пачатку XX стагоддзя асобныя творы Мачтэта былі перакладзены на беларускую мову.

Ці ведаў аб гэтым Анатоль Восіпавіч Бонч-Асмалоўскі?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД “ЛіМа”

## “Небяспека — СНІД”

**У мэтах працягу адлюстравання сродкамі плаката глабальнай небяспекі СНІД Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь абвясціла чарговы тур рэспубліканскага конкурсу на стварэнне лепшага плакатнага твора антыснідаўскай тэматыкі. У Палажэнні аб адкрытым рэспубліканскім конкурсе на лепшы плакат антыснідаўскай тэматыкі гаворыцца:**

“Міністэрствам культуры і Рэспубліканскім цэнтрам прафілактыкі СНІД праводзіцца адкрыты рэспубліканскі конкурс на стварэнне лепшага плаката пад дэвізам “Небяспека — СНІД”.

Галоўнай мэтай конкурсу з'яўляецца адлюстраванне сродкамі плаката глабальнай небяспекі СНІД — цяжкага інфекцыйнага захворвання, з якім змагаецца чалавецтва планеты.

Конкурс праводзіцца ў тэрмін з 19 кастрычніка па 14 снежня 2001 года.

Удзельнікі конкурсу ў вызначаны тэрмін падаюць свае прапановы журы па адрасе: г. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 47, Музей сучаснага выяўленчага мастацтва.

Арыгіналы плакатаў павінны быць наклеенымі на цвёрдай аснове памерамі 60x90 см, 70x108 см, выкананыя ў тэхніцы, спрыяльнай аўтару (гуаш, тэмпера, фотамантаж).

Па тэхнічных якасцях работы павінны адпавядаць умовам друку: без склеек, трэшчын, перагібаў.

Фотаплакаты прадстаўляюцца ў адрэтушаваным выглядзе. На адваротным баку плакат пазначаецца дэвізам з шасцізначнай лічбы (вышыня знакаў — 1 см). Пад гэтым жа дэвізам прадстаўляецца заклеены канверт, у якім павінны знаходзіцца звесткі аб аўтары і яго адрас.

Арыгіналы плакатаў, прадстаўленыя на конкурс, якія не адпавядаюць умовам конкурсу, журы не разглядае.

За лепшыя плакаты ўстанаўліваюцца тры прэміі:

адна першая — 20 мінімальных заработных плат;
адна другая — 15 мінімальных заработных плат;
адна трэцяя — 10 мінімальных заработных плат.

Журы мае права, зыходзячы з прадстаўленых прапаноў, мяняць колькасць прэмій і іх памеры ў межах вызначанай агульнай сумы прэмій. Прэміяваныя плакаты будуць друкавацца паліграфічным спосабам, астатнія — у месячны тэрмін пасля падвядзення вынікаў конкурсу вяртаюцца аўтарам.

Незапатрабаваныя плакаты знішчаюцца з афармленнем адпаведнага акта. Друкаваныя плакаты з'яўляюцца ўласнасцю Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІД і выкарыстоўваюцца ўладальнікам у справе пашырэння барацьбы са СНІДам.

Заўвагі:

кансультацыі адносна тэматыкі конкурсу, тлумачальныя матэрыялы ўдзельнікі конкурсу могуць атрымаць у Рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІД (220030 г. Мінск, вул. Ульянаўская, 3. Тэл. 227-42-16);

згодна з рэкамендацыяй Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў плакатах па барацьбе са СНІДам нельга выкарыстоўваць выявы альбо сімволіку, якая адмоўна ўздзейнічае на псіхіку людзей.




Янусь МАЛЕЦ

### Мініпошукі

*Не скажаш ты,*
*хоць коле зрэнкі,*
*Да густу больш кладзецца*
*што —*
*Ці міні моднае студэнткі,*
*Ці міністэрскае аўто.*

**Казімір КАМЕЙША**

*Зноў паплылі сукенкі ўгору*
*І з кожным днём*
*усё смялей.*
*Яшчэ мялі асфальт учора,*
*А сёння —*
*аж ад ног святлей.*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Старая “міні” —*
*зноўку госця.*

**Алег САЛТУК**

*Той на парнаскае вяршыні*
*Свой не пакіне яркі сцяг,*
*Хто хоць радок*
*не склаў пра міні,*
*Калі ўжо нават і ў гадах.*

*Ну вось Салтук,*
*чым не мужчына,*
*Галоўны віцебскі паэт?*
*За міні ён са светлай мінай*
*Пайсці гатоў хоць*
*на край-свет!*

*Ён і ў СП рэкамендуе*
*Заўжды паэтак*
*тых хутчэй,*
*Хто вочы смела атакуе*
*Сукенкай,*
*што найкарацей.*

*А ўзяць*
*вядомага Камейшу —*
*Пастаў пад бок*
*яму аўто, —*

*Дык ён складзе*
*усё роўна вершык,*
*Вы здагадаліся, пра што?*

*Упнецца зрэнкамі*
*ў студэнтку,*
*На ногі хціва*
*паглядзіць —*
*Паэт ужо*
*не маладзенькі,*
*А, бач,*
*не супраць саграшыць!*

*А мо грахом тут*
*і не пахне?*
*Мо мінімудры гоняць гук*
*З апошніх сіл*
*і дум астатніх*
*Камейша Казік і Салтук.*

*Каб максіпошукам*
*зацятым*
*Адкрыць раптоўна*
*для людзей,*
*Чаму прырост*
*мінізарплаты*
*Спадніцы робіць карацей?*

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар
Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ,
Алесь ГАЎРОН — *адказны сакратар,*
Мікола ПІЛЬ,
Уладзімір МАРУК — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Яўген РАГІН,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-7985
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8462
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462
Тэл./факс — 284-7965



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 25.10.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 6269

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12